# In Вільня veritas

ТВОРЫ
ФІНАЛІСТАЎ КОНКУРСУ
МАЛАДЫХ ЛІТАРАТАРАЎ,
ПРЫСЬВЕЧАНАГА СТАГОДЗЬДЗЮ
ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»

Укладальнік і рэдактар Андрэй Хадановіч
Прадмова Ганны Кісьліцынай

**Мінск**
*Выд. І. П. Логвінаў*
**2007**

Літаратурна-мастацкае выданьне

# In Вільня veritas

Творы фіналістаў конкурсу маладых літаратараў, прысьвечанага стагодзьдзю газэты «Наша ніва»


Укладальнік і рэдактар *Андрэй Хадановіч*
Вокладка *Арцём Лявы*
Вярстальнік *Сяргей Кандраценка*

Падпісана да друку 19.09.2007 г.
Фармат 84x108 $^1/_{32}$. Папера афсэтная.
Друк афсэтны. Гарнітура Pragmatica.
Ум. друк. арк. 9,4. Ул.-выд. арк. 9,45.
Наклад 500 асобн. Замова 1062.

Надрукавана ў Вільні.

каванага сьвету дарослых ці, наадварот, цьвярозы погляд на грамадзтва, у якім абсурду больш, чым у любым экспэрымэнтальным тэатры. Адно дакладна – яны вяртаюць айчынную літаратуру да такіх спрадвечных тэмаў, як шчасьце, наканаваньне, лёс. Застаючыся пры гэтым лёгкімі і маладымі. Але ў гэтай лёгкасьці няма інфантылізму – па большасьці, гэта людзі, якія ўжо зрабілі ў сваім маладым жыцьці першы сур'ёзны выбар.

Гэтае пакаленьне псыхолягі і сацыёлягі ўжо спрабуюць ідэнтыфікаваць. Для першых – гэта «пакаленьне індыга», пакаленьне інтэлектуалаў з паранармальнымі здольнасьцямі, для другіх – гэта «пакаленьне Y», пакаленьне прагматыкаў, якія імкнуцца да пастаўленай мэты любымі сродкамі.

Як літаратуразнаўца скажу, што гэта пакаленьне выбітных індывідуалістаў, здатных, тым ня менш, прызнаваць і чужое права на яркасьць, адметнасьць, харызму. Сабраныя воляю выпадку ў Вільні, нашы канкурсоўцы дзень за днём па-харошаму ўражвалі ўменьнем слухаць і чуць адзін аднаго, радавацца чужому радку, паражываць, калі крытыкуюць іншых. І атрымлівасць кайф ад узаемнага перасячэньня ў чароўным часе і прасторы.

Дарослыя літаратары, таксама воляю выпадку вымушаныя знаходзіцца побач зь імі ў гэтыя сакавіцкія дні, наракалі пасьля, што Вільня гэтаму пакаленьню чужая, гісторыя нецікавая. Але дастаткова пачытаць «Віленскі сшытак», куды ўвайшлі творы канкурсоўцаў, напісаныя літаральна за пару гадзін падчас творчага заданьня, каб упэўніцца, што гэта не так! Іншая справа, што новае пакаленьне літаратараў – рэалісты, якія, прызнаючы выключную ролю Вільні як творчай Мэккі, разумеюць і адстойваюць сваё права і абавязак упісваць у гісторыю Беларусі новыя старонкі. Яны разумеюць, што сённяшняя гісторыя робіцца там, дзе яны, і не перакладаюць сваю адказнасьць на чужыя плечы.

Складана сказаць, ці быў бы гэты сэмінар горшым ці лепшым, каб ён прайшоў у іншым месцы... Але відавочна, што аўра месца паўплывала на ўсіх нас – і на тых, хто трапіў у фінал конкурса маладых літаратараў, прысьвечанага стагодзьдзю газэты «Наша Ніва», і на тых, хто ладзіў для іх творчы семінар, і на віленскіх беларусаў, зь якімі канкурсоўцы сустракаліся. І ўсе мы шчыра і без іроніі гатовы паўтараць «In Vilnia

veritas», услед за Хадановічам, паэтычны радок якога і даў назву кнізе, якую вы трымаеце ў руках.

Здаецца, можна бясконца згадваць гэты падарунак лёсу. Вільню, якая сьвяткавала Казюкас... Экскурсію спадара Харэўскага, які паспрабаваў адкрыць усе таямніцы гэтага зачараванага Месца... Начны паход на абледзянелую гару Трох Крыжоў... Бясконцыя начныя размовы пра літаратуру і гульню ў лунаходы... І тую дзіцячую забаўку з апэльсінам, якая, мне, пэўна, запоўнілася найбольш. Правілы яе простыя – трэба перадаваць па коле прадмет, прыдумляючы для яго эпітэт. А пасля, абазнаныя ў яе сэнсе, даюць ацэнку, ці д о б р а я гэта рэч ці не. Сутнасць гульні ў тым, што перакладаючы прадмет з рук у рукі, выхаваны чалавек скажа: «Калі ласка!» Гульня можа і дзіцячая, але ж вельмі карысная ў сёньняшнім пасьпешлівым сьвеце.

Як усё добрае, гэтыя дні прамільгнулі імгненна. У рэйсавым аўтобусе, які вёз нас дадому, да мяне звярнулася адна з пасажырак, якія, відаць, таксама вярталіся ў Беларусь. «Вы артысткі?» Трэба сказаць, што гэта самая звычайная рэакцыя на нашых канкурсоўцаў – прыгожыя людзі аднаго ўзросту, якія сьпяваюць і гавораць на роднай мове ня могуць ня быць артыстамі! І нават пасьля майго адмоўнага хітаньня галавой, яны, відаць, не паверылі, бо не пакідалі нас без увагі, прыслухоўваючыся да нашых размоваў. А гаварылі мы пра жыцьцё... Пра тое як сьцюдзёнай вясной мінулага году, дзяўчаты езьдзілі ў Менск на цягніках, пасьля заняткаў, каб ноччу вярнуцца назад і зноў бяз сну на гэтыя заняткі пайсьці, інакш адлічаць з вузу. Пра тое, як у рэктарат прыносілі іх здымкі, зробленыя на вакзале ў якасьці доказу ўдзелу ў сакавіцкіх падзеях. Пра тое, як пагражалі іх мамам звальненьнем на працы. І пра рэацыю гэтых самых мам... Карацей, варта было бачыць твары жанчын, якім дзіўнае суседзтва ў аўтобусе дазволіла глянуць на вядомыя з тэлевізару падзеі з іншага ракурсу. Так што карысьць ад гэтай вандроўкі атрымалі ня толькі ўдзельнікі праекту...

І яшчэ колькі словаў маладым літаратарам. Я сьвядома не называла вашых імёнаў. Вы ўсе – любімыя. Заставайцеся ж такімі яскравымі і чулымі да ўсяго на сьвеце, як цяпер! Калі ласка.

*Ганна Кісьліцына*

# Наста Манцэвіч

* * *

Навокал ціха
а я іду
шчасьлівы
і трохі даты
мне можна
я ў Вільні
я – малады
ды
да таго ж
літаратар

# Сяржук Мядзьведзеў

## ВІЛЬНЯ

Даруй, я не скажу ні слова
Пра тое, што цябе кахаю там,
Ці што жыцьця ня бачу безь цябе.
Так, ты прыгожая і маладая,
Ты пахнеш морам і парфумам эўрапейскім.
Ты пахнеш беларускаю вясной.
Калісьці ты была маёй.
Але, я ведаю, ніколі больш ня будзеш.
І ня трэба.
Калі паветра скрозь працята пахам бруку,
Ад сонца цёплага і мокрага пасьля дажджу,
Гляджуся ў лінзы ў тваіх вачах.
Ты без акцэнту ўжо гаворыш іншай мовай.
Але я буду сьніць цябе, бо ўсё, што засталося...
За настальгічнымі размовамі ў кавярнях
Ты, як акторка ва ўлюблёным фільме,
Ўздыхнеш: эх, Янка...
Я ўздыхну: эх, Вільня!..

## ЧАЛАВЕК, ЯКІ ПАДРАБІЎ ВІЛЬНЮ

Чалавек, які падрабіў Вільню, быў надта слабы на вочы. Зрэшты, чаго яшчэ чакаць ад дзядка, які, лічы, спаліў сабе зрок, усё жыцьцё рамантуючы гадзіньнікі ў непрыкметнай майстэрні на вуліцы Завальнай. Ягонае прозьвішча было Васілявічус. Родных стары, здаецца, ня меў, а з суседзямі па пад’езьдзе размаўляў неахвотна.

Падробка Вільні, немалога гораду, сталіцы краіны, заняла паўтара году ды вымагала неабыякіх, як на пэнсіянера, высілкаў. Штовечар спадар Васілявічус выпраўляўся на шпацыр па старым месьце. Мружачыся, ён узіраўся ў абрысы дамоў ды бажніцаў. Васілявічус намагаўся ўтрымаць віленскія завулкі ў памяці, якая пакрысе яго пакідала.

Уначы стары ніколі ня сьніў Вільню, бо гэта магло зблытаць успаміны. Ён прачынаўся а пятай ранку, уключаў радыё ды пачынаў сваю працу.

Сфальшаваць Вільню – збольшага тое самае, што напісаць копію да карціны Пітэра Брэйгеля ці якога іншага старога майстра, пазіраючы на яе рэпрадукцыю ў мастацкім альбоме. Спачатку з дапамогай сьветласкопа ды алоўка трэба схематычна перавесьці выяву з паперы на халсьціну ў прапорцыі адзін да аднаго. Прастора паміж накрэсьленымі на халсьціне лініямі заліваецца колерам – так ствараецца падмалёвак. На яго кладуцца новыя плясты алейнай фарбы. Копія карціны ўдакладняецца, напаўняецца дэталямі, няўхільна набліжаючыся ў падабенстве да арыгіналу. Потым копію трэба састарыць. Найпрасьцей – апрацаваць лакам, які застываючы, разломваецца на павучыную сетачку дробных трэшчынак.

Прыкладна так дзейнічаў Васілявічус, фальшуючы Вільню.

Карыстаючыся гарадзкімі мапамі, паштоўкамі ды ўласнай памяцьцю, стары ствараў гіпсавыя формы, якія, нібыта трохвымерны фотанэгатыў, больш-менш дакладна адпавядалі таму ці іншаму віленскаму будынку.

Калі трэба было сфальшаваць цагляны дамок, у форму асьцярожна залівалася вадкая гліна. Каб падрабіць навабуд, Васілявічус замешваў недарагі, але дастаткова якасны цэмэнт.

Гліна абпальвалася ў адмысловай печцы, якую Васілявічус танна набыў у кераміста па аб'яве у газэце. Цэмэнт застываў сам. Выкарыстаная гіпсавая форма разьбівалася ды выкідалася на вулічны сьметнік. Заставалася загатоўка, аголены будынак. Васілявічус тынкаваў яе, устаўляў вокны, а потым, асьцярожна, паверх за паверхам, нібы дамок лялькі Барбі, напаўняў сфальшаваныя будынкі мэбляй ды ўсялякай іншай хатняй драбязой. Наверх клаўся дах. Гэта была неабходная, але досыць нудная праца.

Сапраўдную асалоду Васілявічус атрымліваў тады, калі прымушаў дамы сталець. З часам ён нават вынайшаў уласныя хітрыкі. Скажам, каб прымусіць тынкоўку абсыпацца, у замес дадавалася крыху болей пяску.

Абпаленая гліна трэскалася, калі яе даставалі зь печы раней, чым трэба. Сьвежую тынкоўку Васілявічус падфарбоўваў распушчанай у вадзе акрылавай фарбай – атрымліваліся падцёкі ад дажджу ды зялёныя плямы цьвілі. Сьвежую дарожную разьметку Васілявічус асьцярожна зачышчаў наждаком.

Гатовыя будынкі стары складаў на гаўбцы, загорнутыя ў поліэтылен, ды наляпляў на кожны цэтлік з назвай вуліцы ды нумарам дому.

Хапала клопату з брукам. Ён у Вільні бывае чырвоны, барвовы, брунатны, ружовы, шэры, чорны, амаль белы, а месцамі нават зялёны, блакітны ці фіялетавы. Плюс усе магчымыя адценьні. Формы – простакутныя, квадратныя, трапэцыі, круглякі. Безьліч розных памераў. Матэрыял – сілікат, бэтон, камень, граніт, далей ад цэнтру – збольшага асфальт. У Зарэчанскіх дворыках дык увогуле дзе-нідзе закладаюць у зямлю звычайную цэглу. Гэтага, дарэчы, Васілявічус сьпярша не заўважыў ды, вярнуўшыся дахаты, выклаў кавалак ходніку банальнай чырвонай пліткай. Потым засумняваўся ды зноў прышкандыбаў на Зарэчча, каб спраўдзіць сваю памылку. У выніку давялося перарабляць ладны адрэзак вуліцы.

* * *

Падмена Вільні адбылася недзе а трэцяй ночы. Віленчукі заўважылі, што нешта адбылося, амаль адразу.

Натуральна, Васілявічус, зь ягонай старэчай памяцьцю і слабым зрокам, нарабіў нямала памылак ды недакладнасьцяў. Гэтак, ён забыўся паклеіць шпалеры ў кавярні на Нямецкай вуліцы. Фасад старога габрэйскага палацыку на вуліцы Віленскай ён па недаглядзе ўпрыгожыў галовамі леапардаў, а не львоў.

Васілявічус фатальна забыўся вярнуць у аўтапаркі прыпаркаваныя там на ноч аўтобусы ды тралейбусы.

Ён старанна схаваў вадасьцёкавыя трубы пад зямлю, аднак не паруліўся пра тое, каб яны супалі з адтулінамі старой сыстэмы каналізацыі. Першы ж дождж спрычыніўся да сапраўднай паводкі.

Слухаўкі вулічных таксафонаў стары адліваў з эпаксіднай смалы.

Каб клейкая маса ў спакоі высахла, ён пакідаў новыя слухаўкі вісець на дроце, і, натуральна, урэшце зусім на іх забыўся. Ранкам віленчукі пабачылі таксафоны з адвіслымі, нібы хвасты старых малпаў, слухаўкамі, якія жаласьліва клікалі да сябе кароткімі гудкамі.

Жыхары спальных раёнаў значных зьменаў не заўважылі.

* * *

Віленская паліцыя дастаткова хутка выйшла на сьлед Васілявічуса. Дарэчы, па тых самых выкінутых на сьметнік рэштках гіпсавых формаў. Аднак было ўжо запозна. Калі каманда захопу ўламілася ў кватэру старога, нават бруд на посудзе ў кухні пасьпеў закарэць. Васілявічус зьнік бяз знаку.

У лазенцы сьледчыя знайшлі нераспакаваны папяровы мяшэчак з гіпсам, у сэрванце – пару ксэракопіяў віленскіх фотаздымкаў Яна Булгака ды сапраўдную картатэку паштовых картак з выявамі Менску, пераважна міжваеннага часу. А таксама пустыя капэрты з адрасам «Менск, завулак Бранявы, 49/16».

На запыт віленскай паліцыі Міністэрства ўнутраных справаў РБ адказала лякалічнай даведкай: «квартіры под вышеуказанным ад-

ресом в г. Мінске не значітся». Аднак, паводле некаторых зьвестках, рэжым відэаназіраньня за цэнтрам беларускай сталіцы пасьля запыту зь Вільні быў значна узмоцнены.

Стары пакінуў па сабе безьліч пытаньняў. У які менавіта момант адбылася падмена Вільні? Як? Для чаго? І, галоўнае, дзе стары Васілявічус перахаваў *сапраўдную* Вільню?

Між тым, віленчукі пакрысе звыкаліся да жыцьця ў горадзе-фальшыўцы. Той-іншы нават узрадваўся гэтай незразумелай катастрофе. Выканаўчы дырэктар аднаго з дарагіх гатэляў употай цешыўся, што ў падробленым гатэльным гмаху зьявіліся ажно два дадатковыя паверхі. Страхавыя кампаніі хоць і спасылаліся на форс-мажор, але пад ціскам ураду мусілі сплаціць выдаткі аўтобусных паркаў. Нават знакамітае віленскае паветра вярнулася. Першы вільготны сьнег прынёс з сабой знаёмы рачны водар з багністым прысмакам. Усюдыісны пах сьвежай тынкоўкі пакрысе зьветрыўся. А калі ляснулі маразы і месьцічы закінулі бярвенцы ды вугаль у свае каміны ды печы, то адрозьніць новае паветра ад старога маглі ўжо хіба толькі валацужныя сабакі.

На недаравальна запозьненай прэсавай канфэрэнцыі мэр заклікаў віленчукоў захоўваць спакой і моц духу. Пазьней у прыватнай гутарцы з журналістамі ён адзначыў, што ўсё магло быць і горай, і фальшывая Вільня ўсё-ткі лепей, чым ніякая.

Нават беларускія нацыяналісты зноў пачалі цёгацца ў чарговы раз згубленую сталіцу па сваю любімую каву.

І толькі вулічныя гандляры таннымі карцінамі працягвалі сотнямі экзэмпляраў тыражаваць сапраўдную Вільню, лёгка скідаючы цану на дваццаць літаў, калі трапляўся ўчэпісты пакупнік. Замежнікі радасна забіралі дахаты цалкам безгустоўную, нібы на канвэеры зробленую, сапраўдную, старую Вільню, і разязджаліся – хто ў Менск, хто ў Капэнгаген.

# Юлія Шадзько

## ВІЛЕНСКАЕ

Вулкі, вулкі, вулкі, вулкі...
Я знаходжу цябе
На старых вулках Вільні,
На вузкіх вулках,
Над вуркатлівай Вяльлёй,
Што памятае яшчэ
Той дзіўны таямнічы сон,
Які сасьніў Гедымін
І здолеў убачыць
У прымроеным прымружным прыцемку
Мару
Аб велічнай вечнай Вільні...
Я бачу цябе
Ў тварах дзяцей,
У валошкавых вочках маленькіх віленцаў,
Адкрытых так шырока,
Каб зьмясьціць у цнатлівай зрэнцы
Увесь навакольны сьвет...
Часьцяком
Ты бавіш час
У маленькай кавярні,
Якая пахне ванільлю і печывам,
І побач
У яшчэ адной,
Дзе на фіранках
Пакінула сьлед вясна...

Ты ўсьміхаесься мне
У сьценах сьцятымі ценямі,
І на старым вадасьцёку
Пішаш у аб’яўцы нумар,
Спадзяесься, што я пазваню
І,
Губляючы ўрэшце цярплівасьць,
Бяжыш,
Нядзельнымі званамі
Весьціш,
Што ты чакаеш,
Яшчэ чакаеш...
Ты ідзеш мне насустрач
З-пад зводу Вострае Брамы,
І гулкат крокаў па бруку
На імгненьне спыняецца,
Калі
Ты ўстаеш на калені
Перад Сьвятым Абразом
І моліш Маці і Ўсемагутнага Бога
Аб літасьці,
А бурштынавыя пацеркі
Тваёй блуклівай вірлівай
Віленскай
Душы
Коцяцца круглымі кроплямі
З дробным постукам
Па сталічна-сталічным гасьцінцы
Для нялічаных пілігрымаў,
Што шукаюць у абліччы гораду
Шлях
Ад сябе да сябе...

Я штурхаю цябе плячом
Ля карунковае Ганны
З чародкаю стромкіх сьпічастых шпіляў,
На якія сядаюць анёлы,
Каб адпачыць крыху
Перад вяртаньнем дамоў.
Каб выпрастаць урэшце крылы
І скінуць
Зімовае пульхнае пер’е,
Што разьляціцца
Тысячай аблачынак,
Каб асесьці
У блытаных брудных дварах,
Дзе рудыя каты
Пасьля гэтага
Доўга будуць углядацца
Ў неба
У маўклівым зьдзіўленьні.
Я пазнаю цябе
Ўрэшце,
Углядаюся ў твар
Цэлую вечнасьць.
Якая стрэча!
Якая
Стрэча, на гонкіх стрэхах
Ужо ўладкаваўся вечар
І грае нам палянэз...
А я працягваю табе сэрца –
Успамін сьвятога Казімера.
Еж, разьдзялі са мной радасьць
Вяртаньня сюды.

# Ганна Серахан

## СЬВЯТОЙ ГАНЬНЕ

*«Прыйдзіце да касьцёла Ганны...»*

Адчула, што магу непрытомна
здрабнець,
ператварыўшыся ў
завостраны гатычны агеньчык
ля алтара твайго Касьцёла.

Зразумела, што магу прычасьціцца
да кавалачка тваёй душы,
укленчыўшы (толькі госьцем)
у кутку
ля тоўстых абараняльных дзьвярэй.

Спазнала, што тут таксама магу
быць сьвятой, убраўшыся ў вечнагаваркое каменьне
і ўзяць на сябе стромкі крыж
да Нябёсаў.

Га?..
– Ганна! – паклікалі мяне да выйсьця.
І пазбавілі Божай Ласкі.

# Віялета Пачкоўская

* * *

Вільня-Вільня,
а ты такая,
што мае зьвіліны
самі ператвараюцца
ў твае тонкія вуліцы.

# Ірына Барысевіч

* * *

*Тамашу Зану*

Сакавік сакавіта расьцёкся
Па каленах старой брукаванкі.
Плача з дахаў: напэўна, апёкся
На патэльні вясновага ранку.
Ці ня цуд: хаця мне асабіста
Сакавіцкага сонца бракуе –
Я раблюся крыху «прамяністай»
І паціху першадрукую.

# Віталь Рыжкоў

* * *

*…за сто крокаў ад Вострай брамы.*
*В. Шалкевіч*

Дарагая паперка, цярпі, бо нельга дайсьці да кампутара
і да Вострае брамы ужо не дайсьці з правінай.
Прыгадаецца з часам толькі бясконцая п’яная гутарка –
усё болей піва, радная, усё меней Вільні...

Але тут, здаецца, раней за жыцьцё пачаліся апгрэйды:
тут маюць аднолькавыя правы чалавек і ровар,
тут павольна бяз волі сплятаюцца дрэвы ў дрэды –
гледзячы на бутэлькі, узгадваеш: *game over*.

Тут наогул ня сумна, радная, і настальжы ня цісьне,
няўцямная нават адлегласьць ад дому.
Нядрэнна б застацца, пабачыць зьяўленьне лісьця.
Шкада, што гэтай гульні бракуе «*add-онаў*».

# Андрэй Адамовіч

## СЬМЕРЦЬ У ВІЛЬНІ

Месяц над мурам тваім, Яне,
Лезе, лезе на неба –
Зьнішчае зоры.
А на бруку сьмецьце і слота.

Асьцярожна па ім у завулках
За хлопчыкам,
Што мае бурштыначку ў завушніцы,
Крадзецца нехта ў рытме соўлу
І лічыць крокі.

Дзевяноста восем, сем,
Шэсьць – зьбіваецца...

Падае
І чуе ў той самы момант,
Як б’е ў далёкі звон месяц...

Ён адыходзіць. Проста на бруку.
Ад тугі па хлопчыку і самоты.

Ты і сам гэта ведаў, Яне.

# Юлія Арцёмава

* * *

Мая Вільня
недзе паміж
страўнікам і мабільнікам,
недзе паміж
кастрычнікам і маем.
Добра ня тое,
што я заўсёды рацыю маю,
а тое,
што трымаю ў руцэ
бутэльку літоўскага піва.
І калі ўжо быць шчырай,
спадарства,
ідзіце вы нах!
Можа, хто закаханы ў парыжы й бэрліны,
але Вільня мая,
Вільня наша.

# Андрэй Пакроўскі

* * *

Майсей рагаты сумна пазірае долу,
чуе званы,
але ня можа зрабіць ані кроку,
каб ступіць на чароўную кропку,
што прыносіць шчасьце лузэрам,
якія ня ведаюць іншых шляхоў
здабыцьця шчасьця.
У сьценах віленскіх двароў
хаваецца голэм-бурацiна,
экспэрымэнт Таты-Майрынка.
Я стрэў яго, калі застраў у вузкай арцы.
Ён прабег у мяне пад нагамі.
Сеў на намаляваны на ходніку ровар.
І амаль адразу зьбіў пешахода й зэбру.

Я правёў у арцы некалькі гадзінаў
з думкаю, ці гэта нехта будуе занадта вузкія аркі,
ці гэта нехта зашмат налягае на цэпэліны.
Я адшукаў у кішэні рэшткі піражка з грыбамі,
адкусіў кавалак,
паменшыўся ўдвая
і вызваліўся з палону аркі,
забег у двор, ускараскаўся на сьцяну
і заснуў у нішы.

А ўвечары вярнуўся голэм
і прымаляваў ровар ля вузкае аркі.

# Юлія Яфімовіч

* * *

Урэшце ты і тут знайшоў мяне і цяпер коса паглядаў чорнымі вочкамі з вокнаў нежылога, зруйнаванага дома. Канечне ж, вачэй тваіх я ня бачыла, але позірк іх не адчуць было немагчыма. Я спадзявалася, што вужачкі вуліц, паблісккваючы каменнай луской бруку, адаб'юць і ўратуюць мяне ад цябе. Ды яны толькі табе і садзейнічалі, адбіраючы мой апошні шанец. І краем душы я ўжо ўбачыла, разглядаючы аднолькавыя, празрыстыя кроплі на бясконцым галінаваньні хмызьняковых шкілетаў, што ты зноў акажасься ў пераможцах.

Людзі ішлі паўзь мяне, але я не чытала, як звычайна, іх твары, што было найлепшым паратункам ад нуды. Цяпер было не да іх – сэрца смактала трывога. Я зайшла ў першыя адчыненыя дзьверы і ўзяла піцу ды, не адчуваючы смаку, хутка зьела яе выратавальны круг. І зноў засталася ў адзіноце.

Мне нічога не заставалася больш, як нэрвова азірацца на старажытную веліч будынкаў. Скрозь адчувалася твая прысутнасьць. Я заплюшчыла вочы і заматляла галавою. Я была дзіцём, што прыцінкай спрабуе адагнаць ваўка. Дурніца, думала, што ў горад, непадобны на ўсе іншыя мае гарады, ты ня зможаш прабрацца. Але ты ўжо апанаваў мяне і ўсё было дарэмна. Вечны мой страх доўгага знаходжаньня ў адным месцы, ты гнаў мяне прэч зь Вільні.

# Сяржук Семянюк

* * *

Дзень вясновы. Нядзеля. Ранак.
Абуджаецца Вільня ад сну.
З усяго свайго рою каханак
Выбіраю цябе адну.

І гляджу ў твае сьветлыя вочы,
Абдымаю, а ты – мяне.
Мне ўсё роўна, за намі сочыць
Супрацоўнік спэцслужбаў ці не.

Я цябе на інтым спакушаю,
Толькі ты пранікнёна маўчыш.
Я цынічна адказ не чакаю,
Спадзяюся, што не закрычыш.

У рэшце рэшт час прайшоў. Разьвітаньне.
Разьвітаньне да лепшых часоў.
Да сутрэчы, Сьвятая Ганна,
Буду ў Вільні – сустрэнемся зноў.

# Кірыл Дубоўскі

## УРЫЎКІ З ЖЫВОГА ЧАСОПІСУ

### 02.02.2007

Мае шаноўныя фрэнды! Нарэшце я дачакаўся літаратурных сэмінараў, тых самых, пра якія я пісаў у верасьні. Ніколі не паверыце, яны адбудуцца ў Вільні! Можаце пачынаць зайздросьціць :)

### 18.02.2007

Набліжаецца час ехаць у Вільню. Супрацоўнік замовіў прывезьці яму піва зь сьвінымі вушамі, а маці – пральны парашок. Сапраўды Вільня ў кожнага свая. Глёбусу варта было б узгадаць у сваім вершы таксама «Акропаліс» і «Эўропу». Парайце, хто яго ведае!

### 19.02.2007

Сёньня мой тата сказаў, што нас, напэўна, усіх вязуць у лягер, дзе будуць вучыць зьбіваць АМАП рыдлёўкамі. Рагатаў пасьля слова «рыдлёўка».

### 20.02.2007

Разам з маёй сяброўкай, таксама пераможцай конкурсу, занесьлі пашпарты на візу.

– Нас цяпер могуць прадаць у рабства, – сказала сяброўка.

– Так. Вывязуць за мяжу і прымусяць пісаць папулярную літаратуру пад псэўданімамі, любоўныя раманы й дэтэктывы.

Калі што, шукайце ў кнігарнях :)

## 03.03.2007

Сёньня ад'яжджаем у Вільню. Ня ведаю, што набыць з сабой у цягнік: піва ці віно. Што параіце?

## 04.03.2007

PREVEDAS!!!

## 05.03.2007

Я ў Вільні, і тут усё цудоўна! Мае сябры беларускамоўныя п'юць... Сёньня ўначы стварылі новы грамадзянскі рух «За дагонкай!» У яго ўвайшлі амаль усе маладыя літаратары.
Як заўтра прачнуцца?

## 05.03.2007

Сёньня мы атрымалі творчае заданьне: напісаць што-небудзь у натхненьні Вільняй.

Кажуць, талент не прап'еш. Але ведаеце, мне, здаецца, удалося : (((

*ГЭТЫ ТВОР НЯ БОЛЬШ ЧЫМ ФАНТАЗІЯ АЎТАРА.*
*УСЕ СУПАДЗЕНЬНІ З РЭЧАІСНАСЬЦЮ ВЫПАДКОВЫЯ.*

# Сірошка Пістончык

## ПАБАЧЫЦЬ ВІЛЬНЮ І... ПАРЖАЦЬ :)

(жж-аччот)

Ужэ сталі прытчэй ва языцэх некатарыя асобіннасьці сёлетнява літконкурсу, а імінна:

а) літбанда аказалася чрэзвычайна сплачоннай, разьвязнай, вясёлай;

б) агульны літраж ужытава алькаголю прамапрапарцыйны агульнай творчай энэргецікe, тоісьць – і таво, і таво была проста дахуішча;

в) 24 часа ў суткі (ну, ладна, не 24 – дзета часоў 20) народ абшчаўся на ўсю катушку, завязваліся знакомствы, сімпаціі і проста кантакты. Наблюдаць эта было очэнь радасна. А ўчаствав аць так вапшчэ ўдвайне;

г) ніадзін чалавек не астаўся незадаволеным – пёрла і кілбасіла ўсіх.

На працяжэньні ўсяво ўрэмені мы з *adamovitch* глубака аналізавалі праісхадзяшчэе вакрух, у выніку чаво вырабаталі пару заўваг:

– у Вільні нам не хапала эксурсій па бардэлях, віленскіх курвах і сэкс-шопах;

– ішчо большэ нас раздражалі істарычэскі значымыя памятнікі беларушчыны і ня толька. «Бляць! – васкліцалі мы, – а дзе жа мілыя сэрцу рабочыя кварталы, дзе велічныя сілуэты фабрык і заводаў, куда падзеліся убогія каморкі літоўскіх пралетарыяў???» Ніхто нам ня даў атвету. А атсюда вывад. Вільня – горад гламурны і нінастаяшчы. Адзіны, хто акрамя нас эта замеціў – Алесь Кудрыцкі aka *kapitan_tanaka* , напісаўшы адпаведны аповед;

– за фанатызм і эрудзіцыю пану Харэўскаму было нададзена ганаровае званьне гаўляйтэра Вільні;

– замест таво, каб размаўляць на нармальнай чалавечаскай (беларускай) мове, жыцялі Вільні базараць на каком-та самніцель-

нам говары. У сувязі з эцім мы зьдзелалі вывад, што падобная языкавая недаразьвітасьць – адрыжка капіталізму і патаму нам зь імі не па пуці;

– мы так і не напаліліся літоўскай шмальлю, што сьведчыць пра недастаткова цеснае сатруднічэства літоўскіх і беларускіх ліціратараў;

– мы з *adamovitch* чуўствавалі віну, што нісматра на прысуцтвіе цэлава цьвятніка муз – *niareisha*, *n_mancewich*, *cvetnayakapusta*, *oskoltsev*, *araneus1*, *licvinka* – так і не напісалі ні тока ніадной любоўнай лірыкі, але дажэ і любоўнай запіскі. За што німа нам прашчэнья.

І ішчо.

1) За адну віленскую ноч *adamovitch* з «паэта» вырас адразу да «паэцішча», што няможа ня радаваць.

2) Ужэ ў Мінску я замеціў што *adamovitch* адпіў сабе нагу. А *siarzh* адпіў адразу дзьве нагі. Не каб как нармальныя людзі адпіць сабе розум, дык ані падашлі к этаму творчаскі.

3) У сувязі з алкагольнай і душэўнай эйфарыяй, часамі я цяраў над сабой кантроль, за што шчытаю нужным ізьвяніцца.

# Валянцін Бойка

## ВІЛЕНСКІ ЛУНАХОД

*У Вільню, жывёлы!*

Я запраўляю півам лунаход:
На танку ў Вільню – непаліткарэктна.
«Лаба дзіена...» – нас вітае рэха,
І ўцякаюць дрэвы на Ўсход.

І зграі шэрых віленскіх катоў,
Нам адчайдушна прапяюць «Магутны Божа»,
Плыве бабёр па сьветлых хвалях Сожа,
Каб віленскіх сваіх спаткаць братоў.

Бо не даюць яму ў пасольстве візы,
Бабра цяпер шукае КаДэБэ,
Ён больш ужо ня слухае «Любэ»,
А па начох чытае Кена Кізі.

Узьляцеў па-над раскіданым гняздом,
Што баранілі птушкі так зацята,
Ў яго зубах – іржавая граната,
Марат Казей з зубамі і хвастом.

Ён даплыве. Ён здолее. Ён зможа.
Пад Вострай Брамай стрэнемся мы зь ім.
Няхай Бабруйск вас болей не трывожыць,
«Жывотным» хопіць месца там усім.

Ды што Бабруйск? Вось Вільня – гэта фішка,
Яна была, і ёсьць, і вечна мусіць быць.
Цень Каліноўскага блукае па Лукішках,
І сарамліва просіць закурыць.

Навокал шыльды,
шыльды,
шыльды
шыльды,
Францішак, Цётка, Янка і Кастусь...
З падэшваў ног абтрусім менскі пыл ды...
Ды рыфму падбярэм да «Беларусь».

Правы, свабоды, вольная Эўропа,
Тут крывічы намаз спраўляюць свой.
Пад Вострай Брамай пыхнуўшы травой,
На «город Менск» мы рушым аўтастопам.

Паставім пляшкі шчыльнымі радамі,
Бабёр ў Вяльлі свой слуцкі пояс мые.
Каму Масква, кагосьці вабіць Кіеў,
І толькі Вільня вечна будзе з намі.

# Андрэй Хадановіч

## МАЛАДЫМ ЛІТАРАТАРАМ

«Мы вернемся сюды на танках»,
на коласах, купалах, цётках,
на плястылінавых чытанках,
на першых сакавіцкіх фотках.

Нам геній гораду заступнік.
Мы разьбярэмся, *што тут ё*.
Расставім кропачкі над «ё»
і пакаштуем іхны крупнік
пад лёзунгам «любі сваё».

Каб нецьвярозых беларусаў
хістала, быццам на прычале,
і п’яніцы з вачыма трусаў
«*in Vilnia veritas!*» крычалі.

# Андрэй Адамовіч

## ВІТАЮ, КОХ!

Змрочнасць думкі засільваецца на страсе,
Апошні пацук учора ў падпеччы здох,
Астатнія зьбеглі хаўрусом па касе –
Вітаю, Кох!

Мне прыкра ўзгадваць пра палі,
У якіх вежы стаялі і – Майн Бог –
Лотаць расла, а цяпер крычу калі-нікалі –
Вітаю, Кох!

Няхай там іншыя кнігі чытаюць, а я
Буду на скразьняках піць, бо ў кіпцюрох
Паліцыі даўно ўжо справа мая –
Вітаю, Кох!

Што з таго, што рэдактар я трызны маёй,
Што жонкі ня маю? Толькі скажаце: «Аднарог...»,
Калі ў бясконцасьць пайду за адзінай сям'ёй –
Вітаю, Кох!

Былі і да мяне, прыйдуць яны і пасьля,
Але не сюды, бо з абедзьвюх ног
Трэба бегчы адсюль, а ня ціха і спакваля –
Вітаю, Кох!

Я пра славу ня думаў бы, адылі
Розум у рэнту здаў, а пасьля ня змог
Атрымаць назад – хаджу без мазгоў па зямлі –
Вітаю, Кох!

Усё тут вар’ята сон, а магчыма – жах.
Асадзіць назад? Дык і так у зубох
Калідоры тры, а над імі – дзіравы дах –
Вітаю, Кох!

А ты там, ты там, ты на нас глядзіш,
Вельмі заняты, дый зрэдку, а вымавіш: «Ох!»,
Усьміхнесься: «Цягне вас руйнаваць Парыж...»
Вітаю, Кох!

Мэтафары ў кнігах – крывое шкло.
Затое мы большыя ў тваіх вачох,
Можа пабачыш мяне, паглядзі на дно... –
Вітаю, Кох!

# 23 РАДКІ ПРА МЯНЕ, АСЬЛІНУЮ МАЦІ, ШКЛЯНУЮ ГУСЬ І ЦЕЛЬНІК

Невядомы ў горадзе, сядзеў я таму ў вантробах
і чакаў хаця б мілімэтра знаку: рудога ветру,
памылкі друку ў цэнтральнай газэце, але
нават чорная рэчка цякла так, нібы гліняныя ногі
не тырчэлі выспамі сярод віроў яе пад ільдамі,
(апошнія ўсталі яшчэ да мяне). Вось так, нічым,
скончыўся мой рэкордны заплыў на асьлінай маці.

І ў кожнай шыбе быў, ясная справа, маскаль,
пляскалі адзін аднаму і лічылі па пальцах
свае дасягненьні, ялчэлі мужчынаў тлушчы,
жанчын разьляталіся валасы ў паветры,
як любяць на захадзе, сонца сядала за край,
валілася лісьце пад ногі. Я, натуральна,
праз дысьлякацыю, быў па-за гэтым і па-за тым.

На сёмы дзень праз адну з адтулін убачыў я
шырока вядомыя словы маці шараговай ахвяры,
мільгатнулі яны і пафарбаваліся ў дзіўны колер,
пра мяне ж не казалі нічога, дый наогул казалі мала.
І тады закрычаў: «Пане, на халеры залез я сюды?!
На халеры мне Нотр-Дам і Шкляная гусь?!
Цельнік гэты нацягнуў на асьліную маці на халеры я?»

Вось так трыюмфальна, нічым,
скончыўся мой рэкордны заплыў на асьлінай маці.

# АКРАСАНЭТ СЯРГЕЮ ПРЫЛУЦКАМУ

Сам па сабе ён ня добры, аракул, і не крыважэрны:
Яд у ягоных вантробах з далёкіх глыбіняў Сібіры,
Роўна блакітнасьці ўсё: і вячэра, і трубы, цыстэрны.
Гэта Гэфэст справядлівы – для гуру, маўляў, і для дуры.

Елкі, а мо кіпарысы, між іх канапляныя пусткі,
Й вока ня розьніць тваё краявід ад ляндшафту – навошта:
Першым ты дробязі кінуў і скончыў услухвацца ў плёткі.
Рызыка ў квэсьце жыцьцёвым? Затое ўсе словы бяз кошту.

«Ы...» – мы крычалі яшчэ, а ты ўжо пабачыў сугучча
Любай мінушчыны, зрэнак дзявочых, ў пад'ездах партвэйну.
Унію вобразу з гукам знайшоў. Хай цябе абмінае нястача.
Цёплым дажджом ты нас лашчыш – мы кроплі хаваем як тайну.

Колькі яшчэ ты у сьвет прынясеш катаваньняў блакіту,
Іслач ці Берасьце, Менск – ўсё адно для стваральніка міту.

# БАБА-МАРОЗ І ЧЫРВОНЫ СТОС

*Паэтцы М. М.*

Дождж лупіць у шыбы. Елкі
Бацькі добрыя цягнуць у хаты.
Мужыкі зь сякерамі іх ловяць,
Прымушаюць сплочваць штрафы.

А Баба-Мароз ад самага ранку
Ляжыць сабе ў алькагольнай коме.
Ёй цёпла ў зімовым лесе,
Ёй мядзьведзі прыносяць маліну.

Ля яе тлусты стос паштовак –
Злыя дзець робяць замовы:
Каб хіміца дурная здохла,
Каб Машка панчохі падрала.

Дый нічога, усе будзе добра –
Алькагалізм, той казаў, невылечны.

* * * * *

Ты паехала з гэтага гораду,
Пакінула мне каляровы халат.
Сказала: «Трымай, час ад часу насі».
Але, што рабіць, нашу. Лянуюся раніцамі
Варыць каву, затое штосерады на рагу
Вуліцы гандлюю плянам у тваім халаце.
Можа, гэтыя хлопчыкі атрымаюць
Сапраўдны глюк пра закаханага пушэра,
Які ў душы чорны і нават набыў сабе
Нігерскае футра і знак даляру.
Уласна, гэта ня глюк.
Але і плян мой хутчэй нагадвае канюшыну.
За тры дамы, ад маёй кропкі ёсьць
Наркалягічны дыспансэр. Калі я іду туды,
Улажу ў гарнітур, нацягваю гальштук.
Лекарам я адпускаю сапраўдны мараканскі гашыш,
Дэманструю плёмбы і шворку твайго халата,
Маўляў, глядзіце, і тавар, і пушэр сапраўдныя,
Вам Дзед-Мароз ня быў сапраўднейшым,
Гашыш лепшы за Орбіт, лепшы за гісторыі хваробы
І вашыя хімічныя лекі. Гашышу, гашышу ўсім задарма
Я прынёс вам. Вось, калі ласка: грошы за марку,
Грошы за пушэра, грошы за вашае шчасьце.
Плюс дастаўка, але ты ведаеш іх заробкі.
Вымушаюць да зьніжак, я іх разумею,
Кожны дзень да іх прыходзяць мае кліенты,
Каб лекаваць невылечнае, каб лекаваць душу.
Іх усіх трэба адпальваць, адылі заглынуцца
Сьлязьмі проста ў іх на рукох,
На рукавох белых халатаў.
Ведаеш, як гэта, калі баліць душа, баліць
І не дапамагае ні гашыш, ні опіюм.

Баліць, адно што ня бачна пад стракатым халатам.
Ведаеш, як прачынаесься ў тры гадзіны,
Выходзіш на гаўбец, пачынаеш шукаць
Па кішэнях нагавіцаў, якія ня здымаў на ноч,
Цыгарэты, і пачынаеш плакаць.
Вось яны і ідуць да лекара ў чацьвер,
А ў сераду яны ідуць да мяне.
І ўсе мы ведаем – ім шандык.
Мы ведаем, шандык мне і лекарам.
Таму я не крыўдую на цябе за тое,
Што ты ўзяла і паехала з гэтага гораду.
Можа быць, калі небудзь, калі нашае сонца
Будзе дагараць, ня ведаю хто,
Можа, мэнэджэр па продажах Бэнтлі, запытае ў цябе:
«А дзе гэтая жопа, чакай, як яе, ну, поўная дупа?»
«А!..» – скажаш ты, і дрыготкай рукой
паставіш на мапе крыжык.

* * * * *

Яшчэ адна ладзьдзя роспачы
Плыве над гняздом зязюлі
Гэта героі Караткевіча
І верныя дзеці Мікада
Прымаюць да сябе ў хеўру
Братоў боскага ветру
Студэнтаў лятальных школаў

* * * * *

яна ведае пахі сноў у іх зьбірае каноплі на смак
вільгаць гэтага лета льецца наўпрост адтуль
на вячэру ў яе кава і халодны лібанскі гашыш
яна ня ведае лэдзі гадывы ня думае пра стоўн-хэндж
камары джаляць яе ў вочы ёй справы няма да іх
сэрца б’ецца на шыі яе лічбаю недасяжнай плятону
яна ведае показкі жыватом і грудзямі жэстамі
валасы яе памятаюць як зьніштажаць лісабон
рудое цунамі на яе галаве тэорыя супэр-струн
яна ня ведае словаў затое трымае ў руцэ матыў
маку віры ў паветры чакае з поўдню ад ранку
па скуры яе можна чытаць гісторыю гэтага сьвету
яна ведае што жыцьцё толькі вада ў келіху існага
яна ведае што час кажан і ня бачыць ён удзень
яна ведае што сэнс звон які заўсёды нясуць за ёй
яшчаркі грэюцца на скуры яе
думкі яе мэтастазамі ахопліваюць сьвет
яе аўтограф вусьціш пасьля біг-бэну
яе імя арыядна крычала на наксасе
яна п’е нераспушчаны сьпірт
яна ідзе басанож па чыгунцы
яна кажа рыфмаваным ямбам
яна падае на ложак як ноч на аул
яна трымае руку на ўлоньні як за сьпінаю шыбеньнік
яна ня памятае правілаў але знае эндшпіль

# ЯК МЯНЕ ПАДМАНУЛА ВІЛЬНЯ

Я стаяў на рагу, калі пачалася вайна.
Піў сваё піва, дыхаў, пра штосьці думаў.
Яны бегалі і крычалі: вайна, вайна.
Мяне, сьціплага іншаземца, гэта ня тычылася.
Я дапіў сваё піва, пайшоў набыў два боханы:
Бо ведаў, што ў вайну дрэнна з харчамі.
Таму я набыў сабе яшчэ колькі кансэрваў.
Пасьля я пайшоў у гатэль, улучыў тэлевізар:
Перадавалі пра акупаваныя гарады.
І патасна распавядалі пра герояў.
– Ваў! – думаў сабе я. – Колькі ў іх герояў,
І колькі ў іх цяпер гарадоў. Можа, прасунуцца
Да самага Ўралу. Там шмат медзі, і яны змогуць
Адліць помнікі для ўсіх сваіх герояў,
А на кожным месцы, дзе жаўнеры сцалі,
Прыляпіць мэмарыяльную шыльду.
Але трансьляцыя чамусьці перарвалася.
– Дрэнна, – падумаў сабе я, – вось жа,
вайна закранула асабіста мяне.
Але я звычайна не гляджу тэлевізіі.
Таму, можна сказаць, што мінусы
Кампэнсаваліся плюсамі.
Неўзабаве пачаліся бамбардаваньні.
– Ваў! – зноў я сабе падумаў, –
Гэта ж трэба – дыктарка, што мела
Шыкоўны бюст, як заўсёды зь імі і бывае,
Падманула ня толькі сьціплага іншаземца,
Але і ўсіх генэралаў у генэральным штабе.
А мене падмануў і сам гэты горад
З жаночым імем, які так і ня даў мне
Зьведаць смаку паветра з танюткім давескам
Зорнага неба і рытмічным перагрукам
Дзявочых абцасаў.

* * * * *

Адмыкае Вільня сусьветы і голас твой
З бурбалкамі ў тканіне ільецца хутчэй
Чым зь люлькі агеньчык сочыць наш сьвет
І ў сабе вынаходзіць цяпло і блакітны дым
Што ляжыць на двары і адбівае сьвятло
Зоркі пухнатай вядомай зь мілосных кніг
Уся пяшчота ў іх і малако з грудзей
У дзюбах нясуць крумкачы і мурашы сьняць
Заўтрашні дзень для цябе і твайго дзіця

## Юлия Артёмова

### НЕБО

Небо...
Оно такое.
Оно замораживает.
Завораживает.
Учит бесцельным
Полетам к Луне.
Самонадеянность –
Это грех.
А ты не птица.
Значит,
Не стоит
Учиться.

### СО-БРАТЬЯ/СОБРАТЬ-Я

Со-страдание
Со-мнение –
Одно на двоих
Мнение
Третьего за
Неимением

* * *

*К. Ф.*

Вермонт
слово такое психоделично осеннее
бушуют там год
напролет
циклоны
а реже – и антициклоны
в парках уставшие спят
каштаны
и клены
штаны
клешные
носят там преимущественно из вельвета
да, осень в Вермонте
это вам не какое-то
пыльное
мыльное
минское лето

# МНЕ РАССКАЗАЛИ

## 1

мне рассказали
что в витебске
есть трамваи
что витебский асфальт
вдоль изрезан
парой параллельных
рельсов
по которым ездят
трамваи
подпирая небо рогами
чтобы он невзначай не упало
на голову
марка шагала

мне рассказали
а я и поверила
ду-ра

## 2

мне рассказали
что в Витебске
есть трамваи
что апрели
прелые
прелесть свою
не утратили
а весна-обманщица
а весна-предательница
и колесуют
переулки
улицы
проспекты
и бульвары
трамваи-одиночки
и трамваи-пары

мне рассказали
а я и поверила
ду-ра

* * *

ты говоришь со мною
исключительно по-португальски
пишешь в воздухе письма
сигаретами-пальцами
угадываешь листья
за прохожими масками-лицами
и молча смотришь
как Осень-иезуитка
бросает клены
в костры святой инквизиции

* * *

а дождь терпкий.
крепкий
как вИски.
падает на вискИ.
и бабочки-листья
с покорностью камикадзе
срываются вниз –
и прямо под каблуки.
плачь-не плачь
ноябрь-палач
непреклонен:
стоят остывшие
застывшие
словно
мраморные колонны
к расстрелу из
крупнокалиберного дождя
приговорённые
клоны-клёны

* * *

У Оскольцева зазвонил телефон.

– Добрый вечер, Оскольцев.

– Здравствуйте, Ярослава.

– Сколько лет и зим сколько, Оскольцев?

– Да, право, немало.

– А на днях ко мне заходила Марина...

– Как мило!

– Я ее угостила свежей свининой.

– Спасибо.

– Знаете ли, Оскольцев...

– Ах, Ярослава, почему же вы не живете на острове Ява?

– Пи-пи-пи,– обоюдно в трубках раздались гудки.

* * *

Оскольцев вырезал из старых и новых фотографий лица своих знакомых. Булавками он закреплял их на физиономии планеты Земля. Каждого на *свой* (?) город. Марта с Монмартра. Илзе из Пизы. Ульяна из Любляны. Ярослава с о. Ява. Алиса из Борисова. Майя Марковна из Кракова. Ганин откуда-то из Испании. Ах да – Логинский из Минска.

Через час на политической карте не осталось места для самого Оскольцева.

...а Марианская впадина – не иначе как в честь Марины!

* * *

Оскольцев вылил на Марину ведро воды.

Нечаянно.

Будучи злопамятной по своей кошачьей природе аквaМарина долго не могла простить ему этого.

* * *

Оскольцев писал на откомпостированных талонах стихи и нестихи и засовывал их между рамой и стеклом. В трамваях.

Послание благодарным потомкам/неблагодарным подонкам. В будущее.

* * *

Логинский – большой любитель и единственный в мире коллекционер логарифмических линеек – имел очень смутное представление о логарифмах.

В поэзии Логинский тоже ровным счетом ничего не смыслил. В минуты, когда его не посещала муза (а она не посещала его никогда), он прибегал к Оскольцеву и прямо с порога стрелял в него очередным шедевром:

– Твоя любовь волнует мою кровь…

А потом стрелял в висящий на стене портрет Лобачевского:

– Скажи, ничего логарифм получился?

И контрольный (в обоих разом):

– А что? Логично и в рифму!

## ПУНКТУАЛЬНЫЙ

Однажды Оскольцев поступил в медицинский. Поступил только потому, что там учился его лучший друг Логинский.

А однажды Оскольцев не пришел на занятия.

И еще однажды.

И еще.

И еще.

И еще неоднажды.

Он вообщем-то был не очень пунктуальным.

* * *

Илзе – девушка утонченная, прямо-таки тургеневская.

– Нихренусеньки, – ответила Илзе Логинскому на его предложение вступить с ним в интимную связь.

* * *

Оскольцев увидел мертвого кота.

«М-да, мертвый кот – это совсем не то, что живой», – усмехнулся он про себя.

* * *

– Оскольцев, здравствуйте…

– Ну что ж, Ярослава, шалом.

– Куда вы идете, Оскольцев?

– Я не иду никуда. Я влюблен.

– В кого ж вы влюбляетесь осенью снова и снова?

– Мне не сентябрементально. Мне уже октябрёво.

# Ірына Барысевіч

## ПЕРШЫ СЬНЕГ

Сёньня гуляю –
    рэспэкты апошнім трамваям!
Ноч гарадзкая
    заўзята пільнуе і сочыць.
Я не ўцякаю –
    я сёньня зіму сустракаю,
сёньня сьмяюся
    ў яе ліхтаровыя вочы.
У сьнежнай багне
    каторы ўжо раз ўваскрасаю.
Белыя зграі
    на мне пакідаюць малюнак.
Вуснамі прагна
    сьняжынкі ў палёце хапаю
І ўяўляю,
    што гэта – яго пацалунак.

## ШТОсь пра суШЫ

Пачысьці яе ад рэштак
ўсяго, што у ёй варылася,
аблі віраватым кіпнем,
на ветрыку прасушы,
а потым шапні ёй нешта
з таго, што вакол рабілася,
і зноў адмывай, што ліпне
да сьценак тваёй душы.

## Я РАДАЯ ВЯСЬНЕ

Я радая вясьне, яе рукам вільготным,
Апошнім ледзякам і першым ручаям,
Прастуджанай сасьне, вярбе – па сьнезе ў сподным,
Сасьмяглым павучкам, прымружаным зьмяям.
І лютні салаўя, і кветкавым салютам –
Я тут не закрану й траціны ўсіх нагод.
Таму, напэўна, я прыйшла на сьвет у лютым,
Каб сузіраць вясну старэйшаю на год.

## ПРАФЭСІЯ

На вусны чужыя кладуся альбо разынкамі?
Сьняжынкай ці кветкай шыпшыны – як хоча спадар.
Сумленьне і годнасьць сыходзяць па коштах рынкавых,
Ад сьліны ж пагардлівай лёгка абцерці твар.
Пакуль будзе попыт – ня стану мяняць прафэсію,
Тутісьціна больш верагодная, чым у віне.
Ты мабыць сьмяесься? Табе, паважаны, весела?
А чым ты ўласна адрозьніваесься ад мяне?

## ГОРАД

чакае горад начных прыгодаў
гарэлкі гадаў і асалодаў
салёных зьліваў крывавых мрояў
ды гэта дзеецца не са мною
ляжу на схіле дзіцячай горкі
гляджу у неба вартую зоркі
марожу ныркі стагну ад гора
аазыс у багне маёй гаморы

## ***, МЗ!

Вясновы вечар. Стаю на трасе.
Ніхто ня едзе, а дождж ідзе.
Такая трасца! Я на абцасах
Брыду, спыняюся дзе-нідзе.
Такая трасца! Без парасонка!
(Ён лепшым сябрам мог стаць маім).
Гляджу: сьмяецца зь мяне сасонка –
Аж сьлёзы коцяцца – звонка-звонка,
Скрозь сьмех пытаецца: «Ір, ты з кім?»
А я адна ў вясновы вечар,
І лес ня легчыць нямы адчай.
Я ледзь трымаюся, ледзь ня енчу,
Лічу адлегласьць да аўтазграй.
Адны мінаюць, другім налева,
А хто сыгналіць, крычыць: «Сматры!»
Праз дзьве хвіліны – ізноў залева...
Я ненавіджу цябе, Эм Тры!

* * *

Колькі часу мінула
З гадзіны апошняй страты –
Штохвілінна натую ў вершах,
Звычайных і «белых»,
Успамін пра твой позірк
Пад колер гарачай гарбаты,
Што ўсьміхаўся
Цытрынавай долькай –
Шырока і сьмела.
З тваіх вуснаў, як з сотаў,
Сьцякалі мядовыя словы.
Голас твой,
Аксамітны й гаючы,
Як кубак глінтвэйну.
Я табе адмаўляла
Няпэўным дзявочым
«Ну што Вы!»
Я шукаю цябе ў завеі,
Але безнадзейна.

## ДЗІЦЯЧЫЯ ПОШУКІ

Блукаю ўсьцяж небакраю
Удзень – зь ліхтаром надзеі,
Шукаю сваю Радзіму,
Знаходжу – й не пазнаю.
Пытаю людзей у адчаі:
«Куды ж вы яе падзелі,
У што ж вы ператварылі
Краіну – яшчэ маю?
Тут лыжка імкне ў талерку
Хутчэй ад вэласіпэда,
А думка цячэ павольна
Пякельнай ракою Стыкс.
Тут кожны замест люстэрка
Глядзіць у акно суседа,
А бачыць там толькі тое,
Што кажа таварыш Х».
У адказ мне гавораць людзі,
Маўляў, ты яшчэ малая,
Ты столькі не разумееш
У цяжкім, як хлеб, жыцьці.
Калі у гамонках будзеш
Надвор'е й хваробы лаяць,
Тады ты, нарэшце, сьцяміш,
Куды трэ было ісьці.
«Ня веру я вам, ня веру!
Я іншая, іншая! Чулі?
Ніколі мяне ня змусяць
Прызнаць, што так мае быць!»
Як выбух, зьмятаюць дзьверы
Усьмешку і позірк чулы.
А я на крыві клянуся
Змагацца, шукаць, любіць.

Пакуль я яшчэ жывая,
Да Волі й Вясны ахвоча,
Сьляпая, а зноў шукаю,
Змагаюся пакрысе...

Аднойчы я ачуняю,
Слухмяна расплюшчу вочы,
Растану ў агульнай зграі
І стану такой, як усе.

# Валянцін Бойка

## КАХАННЕ Ў ЧАТЫРЫ РУКІ

Ейнае дыханне было ціхім і заспакоеным. Маленькія кругленькія смочкі ледзь-ледзь уздымаліся пры ўдыху. Малочна-белыя, не аблашчаныя бессаромным сонечным промнем, формай яны нагадвалі дзве спелыя сунічкі. Я згарнуў далонь жменькаю і накрыў правую грудку. Яна цалкам схавалася ў маёй руцэ. Я трымаў руку доўга, пакуль не адчуў, як халаднаватая плоць пачынае цяплець і налівацца цвердзінёю. Потым дакрануўся да левай – той жа эфект. Тады я некалькі разоў крануў пальцам цёмную пупышку. Яна стала нечакана пругкай і цвёрдай. У паўзмроку пакоя вострыя кончыкі ейных грудак вылучаліся на тле бледнага прастакутніка вакна, зь якога цадзілася туманнае ранішняе святло, быццам дзве горныя вяршыні. Яна застагнала ўва сне і абхапіла маю шыю. Я асцярожна вызваліўся з палону. Яна пакрыўджана засапла і затуліла твар падушкай. Маўляў, як хочаш, а я тады буду спаць. Доўгая паласа прасціны змеепадобна абвівала ейнае белае, крыху паўнаватае цела антычнай вакханкі, далікатна ныраючы паміж спакуслівымі сьцёгнамі і прыкрываючы ейнае ўлонне, гарачае, як жарало Везувія. З-пад падушкі высыпалася пасма каштанавых валасоў. Я глядзеў на іх і разважаў над ірóніяй лёсу: мне заўсёды падабаліся бландынкі, але сваёй прыхільнасцю больш ахвоча адорвалі паненкі з валоссем колеру крумкачовага крыла або каштану. Зрэшты, дзякуй усемагутнаму пану Лёсу і за гэта.

Я ня стаў апранацца і, як быў, сеў за стол і націснуў на гузік кампутара. Узлакаціўся на стальніцу, згарнуў рукі хаткаю і задуменна падпёр імі падбароддзе. Я заўсёды раблю так, перш чым сесці за чарговы шэдэўральны твор, пакуль кампутар млява варушыць сваім электроннымі звілінамі. Звонку гэта выглядае крыху камічна, быццам я малюся пісьменніцкаму богу, імя якому – Microsoft Word. Сястра, аднойчы ўбачыўшы мяне ў такой паставе, доўга смяялася. Але я, не зважаючы на кепікі сяброў і блізкіх, няўхільна выконваў гэты творчы рытуал, без якога, здавалася, не

здолее нарадзіцца аніводзін радок. У галаве ўсё яшчэ стукацела кроў. Гарачае паветра поўнілася няўлоўнымі флюідамі начной жарсці. Збэрсаны ложак і беламармуровыя абрысы цела вакханкі на скамячанай прасціне ды завязаны вузельчыкам гумік на падлозе – толькі слабы след таго ўрагану, што пранёсся тут уначы. Як буравал пасля шаленства стыхіі. Гэта змусіла мяне ўсур'ёз задумацца над феноменам вампірызму, калі сарамлівая дзяўчынка, якая стыдалася нават пацалавацца ў амаль бязлюдным парку і чыя спадніца ніколі не падымалася вышэй нябачнай ватэрлініі на ўзроўні калена, ператвараецца пад уздзеяннем святла поўні на сапраўдную сэкс-вупырку. Добра, калі засмокаў не наставіла. Я яшчэ раз кінуў позірк на белы шлейф прасціны, што з распуснай грацыяй прабягаў паміж ейнымі нагамі. Пасля такое начы адчуваеш сябе Стаханавым, які, шматкроць перавыканаўшы сваю норму па здабычы карысных выкапняў, вяртаецца з глыбіняў шахты на свет божы. Дарэшты змардаваны, але задаволены, ён выпаўзае з апраметнай, мёртва трымаючы ў руках свой знерухомлены адбойны малаток, і тут жа падае на рукі таварышаў.

Вядома, на іх залазіш зьверху, але ж потым яны праглынаюць сваім вялізным валасатым ротам тое, што ў вас пад жыватом, і мяркуючы па тым, што я чуў, якраз яны ў такім абмене і выйграюць – і выйграюць многа. А я нічога ні ў кога не прашу, і сам аддаваць нічога не збіраюся.

*Жан-Поль Сартр.*

Вось так. Затое ў Сартра Нобелеўская прэмія была амаль што ў кішэні. А ён ад яе адмовіўся. Затое не адмовіўся я. Мне яе ніхто і не даваў.

Таму для мяне пытанне Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры застаецца злабадзённым. Я нават вызначыў для сябе прыблізную ўзроставую мяжу: гадоў трыццаць. Сама болей трыццаць пяць. А лепш за ўсё – трыццаць тры. Каб пасля прамовы ў навюткім, як з голкі знятым, смокінгу распусціць грашовую ўзнагароду за мае геніяльныя творы (пакуль яшчэ ненапісаныя) не толькі на сядзелак і дарагія клінікі. А пакуль геніяльныя задумы спеюць у маёй га-

лаве, чакаючы, калі я сарву іх з дрэва ўласнага роздуму, мне прыдаўся б і які-небудзь занюханы «Букер», бо грошай не было ані халеры. У гэты час я акурат пісаў раман, адразу прымерваючыся перакласці яго на расейскую, а ў блізкай відалі і на ангельскую мовы. Ужо бралося на дзень, мая голая задніца трывала прыліпла да нагрэтага пластыку. Увогуле, я стараўся пісаць пра каханне, так бы мовіць, «па гарачых слядах», міжволі намагаючыся запамінаць усе тыя выгукі, што зрываюцца з нафарбаваных вуснаў у часе таго найвялікшага ўздыму на хвалі жарсці, які можна параўнаць толькі з вывяржэннем вулкана. Нягледзячы на гэтую вынаходку, недзе пасярэдзіне твора ўся маліна безнадзейна псавалася: стасункі паміж героем і гераіняй зайшлі ў такі глухі тупік, сюжэтнае выйсце адкуль бачылася ў банальным сеансе пасцельнай аэробікі ў нэарамантычным стылі. Калі Ягоны ўнутраны сьвет для мяне быў просты, як школьная табліца множання, то Ейны вобраз заставаўся ахутаным такім густым туманам няпэўнасці і агульных фразаў, што любая спроба прабіцца скрозь яго змушала мяне вяртацца да зыходнага пункту. Ціха мацюкаючыся, па пяць разоў я перапісваў адну і тую ж сцэну, прабіваючыся праз тэкст, нібы бульдозэр. Яшчэ горш было тое, што фінал маіх папярэдніх аповедаў пра каханне часам прабіваў на слязу нават самых зацятых цынікаў. Адна мая гераіня не знайшла іншага выйсця зь любоўнага трохкутніка, як павесіцца на падораных каханым чалавекам панчошках у 60 дэнаў, каб яму было сорамна. А той, паскуднік, не бедаваў нават для прыліку, узяўшы, аднак, на памяць свой падарунак, які фатальным чынам адбіўся на лёсе гераіні. Шчыра кажучы, аповед дапісваўся з найдзічэйшага бадуну, мяне гарнула на сон, і таму развязка атрымалася адпаведнай майму ўнутранаму стану. Другая мая гераіня пасля ўсіх згрызотаў, што выпалі на ейную долю, выправілася ў вясельнае падарожжа ў Афрыку, дзе яе ўкусіла муха цэ-цэ, якая ўпала ў бюстгальтар. Пасланы па выратавальную сыроватку ганец, натуральна, спазняецца, і гераіня памірае на руках у мужа, які кусае вусны, ледзь стрымліваючыся, каб тут жа не разрыдацца. І натуральна, ейнымі апошнімі словамі было: «Я кахаю цябе... Абяцай, што не ажэнішся зноў, пакуль на маёй магіле ня вырасце аўракалія»

Поўны гамон. Мая знаёмая, пачытаўшы рукапіс, плакала наўзрыдзь і размазвала па шчаках старанна наведзены макіяж. «У жыцці і так шмат гора, а ў кнізе хочацца шчаслівага фіналу», – падсумавала яна, высмаркаўшыся ў ласкава прапанаваную мною хусцінку. Тады я зноў сеў за стол і ўважліва перачытаў напісанае. І пры гэтым рагатаў, як ненармальны. Словы, падзеі, учынкі тхнулі такой жахлівай шаблонавасцю і фатальнай прадказальнасьцю, што апавяданне выглядала на банальны літаратурны сцёб. У часе напісання наступнага твору, ачмурэлы ад узроўню жаночай смяротнасці, я вырашыў, што гэтым разам павінен загінуць герой. Хворая фантазія працавала напоўніцу. У выніку нарадзілася геніяльная гісторыя пра каханне самотнай хатняй гаспадыні з трыма дзецьмі і артыстычнага гея-нацыяналіста, які пад уплывам моцнага пачуцця перагледзеў свае погляды на традыцыйную любоў. І ў апошні момант ён гіне ад удару заточкі, уласным целам затуліўшы жанчыну ад помсты свайго колішняга раўнівага каханка.

Новы раман павінен быў скончыцца добра.

Я ўздыхнуў, падкасаў нябачныя рукавы і забегаў пальцамі па літарніцы.

Начны марскі брыз прынёс з далёкага берагу пах язміну. Ізабэль стаяла ля адчыненага вакна. З заміраннем сэрца яна глядзела, як дагарае агеньчык свечкі. Свежае марское паветра ўварвалося ў пакой. Яна аблізала свае пульхныя вусны і адчула салёны прысмак мора. Язычок полымя здрыгануўся і згас. Месяц зайшоў за хмары, і пакой агарнула цемра. За вакном зіхцелі яркія, як цяжкія кроплі срэбра, зоры. Пад імі велічна каціла свае хвалі мора – шырокае і неабсяжнае. Але навакольная краса зусім не кранала сэрца маладой прыгажуні, чые вочы, здавалася, увабралі ў сябе ўвесь блакіт паўднёвага неба. У гэты вечар вырашаўся яе лёс. З заміраннем сэрца яна чакала, калі за дзьвярыма пачуюцца знаёмыя крокі – моцныя, упэўненыя – і

І што далей? Блін... Поўны творчы запор. «Нобель» літаральна ўплывае з рук.

дзве дужыя рукі абдымуць яе, і яны паплывуць на хвалях кахання ў дзівосную краіну вечнага аргазму

Не, занадта пошла.

краіну вечнага шчасця
вечнага сонца
вечнай вясны
вечнай яшчэ нейкай трасцы

Добра, пакінем пытанне вечнасьці філосафам. Так, на чым я спыніўся?

Ага, пачынаецца самае цікавае. Я яшчэ раз зірнуў на спакусьлівае цела, што распласталася на ложку, залітым святлом ранішняга сонца.

вечнага забыцця!

Мае спадзевы на Нобель пераважылі відавочны Рэнесанс.

Усхваляваная, Ізабэль зноў падышла да вакна. Сэрца ейнае білася ўсё часцей і часцей. Няўжо ён не прыйдзе? Няўжо пакіне адну ў гэтым горадзе, населеным злобнымі сарацынамі?

Хто такія сарацыны, я ўяўляў сабе даволі цьмяна, але слова было прыгожым.

Трапяткое сэрца спалоханай птушкай ірвалося з грудзей. Ад частага дыхання яны хадзілі ходырам

Фу!

Ад частага дыханьня яны ўздымаліся і ападалі

Жудасць!

яны ўздымаліся, і ейнае дыханне станавілася перарывістым. Вочы прызвычаіліся да цемры. Вусны трымцелі, зь іх гатовае было

сарвацца рыданне. Раптоўнае водгулле крокаў на лесвіцы змусіла яе замерці ў напружаным чаканні, якое для ейнага спакутаванага сэрца доўжылася цэлую вечнасць.

Зноў гэтая «вечнасць». Я з цяжкасцю адклеіў ад услона свае ўзмакрэлыя ніжнія паўшар'і. Няхай Ізабэль пачакае, пакуль я прыму душ і прывяду сябе да ладу. Стоячы пад бадзёрлівымі струменьчыкамі вады, а пасля сашкрабаючы двухдзённую парасць са шчок, я крыху паразважаў пра метафізычную існасць творчасці і пра тое, што дзень – для не самы плённы час у сэнсе літаратурных адкрыццяў. У свеце дзейнічаюць два непарушныя законы: закон сусветнага прыцягнення і закон подласці. Паводле першага намазаны маслам лусцень падае менавіта ўніз, а ні ў якім іншым кірунку, паводле другога варта мне, мацюкнуўшыся, вымкнуць кампутар і легчы спаць, як геніяльныя думкі ў галаве выстройваюцца ў чаргу, быццам на прыём да псіхатэрапэўта.

Прыгнечаны сумнымі думамі пра няспраўджаную Нобелеўскую прэмію, я вярнуўся ў пакой і спыніўся, бы выцяты перуном. Каб у гэты момант на нашую грэшную зямлю зваліўся астэроід, што забрыў немавед адкуль з глыбіняў Сусвету, або адбыўся дзяржаўны пераварот (усім шампанскага!!!) і нашыя прыйшлі да ўлады, нават тады душа мая не ўскаланулася б у гэткім глыбокім узрушэнні, быццам ціхае балота, у якое шубоснуў камень. Але карціна, якая паўстала паўстала перад маім позіркам, сюжэтна нагадвала фільм жахаў. О, багі усемагутныя!!!

Яна сядзела за кампутарам і пісала.

Пісала мой раман.

Я ўтаропіўся ў ейную аголеную сьпіну.

У ейную спакуслівую нахабную сьпіну.

– Што ты робіш? – пацікавіўся я.

– Пішу, – яна ўсьміхнулася чароўнай дзіцячай усмешкай, поўнай шчырага наіву. – Ты ж не адзіны пісьменнік у свеце.

Я падумаў, што сюжэтнае вырашэнне фіналу п'есы «Атэла» на такое ўжо бязглуздае, як мне падавалася раней.

– Гэта МОЙ раман, – паведаміў я, стараючыся ўкласці ў свой голас як мага болей пагрозлівай стрыманасці. – І я не люблю, калі нехта чыніць завады на маім шляху да літаратурнага прызнання.

Яна засмяялася. Стары маўр сапраўды быў не такі ўжо дурны.

– Дарэчы, як па-беларуску «зажигалка»?

– Запальнічка, – зласліва пасміхнуўся я (задуменна прыкусіўшы язык, яна ў гэты час выбіла на літарніцы «ЗАПАЛЬНІЧКА»). – Толькі мушу цябе расчараваць: дзеянне раману адбываецца ў 18 стагоддзі. Прыкурвалі тады хіба толькі ад свечак.

– Няўжо? А ў папярэдняй частцы твой герой бярэ два квіткі на самалёт да Брукліна…

– Дзе? – я ня даў веры.

– А вось тут…

Fucking shit!!!

Трэба было прымаць тэрміновыя захады для паратунку свайго пісьменніцкага гонару.

– Генію, – лагодна пачаў я, быццам размаўляючы з дзіцём, – таксама ўласціва памыляцца. Але нават самая недарэчная памылка нясе на сабе адбітак ягонае геніяльнасці.

Вось так, каханая. Я з жудою заўважыў, што яна паспела напісаць амаль паўстаронкі.

– А цяпер, я спадзяюся, ты вызваліш мне месца, і дазволіш скончыць свой шэдэўр.

– Ты проста самазакаханы дурань!

– ???

– Усе вы самазакаханыя дурні! І эгаісты! Як можна пісаць пра жанчын, па-сапраўднаму не ведаючы іх? Прачытаўшы твой раман, можна падумаць, што ўсе жанчыны – істэрычкі!

У мяне напагатове было рытарычнае пытанне, якая цалкам лагічна выцякала з вышэйсказанага: «А хіба ня так?» Яго яна, урэшце, і пачула.

Лепей бы я аблізаў у маленстве міксер. Прынамсі, трымаў бы свой язык зацугляным. Ад дзікага жаночага лямaнту валасы на галаве заварушыліся, як лес падчас буры. Сэнс пятнаццаціхвіліннай араторыі на тэму «Усе мужыкі – сволачы (казлы, юрлівыя кабялі, гады – патрэбнае падкрэсліць) зводзіўся да старой, як свет, думкі: «Ну і гаўнюк жа ты, каханы!»

Я ведаю, любая! Што зробіш...

– Усё! Можаш выдаляць і працягваць свае геніяльныя думкі!

Прыўкрасная, як Вэнэра, ў сваёй ваяўнічай аголенасці, яна дэманстратыўна пакінула маё працоўнае месца (Ye-e-e-S-s-s-s!).

Ідзеш да жанчыны? Вазьмі з сабой плётку.

*Фрыдрых Ніцшэ.*

Маё самалюбства, што дагэтуль млява варушылася ў мядзведжым бярлогу паблажлівасьці, стала на дыбкі і ашчэрыла зубы.

– А вось і не буду! Прынцыпова! Мне і не такую бздуру даводзілася правіць!

Яна таропка сабрала раскіданае на падлозе адзенне і гучна бразнула дзвярыма, ды так, што павук, які сплёў павуціньне пад столлю і цяпер мірна закусваў свежаю мухаю, гахнуўся долу. Я нахіліўся і пабачыў, як ён недаўменна пацірае лапкаю выцяты зад: маўляў, якая муха яе пакусала?

Яна сышла.

Назаўсёды.

У ванную.

На дыбачках я падышоў да дзвярэй ваннай, каб пераканацца. Яна, мабыць, нейкім дзівам пачула мае ледзь чутныя крокі, і ціхуткае цурчэньне вады шматкроць памацнела. Цяпер у маёй ваннай разлягаўся шолам Ніягарскага вадаспаду. Я зірнуў у прыбіральню: лічыльнік вады шалёна круціўся, спяшаючыся перавыканаць, прынамсі, паўгадавы плян.

Яна паставіла мяне на лічыльнік.

А потым пачалося нешта такое, што цяжка было дагэтуль уявіць у маёй ваннай:

> Скажи красавица, чего не нравится?
> Ведь я всего лишь навсего хочу тебе понравиться...

Праз пляскатаньне вады далунаў спеў, бязглузды і фальшывы. Брыдкая расейская папса ў маёй ваннай! Большага здзерства немагчыма было ўявіць. Я пасунуўся ў пакой з рашучым намерам сілаю

свайго таленту разбіць ушчэнт напісаную ёю звычайную жаночую ахінею. Калі быць шчырым, то я ставіўся да жаночай любоўнай прозы крыху перадузята: іхнія творы пра каханне апошнім часам выдавалі на няспынную работу над апошнімі памылкамі Афанасія. Выправіць становішча магла якая-кольвечы моцная эратычная сцэна, магчыма з элементамі лёгкай парнаграфіі. Я ўспомніў усе вядомыя мне віды вычварэнняў і вырашыў спыніцца на звычайным каханні, але ў экстрэмальных умовах. Я сеў за стол, зірнуў на відач і роспачна абшчаперыў рукамі галаву. Я чакаў, што будзе дрэнна. Але наўзьдзіў гэта было зусім нядрэнна. Гэта было проста ВУСЦІШНА.

– Джон?! Гэта ты?! – трапяткі голас з надзеяй запытаўся ў цемры.

– Я, – адказаў хрыпаты мужчынскі голас.

– О, любы! – дзве пяшчотныя, пакрытыя паўднёвай загарай рукі абвілі ягоную шыю (Увага: класічны ўзор жаночай логікі: у пакоі цемра – хоць вока выкалі – а рукі абавязкова «пакрытыя загарай»). – Дзе ты быў так доўга? Я ледзь не звар’яцела ад чакання!

– Каханая! Цяпер мы назаўжды будзем разам! На пірсе нас чакае шхуна. Мы паплывем далёка-далёка, туды, дзе твой бацька ніколі не знойдзе нас! Зоры будуць сьвяціць толькі для нас, мора будзе спяваць нам свае песні...

– Ах, Джон, як я кахаю цябе!

Ня даўшы яму дагаварыць, Ізабэль запусціла ў ягоны рот свой гарачы язык, які стаў пругкі і рухавы, нібы змяя. Раптам яна адштурхнула Джона. Той агаломшана глядзеў на каханую жанчыну, чый твар умомант стаў суворым, як навальнічнае неба. Блакітныя вочы, здавалася, бліскалі маланкамі.

– Джон! – адрывіста сказала яна, крыху падвысіўшы голас

– Што здарылася, каханая? – недаўменна спытаў ён.

– Джон!

– Я нечым пакрыўдзіў цябе?

– Джон!!! – голас ейны дрыжэў, як напятая струна.

– Што? – перапытаў Джон.

– Што?!! У чым рэч, ліха тваёй матары!!! – ня вытрымаў я. Гэтая дурніца Ізабэль аказалася звычайнай істэрычкай. Гэтага і варта было чакаць.

– Джон!!! Ты зноў піў!!! Ад цябя пахне ромам! Гэтым жудасным ямайскім ромам!

Які ямайскі ром? Што ты вярзеш?!!...

– Які ямайскі ром? Што ты гаворыш? Ізабэль, табе, мабыць, падалося...

Ейны твар стаў белым, нібы каменным.

– Любая, даруй! – не вытрымаў Джон. – Проста капітан шхуны – стары марскі воўк, таму давялося кульнуць з ім пару чарак за поспех нашага падарожжа. Марская традыцыя.

– На ўсё ў вас знойдзецца апраўданне!

Замест выбуху пачуццяў – млявая побытавая разборка на тэму «Дзе быў, з кім піў?» І пасля гэтага ў мой бок яшчэ лятуць закіды ў недастатковай рамантычнасці.

– Ізабэль... – нясмела пачаў ён.

– Усе вы аднолькавыя!!! Казала мне мама, а я, дура, ня верыла, думала, усё будзе не так, як ва ўсіх... А гэта што?

Ізабэль рэзка правяла даланёю па Джонавай шчацэ.

– Што гэта такое?!

– Не ведаю...

– Затое я ведаю!!! Гэта памада! Жаночая памада! Ты быў у публічным доме?! Прызнавайся! – голас яе дрыжэў. З вуснаў гатовае было сарвацца рыданне.

– Разумееш, мы з капітанам пайшлі ў шынок, каб усё абмеркаваць...

– А потым вырашылі прайсціся па дзеўках?!!

Чорт! Чорт! Чорт! Я ускочыў з-за стала і зрабіў некалькі нервовых кругоў па пакоі. Так сапсаваць раман у кульмінацыйны момант! Для мяне заўсёды мела першаступенную важнасць хваля ўздыму жарсці, шаленства пачуцця, зьліцця дзвюх душаў (і целаў) у непарушную суцэльнасць, імя якой – каханне. І тут у стройнае суладдзе майго аповеду ўварвалася нахабная бытавуха. Дзеці, нямыты посуд, лецішча, пакупка патрыманага Фальксвагена, пытанні кшталту «Дзе ты быў?» і «Колькі гэта яшчэ будзе доўжыцца?» ды іншыя сьветлыя радасці сямейнага жыцця я звычайна пакідаў «па-за кадрам», стараючыся захаваць у сваіх творах эманацыю чыстага кахання,

за што мае нешматлікія (пакуль) чытачкі, на якіх я правяраў псіхадэлічныя вартасці новых раманаў, шчыра дзячылі. Часам нават давалі неабходны практычны матэрыял для новых шэдэўраў любоўнае і ня вельмі прозы. Але сярод іх зноў-такі не было бландынак, за выняткам пафарбаваных.

Я ціха вымацюкаўся і адчуў некаторую палёгку, якая дазволіла неверагодным намаганнем волі зноў усадзіць сваё цела за стол.

– О, Божа! І гэта – бацька майго дзіцяці!

Што?!!!!! Якое дзіця?!!!! Адкуль дзіця?!!! Зрэшты, зразумела адкуль. Я стаў ліхаманкава гартаць папярэднія старонкі, прабягаючы вачыма па добра знаёмых, выпакутаваных радках. Паводле маёй задумы гераіня павінная была заставацца нявіннай да пэўнага моманту. Цікава, калі ж гэта яны паспелі? Ды так, што я і не заўважыў?

– О, Ізабэль!!! – Джон зарыдаў ад шчасця і ўкленчыў, абняўшы ейныя ногі. – Божа, я самы шчаслівы чалавек на свеце! Мяне кахае самая прыўкрасная жанчына! І ў яе будзе ад мяне дзіця... Даруй, каханая, даруй... Каб я ведаў раней...

– Ну, як маецца мой пісьменнік? – ейны голас прыкметна палагаднеў. Рука ласкава прабегла па маіх ускудлачаных валасах.

– Цудоўна, – прабурчэў я скрозь зубы.

– Праўда, у мяне ёсьць талент?

– Угу... – змрочна прамычэў я, прыкідваючы, як можна знайсці выйсце з сітуацыі, не мяняючы напісанага раней. Мне карцела давесьці гэтаму пуставатаму дзяўчу, чаго варты сапраўдны пісьменнік. І тут я зразумеў, што маёй кнізе ўжо вынесены жахлівы прысуд: у лепшым выпадку яе выдадуць недзе ў Маскве ў жудасным перакладзе, дзе «запалкі» стануць «зажигалками», а ў мяккі пераплёт з пашлаватым малюнкам на вокладцы конча скасуе накрыж любы намёк на творчасць. А потым маю кнігу будуць забываць у цягніках. Калі кнігу забываюць у цягніку, здаецца, што гэта сведчыць пра прызнанне пісьменніка. Прынамсі пра тое, што яго чытаюць. Але насамсправе гэта азначае, што чытачу, па вялікім рахунку, гэтая

кніга да лямпачкі. Няма горшае долі для таго, хто вырашыў звязаць сваё і без таго кароткае чалавечае жыццё з літаратурай.

– Праўда, ты пакінеш тое, што я напісала? – лёгкі дотык рукі да маіх валасоў набыў прыкметнае адценне юрлівасці. Яна спадкрадня назірала за тым, як мянялася маё аблічча. – Прабач, што я не спыталася ў цябе, але мне здаецца, што раманы, напісаныя вамі, мужчынамі, занадта простыя...

– Ты хочаш сказаць, што я пішу занадта прымітыўна? – ува мне віравала злосць.

– Не, я ня гэтае хацела сказаць. Проста вы не заўсёды правільна разумееце жанчынаў. Іх мары, жаданні...

– Ты ўважаеш, што банальны залёт – вяршыня ўсіх жаночых летуценняў?!

– Фу, які ты грубы. Проста бальшыня жанчынаў так ці інакш марыць пра дзіця. Часам нават не разумеючы гэтага.

– Ты маеш на ўвазе, падсвядома?

– Ага. Я гэта і хацела сказаць.

Дзве цёплыя рукі абшчапілі маю шыю. Яе далікатная шчочка пяшчотна прытулілася да свежавыгаленай маёй:

– Праўда, калі-небудзь у нас будзе маленькі?

Перавод пытання ў плашчыню асабістага заспеў мяне знянацку. Я адчуў сябе ў становішчы селяніна, які ўпотайку выбраўся накрасці бульбы з калгаснага поля, і быў заспеты брыгадзірам на гарачым. У прынцыпе мае пляны ня мелі напалеонаўскай далёкасяжнасці (я ўвогуле вельмі сціплы чалавек). Самае большае, на што я разлічваў, ужо даўно адбылося і паспела стаць фактам гісторыі, хаця, прызнаюся, сякія-такія цёплыя пачуцці ўзварухнуліся нават у маёй чэрствай душы. Пастаноўка пытання рубам змусіла мяне закашляцца. Яна з той жа пяшчотаю, з якой гладзіла мае валасы, некалькі разоў пляснула мне па спіне.

– Ты будзеш пісаць свае раманы, я буду глядзець дзіця, а ў вечары мы будзем шпацыраваць па парку. У нас будзе цудоўная сям'я. Праўда?

Ейныя караткаватыя пульхныя пальчыкі з доўгімі пазногцікамі ляжалі ў небяспечнай блізкасьці да маёй шыі. Адмоўны адказ мог мець непрадказальныя наступствы.

– Паслухай, любая! – разлютавана прашыпеў я. – Я пішу раман. РАМАН! Ты разумееш? Можа быць, я паганы пісьменнік, але гэта не дае табе права ўмешвацца ў маю творчасць! Ты можаш улезці ў маю лядоўню, можа перакуліць дагары нагамі шафу з адзеннем і нават навесці там парадак, пасля чаго я ані халеры не змагу там адшукаць, можаш паіць мяне да паўсмерці сваёй зялёнай гарбатай, ад якой іншым разам хочацца званітаваць, можаш павыкідаць мае іrваныя шкарпэткі, можаш па сто разоў на дзень дапытвацца, дзе я быў і з кім пры гэтым піў ж, але НІКОЛІ, чуеш, НІКОЛІ!!! не чапай мае творы!!! Эн – і – ка – о – эл – і – НІКОЛІ! Я ведаю значэнне слова «безнадзейнасць» для творчасці. Я ведаю, што ніводзін кароль не ўганаруе мяне ордэнам Белай мышы. Але не перашкаджай мне пісаць! Інакш я раззлуюся, і ўсё-ткі напішу нешта геніяльнае. І тады давядзецца перціся ў Стакгольм, у гэтую глушэчу, за немавед колькі кіламетраў забіраць маю чортавую прэмію! А ты, як верная пісьменніцкая жонка, мусіш перціся туды разам са мною. А ў самалёце табе стане млосна, і ўсю дарогу ты будзеш скардзіцца на дрэннае самачуцце, і на тое, што табе няма чаго апрануць на ўрачысты фуршэт. Але самае галоўнае (праўда, у гэтым ты не прызнаешся нават самой сабе) у тым, што пабаішся адпусціць мяне аднаго ў гэткую далеч, бо ўсе твае веды пра Швецыю круцяцца вакол прапелера Карлсана і няўцямных показак пра шведскія сем’і і іншае пашлоцце. А яшчэ на банкеце ў мой гонар я магу напіцца ў зюзю і пачаць гучна смаркацца ды лаяцца матам у прысутнасці каралевы, а потым заснуць носам у салаце! Фотка, дзе я адпачываю ў кампаніі дробна пакрышанай марской капусты ды іншай акеанічнай хрэні, мае ўсе шанцы ўпрыгожыць раздзел свецкае хронікі. Скандал!!! А ўсё таму, што мужчына для вас – бездапаможнае дзіця, якое не можна пакінуць без нагляду. Адзінае, пра што я прашу – не лезьці ў маю творчасць і даць мне спакойна гніць у варунках нашай літаратуры! Я пішу раман не таму, што гэтая хвішка мяне невымоўна кілбасіць! Мне банальна патрэбныя грошы. А чытачам патрэбная кніга, якая магла хаця б на хвілю ўвесці іх ад абыдзёншчыны, якая ім даўно апрыкрала. Я гандлюю ілюзіямі. Разумееш? А ілюзія – тавар надзвычай далікатны. І калі я вырашыў, што мая гераіня амаль да самога фіналу павінная застацца цнатлівай, значыцца, так і павінна быць, нават калі ў звычайным

жыцці ў ейных альковах перабывала ўсё мужчынскае насельніцтва гораду і ваколіцаў. Бо я так хачу!

Я выпусціў пару, і на душы прыкметна палегчала.

– Ты хочаш сказаць, што мы пажэнімся? – вялікія карыя вочы запытальна паглядзелі на мяне. Мяркуючы па ўсім, сэнс маёй угнеўленай тырады застаўся для яе ня болей, як шкарлупінай, пад якім таіўся гарэх патрэбнай ёй ісціны. Я застагнаў і споўз долу.

Даруй, каханая, я цябе тады недаацэньваў! Наступная заўвага дала мне зразумець, што на небаглядзе тваіх думак збіраюцца сапраўдныя хмары.

– Я ўсё зразумела, – ціха сказала яна, крыху памаўчаўшы, і апусціла вочы. – Ты пішаш не таму, што табе патрэбныя грошы, а дзеля таго, каб адчуць сябе богам. І героі гэтыя – твой вобраз і падабенства.

Трапны ўдар ніжэй ад пояса. Я нічога не адказаў і моўчкі накінуўся за тэкст. Я нечакана адкрыў для сябе простую ісціну: дзве рэчы не церпяць сьведкаў: каханне і творчасць. Калі для паўнавартаснага кахання патрэбная наяўнасць, як найменш, дваіх, то ў творчасці нават двое – занадта. Каб я ведаў раней, што будзе так, пісаў бы ў меланхалічным адзіноцтве.

...Каб я ведаў раней будзе так, я лепей застаўся б у карчме!

Выраз яго твару раптоўна змяніўся. Агаломшаная, Ізабэль моўчкі глядзела, як самы блізкі ёй чалавек на вачох ператвараецца на незнаёмца, чые сталёвыя ноткі ў голасе і халодны бляск цёмных зрэнак змушалі сэрца трапятаць спуджанай птушкай. Перад ёй паўставаў іншы Джон – ня той, каго яна кахала ўсёй сваёй юнай душою. О, не! Перад ёй стаяў зусім іншы чалавек. Здавалася, тыя ж валасы, рукі, вусны, але ад іх не веяла болей ранейшай цеплынёю. Ад усяе ягонае постаці патыхала холадам

– Джон, – пралепятала яна, – Мы ж заўсёды хацелі мець дзіця... Памятаеш, мы з табой так шмат пра гэта гаварылі?..

У яе сэрцы жыў спадзеў, што ўсё гэта злы жарт, жахлівы сон, які вось-вось скончыцца. Але сапраўдны кашмар толькі пачынаўся.

– Я ненавіджу дзяцей! Я ненавіджу ўсіх гэтых маленькіх смаркачоў, якія тыцкаюцца табе ў ногі і скавычуць: «Тата! Тата!» У мяне шмат дзяцей ад розных жанчынаў, і яшчэ адна маленькая

пісклявая істота не зробіць мяне шчаслівейшым – злавесна зашаптаў ён. І ў шэпце гэтым чулася зьмяінае шыпеньне.

– О, Джон! З табой дзеецца?!! Я не пазнаю цябе!!! – у роспачы ўсклікнула прыгажуня Ізабэль.

– Вы, жанчыны, у каханні бываеце занадта сляпымі! Але прыйшоў час раскрыць табе вочы. Я ніколі цябе не кахаў! Чуеш: ніколі!!! Я выкраў цябе з дому, каб разам з табою прысабечыць грошыкі твайго бацькі! Але цяпер ты мне болей не патрэбная!

Гарачыя слёзы каціліся з ейных вачэй і падалі на выстылы каменны дол.

– Джон! – рыдала няшчасная Ізабэль. – Успомні, нам было так добра разам!

– Не хвалюйся, птушачка, табе будзе яшчэ лепей. Я прадам цябе ў султанаў гарэм. Султан любіць залатавалосых красуняў! Але, не хвалюйся, я не адпушчу цябе проста так: зараз ты зноў будзеш маёй – у апошні раз!

– Сволач! – яна сядзела на краёчку канапы, затуліўшы далонямі тварык. Бліскучыя пазногцікі білі ў вочы двума дзясяткамі сонечных зайчыкаў.

– Хто? – запытаўся я. Да мяне вярталася звыклая спакойная паблажлівасць.

– Ты!!! За што ты так мучаеш яе?! Для вас, мужчынаў, жанчына – проста цацка. Як машына або відэакамера. Толькі з той розьніцай, што над машынай вы гатовы трэсціся пры выглядзе кожнае драпінкі!

Векавыя крыўды, якія наспявалі з часоў праматкі Евы, прарваліся бурлівым фантанам красамоўства. Я счакаў, пакуль, яна прыпыніцца, каб глынуць паветра для новае порцыі дакораў, і пяшчотна затуліў даланёю ёйны прыўкрасны роцік.

– Між іншым, вы гуляецеся намі з не меншым посьпехам.

Прабацька Адам мог бы мною ганарыцца. Яна моўчкі прылягла на канапе і адвярнулася, выставіўшы на мой агляд спіну, абцягненую шчыгульнай апранашкай, і вабныя клубы.

Хаця, у нечым яна мае рацыю. Зрэшты, пакуль гэта не мае аніякага значэння. Аніякага.

Бо надышоў час расставіць усе хвосцікі над «ў».

Ён груба прыцягнуў яе да сябе, пальцы ягоныя, некалі далікатна-пяшчотныя, нахабна і бесцырымонна палезлі пад доўгую спадніцу. Рыдаючы, Ізабэль штомоцы адбівалася ад гвалтаўніка. І тады ён разарваў на ёй цёмную аксамітавую сукенку, агаліўшы белыя грудзі. Ён стаў цалаваць іх гарачым ротам, не зважаючы на крыкі болю, якія зрываліся з вуснаў Ізабэль...

Стоп! Пара даць сабе роздух. Толькі цяпер я заўважыў, як адчайна лямантуе тэлефон. Мабыць, з Нобелеўскага камітэту. Тэлефануюць, каб запытацца ў містэра Бойкі пра зручны яму час для ўрачыстага ўручэння.

– The Nobel Prize in literature is awarded to... Valiantsin Boika!!!!!

Я ўздыхнуў і закатаў губу назад.

Няблага, калі б нехта зварыў мне кавы. Але гэты «нехта» пакрыўджана соп на канапе. Я адчуў шчырае шкадаванне з нагоды нашай, бязглуздай, па праўдзе кажучы, сваркі. Прынамсі, мог бы мець зараз кубак кавы. Я ўключыў на кампутары першую-лепшую мелодыю і выйшаў у кухню.

Гэта была мая памылка.

Не паспеў я пераступіць парог свайго працоўнага кабінету (спальні, сталовай, бібліятэкі – у залежнасці ад сітуацыі), як за мною трыюмфальна клацнула зашчапка. Пытаньне піцця кавы неяк адразу адышло на другі план.

З-за дзвярэй данеслася размеранае стукоцце клявішаў.

– То ж бо ўсе кажуць, што ты важдаешся з д’яблам.

– Гэта нястрашна пасля некаторых жанчын...

*Уладзімір Караткевіч*

З гэтага моманту я заро́кся строіць кепікі з жаночага розуму.

О, ёмішча падступства! О, згуба роду мужчынскага! О, спараджэнне пекла!

Проста дурніца.

Наступныя паўгадзіны пагрозаў, літанняў, кляцьбы і жаласлівага стогну маё сэрца разбівалася аб халодную сцяну маўчання, якое раз-пораз перарывалася стукатам клявішаў.

Я ў роспачы прысеў і абапершыся спіною на дзьверы, як бедны сваячок. Раптам дзверы паволі адчыніліся і ў прахоне з'явілася заплаканае аблічча, якое тут жа схавалася ў мяне на грудзях.

– Я забіла яго... – прашаптала яна, заліваючыся слязьмі.

– Каго?.. – не адразу сцеміў я, адчуўшы, як хутка макрэе мая кашуля.

– Джона... Ён аказаўся такой сволаччу...

Я баязліва зірнуў у пакой, нібы там напраўду мог ляжаць труп.

– Як гэта здарылася? – спытаў я як мага сур'ёзьней.

– Пачытай...

Ізабэль, старалася дабрацца зубамі да горла гвалтаўніка, але раптам ейная рука намацала кінжал, што вісеў у яго на поясе. Тонкае лязо дамаскае сталі ўвайшло ў ягонае горла, як у масла (і адкуль у яе – маёй каханай – такая крыважэрнасць?). Той захрыпеў і адпусціў сваю ахвяру. Цёмны гарачы струмень заліў ейны твар. Ускрыкнуўшы, яна штосілы адштурхнула яго, і той упаў, пакідаючы на падлозе крывавыя сляды. Яго цела некалькі разоў таргանулася і замёрла. Назаўсёды.

– Шкада Ізабэль... Праўда?.. – яна сядзела ў мяне на каленях.

– Шкада, але... ты ведаеш, у мяне ёсць адна ідэя...

Я ўзяў яе ручку з пульхненькімі пальчыкамі, якія любіў цалаваць у хвілі пяшчоты, у сваю лапу і...

– Ізабэль! – усхваляваны голас мог належаць толькі Яму.

О, Божа! Гэта быў ён! Як дзьве кроплі вады падобны на таго, што ляжаў нерухомы на персідскім кіліме, заціскаючы страшную рану на горле. Тыя ж валасы, той жа голас, але поўны пяшчоты і хвалявання...

– Джон?!! – не даючы веры сваім вачам, Ізабэль працягнула да яго руку і... страціла прытомнасць.

Па меры таго, як я дзяліўся з каханай сваімі думкамі, тварык ейны сьвятлеў і высыхалі слёзы. Седзячы ў мяне на каленях, яна раз-пораз націскала сваім далікатным пальчыкам, на якім серабрыўся танны пярсцёнак, на патрэбны нам клавіш.

Фінал шчаслівага аповеду пра каханне мы пісалі ў чатыры рукі.

...Свежы марскі вецер ласкава абвяваў ейнае аблічча. Хуткая, як страла, шхуна ўносіла іх у адкрытае мора. Тут, на палубе шпаркаходнага карабля, у абдымках каханага чалавека, Ізабэль адчула нязнаны дагэтуль прыліў шчасця. Зоры сонна пазіралі на свой адбітак ў цёмным люстры вады. Хвалі біліся аб барты шхуны, навяваючы спакой.

– О, Джон! Няўжо гэта быў страшны сон? – Ізабэль прытулілася да ягоных магутных грудзей.

– О, любая! Я ніколі не дарую сабе, што пакінуў цябе адну. Некалі я і мой брат-блізнюк закахаліся ў адну дзяўчыну. Але яна, ведаючы, што душа ягоная поўная нянавісці, аддала сваё сэрца мне. Пасля гэтага мой брат знік, пакляўшыся помсціць да скону дзён.

– І што было далей?

Джон крыху памаўчаў. Відаць было, што мінулае невыносна прыгнятала яго.

– Мая нявеста была люта забітая напярэдадні вяселля.

– Гэта зрабіў ён?

– Так. І потым, у які край ні закідваў мяне лёс, ён з’яўляўся там жа, дзе і я. А цяпер ён хацеў пазбыць мяне адзінага шчасця ў жыцці... О, любая, даруй мне!.. Я не змог бы жыць без цябе...

Яны зліліся ў жарсным пацалунку.

А наўкола шумела мора. І ў пошуме гэтым чулася неўміручая песня. Песня кахання, песня шчасця, песня жыцця.

– Усё! – яна крыху памарудзіла і паставіла апошнюю кропку. – Праўда, мы малайцы?

– Што б я без цябе рабіў!

Зрэшты, вядома што. Правёў бы дзень у цішы і неазмрочаным спакоі. Але спакой нам толькі сніцца.

Не паспеў я вымкнуць кампутар, як дзве рукі звыкла абвілі маю шыю і пяшчотны, але настойлівы пацалунак змусіў прыгадаць яшчэ адно прыгожае выслоўе.

...кнігі, як і дзецi, нараджаюцца ў пісьменнікаў ад жанчын.

*Уладзімір Арлоў*

Магчыма, я сапраўды неважнецкі пісьменьнік. Але якое гэта мае значэнне, калі ёсьць вусны, якія дораць табе пацалункі, і ёсьць тыя вочы, што з захапленнем глядзяць на цябе, якая б несусветная лухта ні бруіла з крыніцы тваёй уявы.

А пасля мы кахаліся ў бессаромным сьвятле дня, дорачы адно аднаму ўсіх сябе. Яна апантана ласкала мяне і сама прымала маю пяшчоту з сарамяжлівай распуснасцю вакханкі. Яна ведала, што я належу толькі ёй, і што будзе яшчэ шмат такіх дзён і начэй, напоеных то залатым святлом сонца, то срабрыстым ззяннем поўні. І гэтага нам было досыць для поўнага шчасця. Аднаго толькі не ведала (дый не магла ведаць) мая абранніца: у неабсяжных прасторах Міжземнага мора шхуна немінуча сустрэнецца з пірацкім брыгам. Але гэта адбудзецца крыху пазней, калі ложак мой апусцее, а на вуснах застанецца толькі слабы прысмак ейных вуснаў.

Што ты кажаш, каханая?

Я нягоднік?

Ведаю. А што зробіш...

# Кирилл Дубовский

## БАБУШКА

Моя бабушка поверила в Бога, после чего перестала заниматься колдовством и улетать по ночам. Вместо этого она усердно читала Библию и молилась.

Бывшие подруги, седые и морщинистые ведьмы, сильно гневались:

– Одумайся, Ядвига! – трясли они крючковатыми пальцами.

– Покайтесь пока не поздно, – отвечала им бабушка.

Старухи злобно шипели, брызгая слюной, и уходили ни с чем.

Вечерами бабушка рассказывала мне о Боге.

– Иисус любит нас. Он исцелил мою ногу, милый. Это чудо.

Я гладил черного кота и молча слушал. Мне нравилось, что бабушка не бранилась как прежде и не грозила посадить меня в печь на большой лопате.

Наша небольшая избушка на курьих ножках сильно преобразилась. Пыльные склянки с волшебными зельями на полках сменили труды Лютера и Сперджена. С потолка исчезла вековая паутина, а окна освободились от плесени. В избушку вернулся свет.

Каждое воскресение к нам приходили гости. Они рассаживались на полу, и бабушка объявляла начало богослужения. Морские сирены пели гимны хвалы, сутулый Леший проповедовал слово Божье. Всем было радостно.

После собрания мы пили чай. Соловей-разбойник, развалившись на ковре, насвистывал «Shout to the Lord». Гномы шумно спорили из-за сложных мест в Писании. Так продолжалось до вечера, и никому не хотелось расходиться.

Со временем, бабушкин приход увеличивался. Водяной крестил новообращенных в реке, и они становились членами нашей церкви «Сказочная Благодать». Последними крестились привидения, их долго не могли найти, пока и они, наконец, не услышали спасительное евангелие.

Просто, настало время, и нечисть очистилась.

# ХОРОШИЙ РОМАН

Говорят, что каждому человеку под силу написать один хороший роман – о своей жизни. Сережа верил, что один хороший роман можно разделить на много хороших рассказов, и что так даже будет лучше.

Писать он начал еще в школе. Этому немало поспособствовала классная стенгазета, в которой могли напечатать каждого желающего. Однако конкуренция среди школьников была столь сумасшедшая, что попасть со своим стишком или рассказиком на широкую страницу стенгазеты считалось большой удачей.

Первый написанный им рассказ назывался «Долги». В нем он едкой сатирой раскритиковал своего одноклассника Петьку, занявшего полгода назад у Сережи рубль и не вернув его до сих пор. Когда он принес рассказ учительнице литературы и по совместительству главному редактору стенгазеты, та прочла его на месте и вынесла суровый вердикт: не подойдет.

– Сереженька, – сказала она, – это хорошо, что ты тоже взялся за перо, но тема твоего рассказа слишком мелочна, она не будет интересна людям. Ты бы поучился, к примеру, у Машеньки. Почитай ее последний стишок о том, как хорошо нам всем учиться в школе. Вот как надо писать!

Слишком мелочна! Как же так? Может для учительницы рубль – это пустяк, но для Сережи это было целое состояние, и он долго переживал по этому поводу. А тут вдруг выяснилось, что разоривший его Петька не сделал ничего особенного, что этот гнусный поступок, глубоко ранивший Сережу, даже не заслуживает того, чтобы о нем писали. О чем же тогда писать?

О любви. Теперь он должен написать о любви, Сережа это ясно понимал. Ох и смешон же он был тогда давно, когда принес учительнице этот глупый рассказик про рубль. Но теперь он повзрослел, изменился. Его волнуют другие темы. Пришло время написать о любви между мужчиной и женщиной.

– Сереженька! Это хорошо, что ты переключился на взрослые темы. Все-таки теперь ты одиннадцатиклассник. Но в переживаниях твоего героя нет ничего нового. Это бывало со всеми, и уже

давно описано в литературе, причем не только классиками, но и твоей одноклассницей Машенькой, которая написала на эту тему просто замечательный стишок. Очень рекомендую ознакомиться!

Опять промашка. Что такое? Каждый вечер он засыпал с мыслями о Ней и эти мысли преследовали его весь день. Он вложил их в свой рассказ, написал искренне, как только мог, а это оказалось не ново. Не ново и неинтересно. Но что тогда ново?

Эротическая проза. Добротная красивая эротическая проза. Благо теперь опыт имелся, пусть и небольшой. В феврале, на встрече одноклассников, Сережа не без удовольствия поимел в ванной раскрасневшуюся от вина, улыбающуюся Машеньку. Когда они потом сидели на кухне и курили, Сережа гадал, найдется ли место их случайной связи в очередном Машенькином стишке. В его рассказе найдется точно.

«Сергей, вынуждены сообщить Вам, что присланный Вами рассказ «Любовь в ванной комнате» по многим причинам нам не подходит, несмотря на то, что наш журнал специализируется на эротической прозе. Чувствуется, что жизненный опыт автора очень мал, а в описанном акте любви нет ничего яркого и оригинального, что могло бы заинтересовать читателя. Пробуйте еще! С уважением, главный редактор».

Неоригинально и не ново. Сколько можно? Впрочем Сережа не оставил попыток пристроить свою эротическую прозу в Интернет-изданиях, порой даже очень сомнительных. С одного из таких сайтов ему однажды пришел ответ одной строчкой: «Тема сисек раскрыта недостаточно», после чего Сережа стал гораздо более избирательно относиться к местам возможных публикаций.

Но его не печатали. Он писал о себе, о том, что видел вокруг, но отказы сыпались один за другим. Никто не хотел брать даже слезливый рассказ о соседской девочке, заболевшей раком и чудом излечившейся. Сережа предполагал, что если бы девочка в конце-концов умерла, его рассказ имел бы больше шансов на успех, но врать ему не хотелось. Он писал о действительности.

«Каждому человеку под силу написать один хороший роман – о своей жизни». Ага, как же. Кому она нужна твоя жизнь, если ты обычный парень? Твою жизнь описали еще классики в девятнад-

цатом веке, и то уже только ту часть, которая осталась им после Пушкина в восемнадцатом. И что теперь делать?

Покончить с собой. Но не просто покончить. Он жил просто, а умрет красиво. Повешение, отравление, рваные вены – это все для тех, кто не умеет ничего придумать. А он творческая личность, описывал жизнь на стыке веков. Ну что ж, видимо, не пришло еще его время. Но уже скоро. Чтобы такого выбрать? Муравейник. Он разденется и ляжет в муравейник. Отличная смерть, достойная настоящего художника. Так он и поступит. Прощайте.

*«Тело двадцатичетырехлетнего Сергея Иванова обнаружили в пригородном лесу посреди огромного муравейника. Судя по оставленной им записке, таким непростым способом этот молодой человек покончил с собой. Напомним, что это уже пятый случай самоубийства при помощи муравейников за последние два месяца».*

# УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ ПРО МОБИЛЬНЫЕ ТЕЛЕФОНЫ

## История первая

Петя никогда не давал пользоваться своим сотовым телефоном незнакомым людям. Не потому, что ему было жалко, а потому что опасался. Улепетывающий быстрее ветра с мобильником в руках незнакомец не такая уж редкость в наших краях.

Однажды, как это рано или поздно случается, Петя и сам попал в ситуацию, когда требовалось срочно позвонить, а на счету закончились деньги. Просить телефон ужасно не хотелось, но другого выхода не было. На трамвайной остановке он заприметил миловидную девушку в красных босоножках. Петя подошел к ней и самым вежливым тоном попросил на минутку мобильный телефон. И хотя никуда убегать он не собирался, все равно чувствовал себя виноватым, отчего просьба его казалась лишь надуманным предлогом циничного вора. Однако девушка вместо того, чтобы вежливо отказать, с улыбкой посмотрела на Петю и достала из сумочки мобильник.

– Возьмите, пожалуйста, – протянула она телефон.

Петя выудил из кармана записную книжку. Набрав нужный номер, он поднял глаза и не поверил им – девушка в красных босоножках резво запрыгивала в съезжающиеся двери трамвая. «Господи, у меня же ее телефон! – подумал Петя, – что она делает?» Как только трамвай тронулся, девушка обернулась и, задорно улыбаясь, показала Пете язык. Она знала, что делает.

## История вторая

Дима, за любовь к Black Sabbath получивший прозвище Параноид, смотрел на трамвай. Забитый под завязку раскаленными потными телами трамвай вызывал у Димы отвращение, и, кроме того, Параноид боялся за свой новенький мобильник. Слишком

много историй он слышал о невнимательных гражданах, которые становились жертвами циничных транспортных воров, вытягивающих телефоны даже из самых труднодоступных мест. Дима не сомневался, что в этом трамвае едут воры, и даже, может быть, по дюжине на один поручень.

Втиснувшись в трамвай, Дима оказался прижатым спиной к дверям. Но даже в таком положении он умудрялся вертеть головой по сторонам, пытаясь вычислить вора, нацелившегося на его новенький мобильник. Кандидатов оказалось предостаточно. Это могла быть и девушка, показывавшая язык кому-то на остановке, и женщина в черной шляпке, или даже стоящая рядом крошечная девочка в коротеньком ромашковом платьице. Возможно, она уже готовилась запустить свои проворные ручонки в Димин карман. Параноид покрылся холодной испариной.

Он ехал, вглядываясь в окружающие лица. Народу было столько, что прижатые по швам руки не могли даже шевельнуться. Вдруг Дима почувствовал, что в его кармане кто-то есть. Ему стало дурно. Панический ужас сменился ощущением беспомощности, по телу расползлись колючие мурашки. Крадут, хотел закричать Дима, но вместо этого только крепко стиснул зубы.

Наконец толпа вынесла Диму из трамвая. Первым делом он похлопал себя по карману. Телефон был на месте. Параноид потянулся за ним, чтобы убедиться наверняка. Но его ожидал сюрприз. Вместо просто новенького мобильника, в кармане почему-то оказался телефон самой последней модели, гораздо лучше прежнего. Дима тупо полазил по записной книжке и понял, что в телефоне стоит его родная сим-карта. Обманули все-таки, подумал Дима, но с тех пор воров уже не боялся.

## История третья

В нашей стране праздники всегда одинаковы. Толпы на улицах, опьяненные радостью лица и отблески ночного салюта, бьющего отбой. Счастливые люди расходятся по домам и забываются безмятежным сном. Празднику конец.

С первыми лучами солнца на улицах пустого города появляются собиратели. Внимательные и сосредоточенные, собиратели бродят по площадям и скверам, устремив взгляды к земле. Так они надеются обнаружить мобильные телефоны, потерянные накануне счастливыми людьми. Нередко им это удается. Телефоны, попавшие в руки собирателей, как правило, никогда больше не возвращаются к владельцам.

Был среди собирателей один парень Митя. За остроту зрения он заслужил себе прозвище Сокол. Сокол никогда не присваивал чужие мобильники. К неудовольствию прочих собирателей, он искал их только для того, чтобы вернуть хозяевам. Ему доставляло удовольствие подобрать утерянный мобильник, пошарить по записной книжке и отыскать владельца. А сколько благодарности было порой. Митя сумел подружиться с доброй половиной города. Говорят, он даже клал собственные деньги на счет каждого третьего найденного телефона. Побольше бы таких людей!

## История четвертая

Двойное пиканье смски застало меня в душе. Я вытер руки полотенцем и потянулся за телефоном.

Это была Оля.

Я не верил своим глазам. Любой человек мог прислать мне смс, но только не Оля, которая мне нравилась. Девушки, которые мне нравятся, никогда не пишут первыми. Они вообще редко пишут.

«V 19 00 vozle monitora na Ma6erova. Ja budu zhdat`...»

Я вспомнил, что когда-то на проспекте Машерова видел большой рекламный стенд в виде монитора. Наверное, того самого, который упомянула Оля.

Когда я к нему прибежал, она уже ждала меня.

...Это был наш самый замечательный вечер. Мы гуляли вдоль Свислочи и любовались закатом. Пили пиво на парапетах и смеялись. Потом мы долго целовали друг друга.

– Как здорово, – сказала Оля. – Теперь мы вместе?

– Конечно, теперь мы вместе.

– Эта река, этот проспект, – продолжила Оля, – здесь я чувствую, будто мы с тобой все можем, будто мы победители... Тебе так не кажется?

– Мне казалось так всегда.

– Как все-таки хорошо, что ты мне написал и предложил встретиться... Я бы никогда не смогла сделать это первой.

– Подожди, Оля, ведь это же ты первая написала мне!

– Нет, я пришла, потому что получила от тебя смс. Хочешь, покажу. – Оля полезла в сумочку. – Не могу найти телефон, – сообщила она, покопавшись внутри.

Моей мобилки тоже не оказалось на месте в кармане. Я сказал об этом Оле.

– Но где же наши телефоны? – спросила она.

– Не ищите их, они улетели на небо, – сказала проходящая мимо женщина в черной шляпке.

Но мы ей не поверили.

# Наста Манцэвіч

* * *

Вілейка. Дубаўка. Раніца.
Ён сказаў у нудзе:
«сэ ля ві» –
і мы селі ля Віліі.
Запалілі.
Каменьчыкі ў рэчку к*і*далі,
глядзелі, як распаўзаюцца
кругі ад іх па вадзе...

* * *

Непазбежна вясны наступства:
што ні дзеўчына, то распуста,
зь Менску, з Горкі, з-пад самай Ніцы
што ні дзеўчына, то ў спадніцы.
Захіснула вясна мне вочы –
агаляюць паненкі грудзі,
і з цырульні павольна крочыць
ці то дзеўчына, ці то пудзель.

* * *

Калі у вачох цямнее,
мне хочацца проста ўкленчыць:
«О Божа, хачу да мамы!
да таты хачу на плечы...»
Каб апынуцца ў дзяцінстве,
як колісь –
хавацца ў шафе
сярод кажухоў і шапак,
цукеркі цягаць з буфету
ды красьці ў суседа сьлівы...

...і быць маленькім і лёгкім,
і, ёб вашу маць,
шчасьлівым.

# ЧАМУ Я БОЛЕЙ НЯ П'Ю

Раней, калі я была яшчэ школьніцай і спрабавала пісаць прыгодніцкія апавяданьні, то заўсёды думала, што пачынаць трэба з самага пачатку. Таму, усе мае творы пачыналіся так: ён прачнуўся і... Далей ужо бывала па-рознаму. Але абавязкова – ён прачнуўся. Цяпер я вось ужо колькі год ня школьніца, але гэтай звычкі ўсё пачынаць з самага пачатку не пазбавілася:

Мне незвычайна пашанцавала – у мяне было афігенна шчасьлівае дзяцінства. Усё як мусіць быць: дыяфільмы, якія паказваў нам зь сястрою па вечарах тата, паходы з бацькамі ў лес, а там – вогнішча, шашлыкі, гульні ў хованкі... Тата выразаў нам з галінак лукі, мы бегалі зь імі... і я думала, што чым я ня Робін Гуд. Ці казкі пра «лыжку-чараўнічку», якія дзед прыдумляў сам. Ён расказваў нам іх перад тым як заснуць. Было цікава і ў той жа час так страшна-страшна. У дзядулі былі нейкія праблемы з носам – ён увесь час сморкаўся і ў гэтыя моманты нібыта сам рабіўся казачным героем: чараўніком ці нават вядзьмаком, такім небясьпечным... і я нават ня ведаю, як гэта цяпер растлумачыць... Ад усяго гэтага рабілася страшна, але ў той жа час было неяк так прыемна – ляжаць і засынаць пад цёплай коўдрай і ведаць, што ў школу яшчэ ня хутка. Ці паездкі разам зь дзедам у Менск, у такі вялікі горад, якога я ніколі ў жыцьці яшчэ ня бачыла, і дзедавы абяцаньні паказаць нам «лесьніцу-чудзесьніцу», на якую становісься, і яна сама вязе цябе ўверх. І ты ўжо нічога вакол сябе не заўважаеш, толькі цягнеш дзеда за руку да кожнай лесьвіцы і кажаш: дзеееда, гэта яна? І шмат чаго яшчэ.

А потым было ня менней афігеннае юнацтва. Хадзілі з аднакласьнікамі на рэчку, купаліся, пасьля нехта ня ведаю адкуль даставаў бутэльку гарэлкі, і мы расьпівалі яе на васьмярых, і было так добра-добра, так шчасьліва і п'яна... Першыя абдымкі-пацалункі, а потым ужо зусім дарослае жыцьцё і пераезд у той самы вялікі горад, дзе ёсьць такія лесьвіцы, на якія становісься, і яны самі вязуць цябе ўверх. Былі й лесьвіцы ў студэнцкім інтэрнаце, дзе мы сядзелі з бутэлькай піва, палілі, расказвалі розныя цікавыя выпадкі з жыцьця, сьпявалі песьні пад гітару і зноў-такі былі п'я-

ымі і шчасьлівымі. Потым пачаліся тэматычныя дыскатэкі, на адной зь якіх я сустрэла сваё першае каханьне... мы куплялі марціні, потым яшчэ і яшчэ, і доўга, не саромеючыся, цалаваліся... Замочвалі з аднакурсьнікамі здачу сэсіі, пілі гарэлку, куцілі і танчылі. Былі часы, і гарэлка была не гарэлкай, мы пілі яе не п'янеючы, мы пілі ня дзеля таго, каб адчуць сябе больш шчасьлівымі, ці больш сьмелымі, ці гэтак далей. Мы і так імі былі.

Час ад часу я езьдзіла ў родны горад да бацькоў. Вось, у адзін з такіх прыездаў пачала перабіраць свае старыя рэчы, сярод якіх знайшла дыяфільмы... І тут на мяне нахлынулі ўсе тыя ўспаміны з майго дзяцінства... І Робін Гуд, і лук са стрэламі, і дзедавы казкі... Я хутчэй, баючыся, што гэтыя адчуваньні могуць зьнікнуць, пабегла да сястры: а давай, як раней, паглядзім дыяфільмы! Мы пачалі круціць калёсіка праектару, але чамусьці тыя казачныя героі з маленства ніяк не хацелі ажываць, яны ўпарта маўчалі. А ўнізе, пад імі, было напісана: заяц пабег да... Але ён болей нікуды ня бег. І хоць ты да ванітаў глядзі гэтыя дыяфільмі, адзін за адным, пра дзяўчынку Алю, пра мышонка – забыла яго імя – пра зайцоў-здраднікаў, якія цяпер адмаўляюцца бегаць... хоць ты трэсьні, хоць ты што хочаш цяпер рабі – лупі сябе па шчаках і крычы Грышкаўцовае «чувствуй, падла!» – больш ніколі, НІКОЛІ ня станеш той маленькай дзяўчынкай, якая начамі баялася свайго роднага дзеда, бо думала, што ён казачны герой, вядзьмак... Ёсьць рэчы, зь якімі мы зьвязваем пэўныя пэрыяды свайго жыцьця: дзяцінства – з хованкамі, казкамі і дыяфільмамі, юнацтва – зь півам і песьнямі пад гітару, дарослае жыцьцё яшчэ з чымсьці, я пакуль ня ведаю з чым... Але рэч у тым, што НЯ ГЭТЫЯ РЭЧЫ рабілі нас шчасьлівымі. Яны проста былі побач з намі, і калі б не яны, было б штосьці іншае. Мы самі па сабе былі шчасьлівымі, бо шчасьце не ў дыяфільмах, яно ў самім чалавеку, унутры яго... А я ўсё роўна не хацела гэтага разумець, ды зноў і зноў купляла піва, і мне здавалася, што вось-вось... яшчэ трошкі... і я купляла яшчэ... А потым яшчэ... але гэтае трошкі ніколі не надыходзіла... а я не здавалася і піла, пакуль аднойчы: бабах! і вельмі ясна адчула – усё. Цягнік пайшоў. Гарэлка – гэта той жа самы заяц-здраднік, які больш ніколі не пабяжыць.

Былі часы, і гарэлка была не гарэлкай, мы пілі яе не п’янеючы, мы пілі ня дзеля таго, каб адчуць сябе больш шчасьлівымі, ці больш сьмелымі, ці гэтак далей. Мы і так імі былі. Цяпер мы – іншыя. Таму я ня п’ю больш гарэлкі, ды й увогуле больш ня п’ю, бо цяпер гэта стала небясьпечным. Трэба раз і назаўсёды ўцяміць, што не гарэлка рабіла нас шчасьлівымі, таму нават калі мы й будзем працягваць яе піць, усё роўна ніколі ня станем такімі ж, якімі былі тады.

І вось я зноўку нанова вучуся радавацца жыцьцю, сама па сабе, без дапамогі іншых рэчаў, шукаю гэтае шчасьце, выцягваю яго пацíху наверх. І, ведаеце што... Усё будзе добра!

# Ася

Яе звалі Ася. Па-праўдзе, імя ейнае было Насьця, але маці кінула дзяўчынку, калі той яшчэ й годзіка не было.

– Ася... мая Асенька..., – люляла бабуля дзіця. Яна адразу забракавала чужое «Насьця».

Бабуля любіла Асю. Яна была адзіным чалавекам, хто любіў гэтую непрыгожую дзяўчынку.

Цяжка растлумачыць тое, як выглядала Ася. Магчыма, людзі яшчэ не прыдумалі трапных словаў. Незразумела, ці то дзяўчына, ці то хлапец... нешта такое сярэдняе, брыдкае.

А потым яна сустрэлася зь ім.

* * *

– Ведаеш, Ася... Давай трымацца за рукі.

– Навошта?

– Так робяць усе закаханыя.

– Добра.

Яна працягнула яму руку.

* * *

Ён: Мы можам пайсьці пагуляць. Сёньня добрае надвор’е.

Ася: Што? Няўжо пачало распускацца лісьце? Ня можа быць, цяпер жа зіма.

– Што?

– Я кажу, яшчэ не пачало распускацца лісьце. Як можа быць добрае надвор’е?

– Дурнічка... Надвор’е – гэта калі дождж, ці сонца, ці сьнег. Вось дзе надвор’е, а ня лісьце.

– Праўда? А я заўсёды думала, што... Я так многа дазнаюся з табой новага. Так дзіўна.

– Гэта ты дзіўная.

– Ты таксама. Мы такія з табой нешчасьлівыя. Чаму так?

– Чаму ты так думаеш?

– Адчуваю, а ты?

– Я шчасьлівы.

* * *

Ася стаяла адна каля дому і ціха ўсхліпвала:

– Дурань... Навошта ты мне, такі? Кажаш, што шчасьлівы. Ці ж гэта шчасьце?

Яе ўсхліпваньні рабіліся ўсё грамчэйшымі.

Паблізу хістаючыся прайшоў п’яны дзядзька:

– Гэй! Чаго равеш? Ты мужык ці не? Га? Ды, каб гэта я... – прабурчаў п’янчуга, – фу... брыдота... ты мужык, урэшце, ці не?!

– Я не мужык, – ціха сказала Ася і пакрочыла ў бок пад’езду.

* * *

– Знаеш, Ася... Я вось тут падумаў, калі мы хлапец і дзяўчына, то нам недастаткова проста трымацца за рукі...

– Ты што хочаш сказаць?

– Ну ты калі-небудзь глядзела фільмы?

– Так.

– Я думаю, нам таксама трэба гэта зрабіць.

– Навошта?

– Так робяць людзі, калі яны кахаюць адно аднаго.

– А мы кахаем?

– Ты ня бойся. Табе ня будзе балюча.

– Будзе.

– Адкуль ты ведаеш?

– Ведаю. Я бачыла, яны крычаць, калі гэта робяць.

– Дурнічка... гэта ж ім так хораша, проста.

– Да ты!.. Сам дурань! Ты думаеш, я ня ведаю, як гэта бывае хораша?! Ты думаеш, я не... Я знаю, знаю! Людзі, не крычаць, калі ім хораша, яны сьмяюцца! Ты думаеш, я ня знаю? Я каталася на карусэлях, калі была маленькая, мяне бабуля вадзіла. Я сьмяялася! Вельмі моцна сьмяялася!

– Ася... Я веру.

– Добра.

– Ты згодная.

– Так.

* * *

Вясёлы шчасьлівы сьмех данасіўся з акна на трэцім паверсе.

# Сяржук Мядзьведзеў

*

Слова
якое было напачатку...
насамрэч
яго не было
насамрэч
была толькі пячатка
і слова
якое было на пячатцы
было

*

сьпявай
сваю песьню
журботную
як парасон
чапляй
лязом
за нерат нэўронаў
рэж
душу на кавалкі
як пазл
і зьбірай
пасьля
у вольны
ад часу час

*

шаруй
сябе як лямпу
націрай да бляску
да таго моманту
пакуль зь цябе
ня высьлізьне
джын

*

завядзі мяне
на палову шостай раніцы
калі хочаш, вядома, а не –
лепш адразу пашлі ў задніцу
толькі ня бі
сваёй мяккай пяшчотнай рукой
лепш тады завядзі
на другую ці на палову другой
і так ласкава
пяшчотнай рукой закрыеш мне рот
а на стале ўжо кава
стыне
й ты не
падумаеш:
«чё трезвонишь, урод?»

*

ня зловіш
зло вішнёвымі
косткамі
халакосткамі
новымі
выміраюць
людзі добрыя
ці то брыльянты
робяцца мутнымі
чаму ты ні
кроплі не зьмяняесься
як зьмяя ясі сябе
з хваста
лічыш да ста
дастаеш нож
на худзенькіх ножках
дзень якіх можна
было не лічыць
у палоне
ўцякае за межы вока
за нежывое бярэ
кідае ў рэкі
тае мы прачнемся
ў кітаі

*

ты крочыш пешкі па горадзе
й знаходзіш усьмешкі ў лужах
на ходніку
іх змыў дождж з твараў тваіх сяброў
вясёлага ражджаства не баісься роўна
і гладка
ўваходзіць ігла так
пяшчотна і небясьпечна
шо там у нас? печыва
да гарбаты сёньня
а ты ўсё ня
хочаш спаць
і крочыш па
горадзе пешкі
усьмешкі знаходзіш
на тварах
зьбіраеш у тару
каб пра запас
проза стыне ў руках
ты не муракамі
і рукі мыеш у лужах
вымаеш іглу жах
зьнікае страчвае
актуальнасьць
твае рытуалы на сьценах
пахмурыя вочы і зубы
паміж дзецьмі і мужам
не глыбейшыя
не чысьцейшыя
за ваду ў лужах

*

і няхай
ты прысьніш
распранутае неба
безь небасхілу майткоў
і бязь месяца станіка
толькі зоркі
мурашкамі клапатлівымі
будуць бегаць па тваім целе
і можа аднойчы
ты народзіш
гэты сьвет і мяне
на раніцу
і за кубкам гарбаты
рапавядзеш
як там цёпла калі
узыходзіць сонца
пад майткамі
у неба

*

калі чуеш: «халоднае зорнае неба»
ня вер
бо кожная зорка – гэта таксама
чыёсьці сонца
нават калі іх мільярды
на адлегласьці ў тысячы
год сьветлавых – няхай
павярні сваё сэрца другім бокам
сагрэй пачакай
пакуль я павярну сваё
мы будзем любіць і кахаць
на адлегласьці ў тысячы год
няхай
бо кожная зорка – гэта таксама
чыёсьці

*

ня думаць... немагчыма
і мы бухаем, палім, кахаем, верыш?
сядзім і маўчым, а
нехта недзе за нас піша вершы...

# Андрэй Пакроўскі

## яйкі

Музыкі, тыповыя прадстаўнікі нардычнай бэстыарыі, жылі ў раялі, які стаяў вунь у тых кустах, вунь за тым дрэвам. Куст жыў у лесе. Яго пасадзіў паляўнічы Іваноў (былы артыст варшаўскага цырку) спэцыяльна для свайго сабакі, якога звалі Ашурбанапал. Лес знаходзіўся ў дзяўчынцы Алесі, навучэнцы чацьвертай гарадзенскай школы для дзяцей з заповоленым разьвіцьцём псыхічнай дзейнасьці. У дзяцінстве Алесю часьцяком білі па галаве лічбай чатыры за тое, што яна падглядала, як ейныя бацькі займаюцца сэксам у пазыцыі нумар чатыры, апісаньне якой падрабязна месьцілася на чацьвертай старонцы адной з чатырох кніжак, якія Алесіны бацькі мелі ў хаце. Астатнія тры ляжалі ў прыбіральні. Іх амаль не чыталі. Ды й чацьвертую таксама ня надта чыталі, толькі першыя чатыры старонкі. Алеся жыла ў лядоўні, а ейны брат Алесь у радыё. Ён сьпяваў песні й граў на раялі. У радыё Алесь пазнаёміўся з музыкамі, што жылі ў раялі, які стаяў вунь у тых кустах, вунь за тым дрэвам. Калі паляўнічы Іваноў разам са сваім сабакам Ашурбанапалам прыходзіў у лес папаляваць на музыкаў, карыстаючыся мэханізмамі нутраной альхіміі, Алесь уцякаў да Алесі ў лядоўню.

У лядоўні дзеці пазнаёміліся з сасіскамі, але бацькі аднойчы іх зьелі й пакінулі замест іх суп. З супам зносіны ня склаліся, таму Алеся наліла яго ў кішэню і зьела ў школе на перапынку пасьля матэматыкі. Яна не заўважыла, што ў рондаль запоўз ейны брат Алесь, якому з прычыны згаданых вышэй абставінаў давялося застацца ў лесе, што знаходзіўся ў Алесі, назаўжды. Тады Алеся пераехала зь лядоўні ў радыё, дзе выйшла замуж за паляўнічага Іванова, які са сваім сабакам Ашурбанапалам паляваў на Алеся і ягоных сяброў музыкаў. Алесь працягваў уцякаць у лядоўню, але сястры там не было. І супу. І сасісак. І рондалю. Адны яйкі.

* * *

Каханая, як я люблю ваш шосты палец на чацьвертай зьлева назе, ваша адвечна сумнае восьмае вока пад трэцім ілжэпупам, у якім адбіваецца жоўтае неба, поўнае паветранных шароў. Каханая, вы такая алюмініевая, я проста губляю прытомнасьць ад вашай гэтакай звышнармаванай колерамэталёвасьці, ад вашай неверагоднай амбівалентнасьці. Каханая, калі вы ўключаеце вашыя антэніны, што адпраўляюць сяброўскія прывітаньні тральфамадорцам, вашая пірамідальная звышманумэнтальнасьць бачна за шмат парсэкаў. Каханая, я так люблю пагрэцца, абдымаючы крэпка сваімі даўгімі ілжэножкамі вашую вялічэзную сапраўднанажышчу. Ведаеце, я нат губляю прытомнасьць, а калі знаходжу, то бачу зьдзіўленых мінакоў, што інфрачырванеюць, гледзячы на нас, і адводзяць вочы ды йдуць далей на свае грамадзкакарысныя працы. Калі ў вас, каханая, добры настрой, вы казычаце мяне сваімі сталёвымі вейкамі. Я зноў губляю прытомнасьць, а калі, пасьля доўгіх пошукаў, усё ж такі яе знаходжу, бачу мінакоў, што вяртаюцца са сваіх грамадзкакарысных працаў, ультрафіялетучы і гледзячы на нас.

А потым мы надзьмуваемся й ляцім па-над горадам, віруючы паміж бязьлямпачкавых ліхтароў і хмарачосаў з забітымі вокнамі, чапляючы хвастамі плянэты й зоры сузор’я Рыбаў. Рыбіны. Сумныя рыбіны плешчуцца ў рэчках зялёнай гарбаты й цынамонавых азёрах між зялёных сьцяблінаў. Краіна з цынамонавымі вачыма. Гэта немагчыма.

## птушыны грып

Бамжы злавілі качку на Сьвіслачы, зьелі й памерлі ад птушынага грыпу. Галодныя студэнты настралялі галубоў, паелі й памерлі ад птушынага грыпу. Піська-злодзей згвалціў дзяўчыну з пэдагагічнага ўнівэрсытэту ў тралейбусе нумар 34, тройчы ўдарыў яе нажом. Дзяўчына ў пакутах памерла ад птушынага грыпу. Я зьеў шаўрму на Чэрвінскім рынку, ванітаваў птушыным грыпам на мінакоў, што елі чабурэкі з птушыным грыпам. Сумны, самотны экскаватар патануў у Сьвіслачы. Экскаватарыст ня здолеў даплыць да берагу, бо ў Сьвіслачы не было вады. Яму давялося ісьці пешшу. Калі ён выйшаў з вады, яго зьелі бамжы, бо пераблыталі кіроўцу экскаватара з качкай. Тыя ня ведалі, што ён экскаватарыст, а ня качка, таму памерлі ад птушынага грыпу ў другі раз. Браты Грып, пляскаючы вейкамі, лётаючы па-над спартовым палацам, перадавалі птушыны грып менчукам фэкальна-аральным шляхам.

Толькі сяляне, якія зарэзалі сьвінчо ў гонар Дажынак, памерлі ад сьвінкі. Мне нават шкада іх. Трошкі.

## швэдрагальштукоўцы

Таварыства жоўтага швэдрыка-гальштука, створанае ў першай чвэрці XXI стагодзьдзя, зьяўляецца таемнай арганізацыяй, якая выйшла з асяродзьдзя акультных маргіналаў. Галоўнай мэтай вышэйадзначанага таварыства зьяўляецца рэінкарнацыя братоў Чарапанавых, якія не пасьпелі скончыць сваё звышгеніяльнае прыстасаваньне для падарожжаў па трапэцыідальным сусьвеце, унутраны вэласіпэд часу. Сыбмалем швэдрыкагальтушоўцаў зьяўляецца галяграфічная выява сясьцёр Мангальф’е, што зьдзейсьнілі з дапамогай барбітурату на безпаветраным шары першую вандроўку праз выпадкова адчыненыя парталы, знойдзеныя ўкраінскімі спэліёлягамі ў сутарэньнях лецішча Янкі Купалы. Сабака Урабарбос, што цягае сябе за доўгі хвост і адначасова абараняе купалаўскую сядзібу, на адваротным шляху зацягнула адважных сясьцёр у сваю вантробу, дзе Мангальф’е сустрэліся зь Янкам Купалам, які скочыў сьледам, пратэстуючы супраць бамбардаваньня Дрэздана й экспарту доўгаграючых сьвечак у краіны Трэцяга Сьвету (калі лічыць справа налева).

Пра лёс швэдрыкагальштукоўцаў лепш за ўсё разважаць нацягнуўшы левы бот на правую нагу, а правы, як ты ўжо здагадаўся, дарагі чытач, на левую. Гэта робіцца зусім не з прычыны звар’яцелай фантазія аўтара, а толькі дзеля цябе. Калі ты, дарагі чытач, мой маленькі крумкач, чытаеш гэтыя радкі, то вельмі раю табе ўсё ж такі ўсунуць левую нагу ў правы бот. Канечне, ты гэтага не зрабіў... Таму Я, сабраўшы ў кішэню заўсенцы, саджуся на свой катамаран з пазногцяў, запальваю файку й накіроўваюся ў заалягічны сад, дзе мяне чакаюць мае звар’яцелыя й хворыя сябры-таварышы (швэдрыкагальштукоўцы).

## цыбуліна

Цыбаты Цыбуліна вырошчваў на гаўбцы цыбулю, паліў цыгарэты. Пакідаў цыдулкі розным сваім цыбулінам, забэрсваў матузкі цыбулятам, езьдзіў на груваcткім ровары па бручку ў суседні калгас. Бryndaўся па ваколіцах у пошуках булдавешак, каб дапоўніць калекцыю свайго бацькі. Нягегла сьпяваў і танчыў на імпрэзах у мясцовых клюбах, куды яго ніхто й ніколі не запрашаў. Акрэсьліваў і перакрэсьліваў свой будучы лёс. Зьбіраў лямпачкі, апранаў іх у шкарпэткі, панчохі й калготы, каб зацыраваць усе дзірачкі. Ня піў кавы, кпіў з памідораў, зайздросьціў памаранчам. Пісаў мэмуары пра свае прыгоды, пра рэвалюцыю ў Італіі і ўсё такое. Маляваў шэдэўры гуталінам, хаваў іх пад ложак. А потым ціхачом памёр. Нечакана для ўсіх. Вось такая гісторыя. Вось такія справы. Вось такія зьлевы.

# Віялета Пачкоўская

* * *

прысьвячаю Смоку, што больш не жыве ў мяне пад ложкам
пасыплю голаў сьнегам
апошнім сьнегам, сабраным па горадзе
вось і вясна
а я не хачу, ня маю права на яе
толькі перасоўвацца моўчкі па вуліцах
зьмяняць хранатоп сваіх думак
у межах мінулага тыдня
ты забудзесься? не
ты дакладна не забудзесься
ты проста станеш
расчыненым акном
сумнай усьмешкай у мэтро
пупышкай на каштане
што дачакаецца вясны
на якую я згубіла права
на якую мы згубілі ўсялякае права

* * *

архітэктура тваіх касьцей
нашмат складаней
за шкілет тваёй чарапахі
але, напэўна, прасьцей
за формулу паху
дажджлівай восеньскай ночы
дзіўныя нейкія сны
спрасоньня працягваю руку
і спрабую намацаць
тваю рабрыну
але ты ня побач
да цябе 5 прыпынкаў
на падземным каўчэгу
і 5 навучальных дзён
ва ўнівэрсытэце
да цябе не было людзей
у цябе няма рабрыны
але ёсьць выйсьце
на правы бок
зь яго крыштальным паветрам
гарбатай
пацеркамі
і саплівым носам
наўзамен

* * *

ліхтары ля «Крышталя»
запрашаюць у госьці ўсіх ахвочых
бадай дабрацца да іх вельмі зручна
і адсьвяткаваць сустрэчу
можна лёгка
але ніхто не ідзе
і яны асьвятляюць абледзянелы асфальт
замест закаханых параў
грэюць каналізацыйныя люкі
замест стомленых рабочых
аддаюць усю сваю любоў бамжам
а ім так хочацца мець сяброў
а ім так хочацца назіраць
за пацалункамі маладых
за гульнёй фараў
і гарэзьлівых школьнікаў
не пакідайце ж ліхтароў у адзіноце
яны таксама хочаць быць
каму-небудзь патрэбнымі

## АРЭХАПАДЗЕНЬНЕ

калісьці, у дзяцінстве
я бяз боязі ўзлазіла
на высокія дрэвы
рвала суседзкія яблыкі
вымярала ўвесну ўсе лужыны
прыносіла дадому вожыкаў
і паіла іх малаком
а цяпер
усе завуць мяне поўным іменем
а некаторыя нават выкаюць
цяпер я стала зусім вялікая
і ўсяго баюся:
замачыць ногі
наламаць дроў
параніць і параніцца
асабліва асьцерагаюся яблыняў
табе гарбату з малаком?

## ВІЁЛА

спадар, зайграйце на віёле
дастаньце скрыпку з футарала
яна бяз вас засумавала
і вабіць вашых рук няволя
спадар, зайграйце на віёле
выправу, бранль у стылі рэгі
вы самі гэтага хацелі
струна і смык ўжо больш за ролі
спадар, зайграйце на віёле
і не заплюшчвайце вачэй
цалуе вас віялянчэль
каленьмі сьціснуўшы да болю
спадар, зайграйце на віёле
спадар, зайграйце на віёле

* * *

рака адчаю
воды зялёнай гарбаты
я ўключаю
пэйзажы з дымком цыгарэты
мой партрэт
чатыры твае фатаздымкі
ніхто не крэтынка
ніхто ня зьліўся
проста сіл не стае каб заснуць
толькі б заснуць
толькі б убачыць у сьне
толькі б прысьніцца

* * *

я хачу цалаваць сьнег
на тваіх валасах
шкада, што яшчэ далёка да зімы
цёплыя рукі пазбаўленыя
права патрабаваць сагрэцца
і вушы трамваяў
не абрастаюць белым пухам
хутчэй бы згубіць дзе-небудзь
парасон
каб без згрызотаў сумленьня
папрасіць восень
сабраць свае рэчы й сысьці
каб бяз сораму
цалаваць сьнег на тваіх валасах
пакуль сьветлафор не ўсьміхнецца зялёным
і машыны не пачнуць сыгналіць
прысьпешваючы нас перайсьці дарогу
мы пярэйдзем
а мо нават перабяжым
і спынімся ля пераходу
каб вярнуцца назад
каб зноў чакаць зялёнага
і цалаваць сьнег на валасах

# Сяргей Прылуцкі

## ВІНТОЎКА

Палю ў акно. Па галубах.
І пнэўматычная вінтоўка
слухмяна робіць свой «ба-бах»
і птушак падбівае лоўка.

Але, канешне ж, цікавей
было б са снайпэркі. Па людзях.
Прыклаўшы оптыку да вей,
вяршыць сьляпое правасудзьдзе.

Бо ўсё наўкол даўно ня так.
Пад рэбра смутак ставіць фінку.
І брудная душа-барак
вярэдзіцца бесьперапынку.

Бо сьвет – нібы вялікі цір,
дзе кожны заслужыў па кулі.
Мой Бог – мой кілер і кумір –
вальні па мне зь нябеснай рулі.

Быў паляўнічы – стаў трафэй.
Мне ўсё адно: піры, малебны…
Бо доўгі патранташ падзей
пусты і болей непатрэбны.

# ІДЫЛІЯ

Цячэ рака. Шумяць дубровы.
І захмялелы селянін
знаёмай нецэнзурнай мовай
кляне ўвесь сьвет. Ён тут – адзін.

Ягоны трактар нелюдзімы
стаіць у полі. Ноч. Зіма.
Бог з блізарукімі вачыма
глядзіць уніз, але – дарма:

няма патрэбы ў даглядзе –
усё ідзе сваёй хадой:
тут кожны першы ў разладзе
з суседам і самім сабой.

Вясковы сплін: гарэлка, блядкі...
Раве дзіця, сьвіньня вішчыць.
У краме – хлеб і шакалядкі.
У сельсавеце – сьцяг вісіць.

Падлеткі любяцца бязь меры,
бо процьма і блядзей, і дур.
Няма ні веры ні намераў,
каб паднімаць культур-мультур.

Узьлесак. Селянін умела
п’е з рыльца антыдэпрэсант.
Ў правінцыі душы і цела
ўваходзіць сьмерць-калябарант.

# PUB-SCROLLING У ПОШУКУ ГАРМОНІІ

*Андрэю Адамовічу*

…а потым па трэцяй пляшцы піўной амброзіі,
мы выйшлі зь цёмнага бару – зьмяніць дысьлякацыю,
ты добра трымаўся, ў мяне ж пачаліся візіі –
бяздомныя бэстыі, дэманы ў форме і з рацыяй.

Пад ногі нам вечар слаўся і зьзяў калюгамі.
«Вітаю вас, лохі!», – крычэў ты кожнаму стрэчнаму.
Машыны нявечылі цішу зануднымі фугамі,
я ж нешта гундосіў знаёмцу свайму недарэчнаму.

Флянэры й п’янтосы, мы ўпарта шукалі трэцяга,
бы два дыягены ў натоўпе зь дзьвюма запальнічкамі.
Пад рускі шансон і пад скрушнага Дзюка Герцага
пілі і хмялелі, і вочы сьвяціліся зьнічкамі.

Вясна ўкладала ў далоні манэткі радасьці
й мы весела іх прапівалі пад гоман публікі,
палілі свой «Вінстан» у змроку, спраўляліся ў зарасьці,
а потым шчасьліва глядзелі на зорныя вуглікі.

Але ненадоўга прыходзіць у сэрца гармонія,
бо зранку ўжо будзе пустэча ў ягоным куфры.
Мы несьлі пад рукі свой сум захмялелы, а іронія
блішчэла ўваччу й сьцерагла ад мянтоўскага шухеру.

# СТАНСЫ ДЛЯ СТАРОГА БЕРАСЬЦЯ

## а

Мой горад сыходзіў паціху ў сюжэты карцін,
зьнікаў, як зьнікае вандроўны тэатр-шапіто.
З уласнаю сьмерцю застаўся сам-насам, адзін –
вялізны музэй з артэфактамі даўніх часін,
у чые галерэі адгэтуль ня трапіць ніхто.

## б

Яны падрывалі дамы за дамамі. І пыл
сядаў на мундзіры герояў забытых войн.
Усё разумелі на ўласны імпэрскі капыл,
вадзілі між мёртвых руінаў уласных «кабыл»,
і месьцічы бачылі: гораду поўны гамон.

## в

Пасьля ўсё складалася з гучных ідэяў і фраз.
Падводы з цаглінамі, даўкі казарменны пах,
праекты будынкаў: зьверху, профіль, анфас…
Штомесяц сюды пад'яжджаў круты тарантас
і нейкі вайсковы грузін захапляўся: «вах!-вах!»

### Г

А потым пачаўся шызоідны ціхі кашмар
і прывіды места ўрываліся ў хворыя сны,
у душы ўліваючы цёплы вар'яцкі ўзвар.
Бо новыя вуліцы, новы сумніўны штандар
ня мелі някай каштоўнасьці й нават цаны.

### Д

Прытоны, забойцы, гандлёвыя плошчы, смурод…
Ці можна ўзнавіць яго тлумную, пругкую плоць?
Той мініятурны шматколерны горад-суплёт
чароўна ўбіраў безьліч тэмбраў, адценьняў і нот.
Як мала патрэбна, каб гэта ўсё перамалоць.

# 1939

сканчаецца лета й канікулы ў аэраклюбах
рамантыкі робяць скачкі з парашутам ды глупствы
ў любоўных акопах курсанты на радасьцях трубы
бухлом заліваюць яшчэ ў біяграфіях пуста

жыцьцё йдзе па колу і не замінае нікому
хуеюць габрэі шалее паліцыя ў сёлах
усё яшчэ ціха пакуль што усё па-старому
і jajki на месцы і mleko на месцы і сала

дзяржаве вядома адкуль вы нашто вы і хто вы
так будзе вайна і ня трэба крычэць з пераляку
а лепей вучыце старыя сакральныя словы
ура не здамося ў атаку і – йдзіце ў сраку

базары цырульні піўніцы ўсюды шпіёны
рыхтуюць дыверсіі п'юць у крутых рэстаранах
наўкол гэтак весела лёгка надрыўна й шалёна
паўсюдна ўсьмешкі на тварах а ў душу насрана

яшчэ не памерла Украіна Polska – таксама
блядуюць паненкі паны камісары сяляне
працуюць стабільна ашчадныя касы і крамы
ачком прадчуваеш бяду а яно не падмане

# АПАКРЫФІЧНЫ ЖЫЦЬЦЯПІС МАГАМЭТА

## сура 1

Ён ня быў ні за кога – ні шэйхі яго, ні эміры
не цікавілі: што яму зь іхніх сумніўных багацьцяў?!
Клаў на моду, законы, вайсковыя зборы й турніры,
бо прарокі ніколі ня верылі прапагандзе.

## сура 2

Ён быў знаным паўсюль мэляманам: зьбіраў фанатэку,
рарытэтныя нотныя сшыткі мяняў на футры.
Сузіраючы жорскасьць свайго ваяўнічага веку,
пад уміраны сьпеў муэдзіна запісваў суры.

## сура 3

«Хто ўжывае віно, толькі той і патрапіць да гурый», –
пад аліваю лежачы, славіў жыцьця асалоды.
«І ніякая лажа, ніякія сваркі і бздуры
не аспрэчаць красы й смакаты богатворнай прыроды».

## сура 4

Па вялікім рахунку ўсе бабы хоць крышачку дуры, –
але ўночы – бясспрэчна! – багіні (з Алагавай згоды).
Што ж, і Творца, ствараючы сьвет, не пазьбегнуў халтуры;
дзеля жарту наслаў нам на дупы такія прыгоды.

## сура 5

Вандраваў па краёх апантаным вясёлым турыстам.
Ведаў месцы аазісаў, мовы, грашовыя курсы.
Больш за ўсё ненавідзеў паўсюдных салдат-каляністаў.
Меў вялікую слабасьць да кніг і фруктовых мусаў.

## сура 6

Быў бы там інтэрнэт – сябраваў бы з паловаю сьвету,
ад імя Усявышняга тэксты вывешваў на сайце.
Ён ня меў ані прынцыпаў, ані жыцьцёвае мэты.
Ні ў адным не пазначаны сьпісе, ні ў якім штаце.

## сура 7

Ён сьмяяўся зь няшчасных, што прагнулі Армагедону,
харызматаў з даўгім языком уважаў за хлусаў;
не любіў пурытан за дэбільныя іх загоны:
што ў сапраўднага верніка мінусаў менш, чым плюсаў.

## сура 8

Не, адзінае праўды няма – ёсьць уява ды вера.
І нішто больш ня здольнае даць чалавеку свабоду.
Усе астатнія рэчы – банальныя глупства й хімэра.
Ну і збольшага людзі – калгасьнікі ўсё ды ўроды.

## сура 9

Непасрэднасьць дзіцячую славіў на кожным базары,
але што гандлярам неразборлівы трэнас паяца.
Ён аднойчы патрапіў на некалькі содняў на нары,
бо народ баламуціў натхнёнай прамовай на пляцы.

## сура 10

Ён ішоў супраць плыні, набожны герой анэграўнду,
адкрываючы вочы на гнюснасьць наяўнай сыстэмы.
Быў спакойны да здрады сяброў і чужое пагарды,
бо Алаг быў ягоным надзейным ахоўным татэмам.

## сура 11

Ён ня меў ані лецішча, ані кватэры – нічога,
неўтаймоўны аматар шматлюдных сумніўных кампаній.
Гэты чортавы цынік ніяк не цягнуў на прарока,
клаў на ўсё і на ўсіх. І – бухаў дзень пры дні ў Рамадане!

## сура 12

У жаданьні рабіць абы-што ёсьць прывабнае нешта:
слухаць сьпевы фантанаў, бяздумна валяцца ў ложку.
Ён мінаў боль і скруху, хаця й быў звычайнаю пешкай.
Проста жыў дзеля кайфу й не парыўся ані трошкі.

## сура 13

«Ну чаму менавіта яму даў Алаг блаславеньне
несьці радасьць і лёгкасьць па вёсках, аулах, мястэчках!?»
Барадаты нягеглы мужык, ён штоночы нязьменна
узіраўся ў нябёсы, дзе – Бог, НЛА… І пустэча.

## сура 14

Ён памёр у бардэлі з шыкоўнай красуняй пад бокам.
У кішэні знайшлі падрабязны інтымны дзёньнік.
Для ягоных сыноў гэта ўсё было проста шокам.
Хер ты знойдзеш такое сярод кананічных хронік.

# Віталь Рыжкоў

## СПРАВАЗДАЧА ПА РОСПАЧЫ

Мне сумна.
Шпурнутая ў сьпіну сьнежка – мэтафара сумы
атрыманых ведаў у барацьбе са звыкласьцю:
зьмяшалася ўсё ў адну біблейскую суну,
зьліплася...

Зьліліся
разуменьні сэнсаў *існаваньня* ды *існасьці* –
вось так перастанем
адрозьніваць з часам
адценьні.
І ня ў вочы будзем глядзець,
а крывавіць: «– Зьлітуйся!»,
і не чалавеку,
а – ценю.

Па адзеньні,
як павялося, мяне сустрэнуць,
праводзяць па розуме:
нехта прыме маё, нехта скрывіць сківіцы...
Мы ўсе пражываем жыцьцё па-рознаму:
Бог глядзіць на нас –
толькі дзівіцца...

## ЗЯЛЁНЫ ЧАЛАВЕЧАК

Проста блукаючы па вуліцах
нейкім лютаўскім вечарам
і складаючы вершы,
забыўшыся на дакоры,
я выпадкова сустрэўся позіркамі
зь зялёным чалавечкам,
што быў расьпяты на звычайным сьвятлафоры.

І ня тое, каб вельмі
сьпяшаўся я зараз дадому –
проста зьяўленьнем сваім
ён адкрыў мне дарогу.
І ён, каго я дачакаўся,
быў зараз больш Хрыстом,
чым той, каго прынята лічыць
сынам Бога...

І чамусьці падумалася
аб далёкім і цёплым чэрвені,
недасягальным, лагодным моры...
А вуліца гудзела сабе,
бы вялікае чэрава,
не заўважаючы мэсію,
расьпятага на сьвятлафоры...

І, здецца,
мы чуем, як нешта б’ецца,
мы адчуваем: з душы пацякло –
кроў ільецца...
Наша каханьне – два сэрцы,
кінутыя аб шкло.

Непрадугледжаныя,
самі сабе прыналежныя.
Дзесьці блукае і наша цяпло.
Бы залежныя,
мы б жадалі парушыць гэтыя межы,
мы б жадалі, каб з намі было:

Нечыя
простыя словы чалавечыя.
Цені,
у адно зьлітыя, танцуючыя.
Вечныя,
адно аднаму прысьвечаныя,
бясконцыя, неіснуючыя.

Бы абраныя,
ад жыцьця адарваныя,
бы адзіныя і суцэльныя.
Закаханыя,
адно аднаму адданыя,
неаслабныя, непадзельныя...

## ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ

Вецер мяце
рэдкі сьнег па дарозе,
бы сьмецьце.
Ноч –
можа, прыйдзе,
а можа і не.
Я крочу дадому –
я не баюся сьмерці.
Я крочу дадому –
а сьмерць не баіцца мяне...

Нядобра,
нядобра паглядвае шэрая вуліца,
бы заглынуць мяне цемраю хоча і зьесьці.
Сьпяшаюся, бо...
бо маці, канечне, хвалюецца,
ня сьпіць і ня знойдзе ніяк сабе месца.

А над гэтым усім –
па-над поўняй, над мной –
сівы Бог разьбірае малітвы-канвэрты
і лісты крывадушных ірве ён рукой,
белым сьнегам кідае ў паветра.
І ляціць гэты сьнег, бы звычайны сьнег, –
толькі думкі пад ім – балючыя.
І цалуе ў твар, бы ў нейкім сьне,
вецер,
халодны, калючы...

А вецер мяце
рэдкі сьнег па дарозе,
бы сьмецьце.
Ноч –
можа, прыйдзе,
а можа і не.
Я крочу дадому –
я не баюся сьмерці.
Я разумею:
і сьмерць не баіцца мяне...

# РОСПАЧ НА ПРОДАЖ

Высьпела роспач, пачвара чароўная, –
поўныя вочы празрыстае слодычы.
Высьпела роспач – ладная, чорная –
і хопіць на продаж роспачы.

*Высьпела роспач,*
*вы-ы-ысьпела,*
*вылезла,*
*воспай на твары высыпала,*
*воскам, выступамі,*
*сьлязамі празрыстымі,*
*выспамі,*
*высямі,*
*няспыннымі выразамі,*
*выспалася...*
*Высьпела.*

Высьпела роспач. На першым паверсе,
дзе вершы складае нейкая сволач,
пахне гарэлкай. Па адной з вэрсій,
гэта –
высьпела роспач.

Высьпела роспач.
У краіне адчаю,
пераважна населенай беларусамі,
чалавек з вусамі шлёпае вуснамі
і слова яго –
не да-па-ма-гае...

*Высьпела роспач,*
*высьпела,*
*зьзяючай язвай на целе выступіла,*
*рапсодыяй высахлай,*
*срэбраным выстрэлам,*
*вызнала,*
*вылезла,*
*задзірліва чорныя кветкі выставіла,*
*выкараскалася –*
*высьпела...*

Высьпела роспач, вые нямая,
і проста так да яе не падойдзеш,
ды скажыце ўсім: чалавек, што складае,
мае танную роспач на продаж.

## ГАБРЭЙ

Ня трэба хадзіць ад дзьвярэй да дзьвярэй,
гаварыць, дзе закон, а дзе – не закон.
Мне ніколі ня быў даспадобы габрэй,
што назірае за мной з ікон...

І адрокся, і сонца ня зьмеркла.
«Хто ты? – пытаюся, – хто ты?»
Наразмаўляесься так вось зь люстэркам...
да ірвоты...

Адзінота
зьядаць пачынае з вачэй.
Крочыш па пакоях, крочыш.
Што ты хочаш ад мяне, габрэй,
чаго чакаеш, навошта сочыш?..

## УЗМАХ КРЫЛАМІ

Я вачамі гляджу астылымі:
не пакідай
іржавець з паштовымі скрынямі!
І расстаньня не пераблытаю –
узмахнеш, адлятаючы, крыламі.

Я блукаю пакоямі брыдкімі,
канчаткова заблытаны крыўдамі.
Расстаемся.
У гэтым выпадку –
узмахнеш, адлятаючы, крыламі.

Ўсьлед кульгаю з тугой першабытнаю,
бо вяртаньне –
па вадзе віламі...
(Не займела ўзьдзеяньня прымаўка –
узмахнеш, адлятаючы, крыламі).

Ты мне вочы адкрыла, мілая! –
узмахнеш, адлятаючы, крыламі.

Я ўвесь посуд склею ды вымыю! –
узмахнеш, адлятаючы, крыламі.

Ты жадала бясьпекі ды выраю
і ня ведала, што рабіць
з крыламі...

Мілая, ў небе хапае пастак –
загінеш,
парэзаная крыламі ластавак.
Адкуль ты ведаеш, – ляці, калі ласка! –
можа, яны і ня грэбуюць мясам...
Ты не баісься іх, ганарлівая –
узмахнеш, пакідаючы, крыламі.

Апантана ўчапілася ў неба,
на разьвітаньне ўзмахнула, бачыце?
І мне да яе дацягнуцца – нельга.
Хоць я і ўстаю
на пальчыкі...

## AVE

Ты – лекавая расьліна,
далоні тваe – як травы.
Ave, Maria Regina,
ave...

Каму я імя раскрыю?
якое я маю права?
Ave, Regina Maria,
ave...

Ніколі ня згасну, не згіну –
бо скра́ду тваe
кроплі...
Ave, Maria Regina –
мне для жыцьця
хопіць...

## ЭПІГРАФ ДА МАЛАДОСЬЦІ

Мама!..
Прыйдзе час –
                    парастáнем мы:
перабесімся,
станем сталымі –
а пакуль,
            калі ласка,
                          адстáнь ад мяне!..
Я яшчэ пажыву
                    хістаньнямі...

# Сяржук Семянюк

* * *

Я сядзеў, цалаваўся з кубкам,
у гарбату капалі сьлёзы.
Ты казала: «Не будь придурком
Ну зачем тебе эти грёзы?»

«Я ня грожу», – ў адказ абураўся,
прапаноўваў сустрэцца заўтра.
А ўначы ізноў цалаваўся...
То з падушкай, то з томікам Сартра.

* * *

Жыў-ня жыў,
Існаваў.
Любіў-не любіў,
Кахаў.

І каханьне,
Хоць і былое,
Але ж было.

* * *

Калі хочаш
памерці
табе
прапануюць
каханьне
у гарадзкой
калатнечы
табе
прызначаю
спатканьне
і зьбягаю
за сэкунду
перад
тваім
прыходам
я кахаю
калі ты
не
да
ся
га
ль
на
я

## АПАЛЁНІКІ

Паўзмрок. У кілішку херэс.
З табой у ложку – Апалён.
Адной рукой трымаю чэляс,
Другой – мабільны тэлефон.

* * *

у бясконцасьць
мкнецца восень
я вітаю сплін
кубкам моцнае
гарбаты
б’е адрэналін

* * *

у мінусах плюсы
шукаць
у адносінах хібы
знаходзіць
па куточках душы
вандраваць
туды дзе чакаюць
прыходзіць

* * *

сінім бляскам нэонавых лямпаў
старамодных савецкіх вітрынаў
акунаю ў імклівую вечнасьць
спарахнелых пачуцьцяў-руінаў

у бясконцым неіснаваньні
ад памерлых пачуцьцяў стамлюся
я ў нябыт не сыходжу
я кахаю цябе

*я кахаю цябе і баюся*

# Ганна Серахан

## ЛАНДЫШ

Зьмяркаецца. Пусьцее велькі кошык,
Зь якога прадае паволі нас
Бабулька, заклікаючы прахожых
І вяжучы сьцябліны ў грубы пас.

Напэўна, мае родзічы-званочкі
Стаяць ужо ціхмяна на сталах,
Бялявыя прыжмурваючы вочкі
З самотаю па ранішніх вятрах.

Сьцямнела... Мяне так і не купілі.
І ўвесь апошні зморшчаны букет
Ад стужкі зіхатлівай адчапілі
І выкінулі зноў у белы сьвет...

## * * *

Ня збудзецца...
Хоць вырасла
Сьцяблінкаю
Духмянаю
Ў душы.

Забудзецца
І высахне,
Затоіцца
Зьняверана
Ў глушы.

Нікому не патрэбнае,
Адчайна растаптанае,
Нібыта што ганебнае,
Ня раз яшчэ
Прымроіцца,
Зламанае, ЯНО.

Ураз не супакоіцца.
Было ці не было...
Даўно ці не даўно...

Балюча затрымціць
............................
..................
Каб ЖЫЦЬ...

## У БАРЫ

Лепш буду непрыкметнаю хваінай
На ўскрайку бору стоена стаяць,
Чым чуць у гушчыні, як штохвілінна
Калючым гольлем дрэвы буркацяць.

Ім вечна не хапае там прасторы,
Адно з адным валтузяцца заўжды,
Зліваючы нуду ў бязладным хоры,
А вырвацца – ня ведаюць куды.

Там пнуцца ў вышыню цераз суседзяў,
А тыя – ну хоць лапінай сухой! –
Гатовыя ўшчыкнуць ці разьвярэдзіць
Надрэзы на кары бліжэйшых хвой.

Хіба ня лепш стуліцца дзесьці збоку –
Няхай і ў адзіноце – што з таго?
Затое, тут відаць усё далёка –
Ад рэчкі да залочаных стагоў.

Магчыма, што і сонца шчырым ранкам
Падорыць тут найпершы свой прамень
І ў кожную расшчэпленую ранку
Пранікне, прывітае з табой дзень.

А ў бору глыбіні і не пачуеш,
Калі распапяліцца начны цень.
І сьпеў, што ты да неба накіруеш
Аб першы спатыкнецца ў лесе пень...

## ТРЫЯЛЕТ

Пакуль агораеш турботы,
Паблякне зорка пачуцьця,
Душу пазбавіць адкрыцьця,
Пакуль агораеш турботы.
Ва ўдушлівым віры жыцьця
Ахвота зьменіцца пустотай.
Пакуль агораеш турботы,
Паблякне зорка пачуцьця.

# ЦЕНІ

Цені даўжэюць...
дужэюць...
дружнеюць...
Дрэўцы падрэсьлі на тканцы травы,
Рэдкія – ўраз яны зараз гусьцеюць,
Нібы ўтвараюць міраж баравы.

Там, дзе ніколі ня счэпяцца самі
(Надта далёка галіны растуць),
Тут не бянтэжацца і над імхамі
Лашчацца, таюць і зноў паўстаюць.

Вострыя ўдзень, яны сном бесьцялесным
Перамаўляюцца дружна ўначы –
Цені ня колюцца,
ценям ня цесна,
Цені ня ўмеюць суседзяў сячы.

З лапікаў мяккіх іх, зь лёгкіх палотнаў
Тку пакрыёма я кельлю сабе
І між галінак расіста-вільготных
Зь ценяў фіранкі пляту ў варажбе.

Бы ў павуціне, блукаю па дрэвах,
Можа, згубіўшы і свой цень між іх,
Я зачаплюся ў таемным павеве
За непрыкметных такіх жа... Жывых...

# Уласік Смаркач
# і Сірошка Пістончык

## ЙОПЫТЫ ДВУХ МАЛАДЫХ НЕЛЮДЗЯЎ

(фрагмэнты)

### Андруха, Бох і весялуха

Мой друх дзецтва – поп. Хаця не, какой ён, нахуй, друх. Проста ў саседням пад'езьдзе жыве. Так, прыяцелішка. Карочэ, чувак скаціўся па скольскай дарошке. Нет шобы пайці ў верталётчыкі там. Ілі ў рэстаран пяльмені ляпіць. Або ішчо палезьней – у масьцера-сьцекладувы. Бо разьве ж эта прафесія – поп. Так, балаўство адно. Ні панімаю я этай туніяцкай спецыяльнасьці. Вець папы тыя, ані ж нічэво ніпраізводзят! Ні мукі, ні мясных ізьдзелій, ні трыкатажа. Карочэ, цёмнае эта дзела. Трудна мне паняць чэлавека. Пачэму ён дзелае тое што дзелае. Я-та і сібя ні ўсігда панімаю. Тачнее, нікада ні панімаю. А што ўжэ гаварыць пра чалавека з саседнява пад'езда.

Када поп быў чалавекам іво звалі Андруха. А січас і нізнаіш как пазваць. Я ўжэ і сьвісьцеў, как сабачке абычна сьвісьцяць. І па-старынке пробаваў, ціпа «Эй, гандон, падвалі-ка сюды». І – «мужчына ў чорнай піжаме, давайце знакоміцца». А ён – малчок. Вот дурачок!

Я многа тусуюся з явоным млатшым братам – Саньком. Ён зыпскі пацан, на малаказаводзе работае. То ён пра таво попіка многае расказвае мне па дружбе. Напрымер, што ён данідаўна ніразу цыцак ужывую нівідзеў. А пра ібацца так вапшчэ для іво – как да Юпіцера. Ілі дажэ Плутона. Словам, не слажылася ў яво з астраноміяй. А нідаўна цэркоўнае начальства сказала яму, што калі чэраз год ня жэнісься – то нужэн тада ты Богу, как жопе дзьверы. І ён цэлую ноч плакаў у падушку. Украдкай скурыў пачку «Альянса». А вутрам быў как мачавой пузыр – малчаліў і чэм-та плахім наполнен. Прашол месяц, два – і нашоў-такі ён сабе феміну. Луччэ б

павесіўся. Ушастая, плацьце з рушэчкамі, мажжэчок з нагаток. Жэншчына із серыі «сяры, пярдзі і грэйся». Упалне вазможна, што іё і ібаць та невашта. Жыніўся Андруха той, павесялеў, стаў псалмы дзе нада і нінада распяваць. Ціпа шчасьцем заўладзеў. От жэж, курва з ліманадам, і эці людзі учат нас духоўнаму!

У Андрухі есьць слабасьць – ён любіць каруселі. Па славах Санька, бывае, што ўсю сваю палучку на чортавам калісе, «Сюрпрызе», разных там горках і качэлях спускае. Прэдстаўляю сібе эту камедзію. Таўстапузы бацюшка блюе з рамашкі-цэнтафугі!!! Або на лодачке-маятнікe крычыць: «Іссууссее, іііісссуууусссеее, ййоохxоо!!! Маць тваю за вуха, – блааажэээн ныынеее раб твой, аааааа, блааажэээн!!!»

А аднажды как катаўся ён на каруселі, выпала ў яво з кармана Біблія і ёбнула па галаве сямілетнюю дзевачку. Та паціpала сазнаніе. Міліцыю вызвалі. Шум. Суталака. Баця з тым папом мутузяцца. Поп упаў, устаць ня можа – ад'еўся на божых харчах. Еле замялі дзела.

А ішчо раскажу адну історыю – так проста ўсцыцеся. Пашоў этат бацюшка раз у гамазін. За хлебам там, цілі за маслам. Вапшчэ ён рэдка куды ходзіць кроме цэркві і каруселяў. Стаіць ён, карочэ, ў очарадзі, а к німу падходзіць жэншчынка і гаварыт:

– Мушчына, вы верыце ў Бога?

Цёця наверна напастое ў вышшых сферах вісіць. Ні цёця, а куртка з ватай. Ісьцествіна поп і нервам ні павёў, но відна што хуее – ілі как эта па-цэркоўнаму называецца. А патом атвячае:

– Веру сястра, веру. Более таво, я – Пёс Гасподні! На службе ў яво састаю.

Тут ужэ на смену бацюшке начынае хуець очарадзь. Плюгавенькія мужычкі ржуць, дзяўчонкі хіхікаюць. Сабачкі гаўкаюць. Коцікі весела мурлычуць.

– А вот скажу вам, што цэркаў ваша ад Беса! Ягова – вот наш любімы Бох. А пад вашымі купаламі Сатана іграе польку! Душы жуёт і адрыгівае на алтар. Прадалі вы веру за харомы бялёныя і крэсты залачоныя.

У аца аж багровыя жылы на насу выступілі ад этава багахульства. Касірша тожа на ізмене. Народ жэ, хлеба накупіўшы, ждзе

зрэлішча. Расплаціўся поп, рашыў не ўвязвацца. З-за чэво ў народа ажно жаль дупу сьціснуў. Но рана. Бо цётка тая – от жэ ж і бываюць на кухне блюда – за ім папёрла. Карочэ, папаў Андруха, как сьліўка ў гаўно.

– Стой, стой, – крычыць, і глаўнае – за рукаў хватае. А бацюшка как-та нілоўка так крутанёцца. Відна Бох іво так надауміў. Ілі ў семінарыі такім духоўным двіжэньням вучаць. Карочэ, у папа паварот, у бабы – палёт. Аб гамазінную цялешку вэкнулася зубамі. Зубы жэмчугам павысыпаліся. Юпка парвалася. «Старажэвая башня» з сумкі акі лісьцья асеньнія пасыпаліся. Весь гамазін, бляць, стаіць как у театры. Цішына, шо стыдна дажэ цэлафанам пашуршаць. Усе ждуць чэво-та. А цётка нет каб заплакаць, цілі там «Спасіба» сказаць. Разашлася как матросы павясьне. Вырвала ў кавота з рук палку каўбасы, пачала ёй лупасіць бацюшку. Па шчакам, па жопе, па жывату. Пры этам верашчыць как крыветка пад уксусам. А народ усё ждзе. Бо нужэн паследні штрых. Фінальны жэст, так сказаць. Шобы спектакль закругліўся і аброл художэсьцьвеную цэльнасьць і гарманічэскую закончэнасьць. І бацюшка паказаў сібя талантлівым драматургам – ёбнуў сектантке ў солнечнае спляценіе, далей – ідзеальны ніжні левы хук. После чэво перакрэсьціўся і пад галдзёш і крыкі пакінуў сцэну.

Вот такія людзі жывуць радам з намі. Кантраверсійныя, можна сказаць, лічнасьці. Пасмотрыш – губашлёп губашлёпам. А патом такой фіньцюль выкруціць, што сідзіш і дудзіш. Сложна как та ўсё вакрух устроена. І што самае абіднае – нідзе нівучаць разбірацца ў гэтых ніажыданых паваротах.

## Васільеўна

У нашам калбаснам цэху есьць Васільеўна. Ні помню как іё завут… Ну, усе завут Васільеўнай – і я тожэ. Наверна ў іё бацю Васяй звалі. Цілі эта клікуха такая? Ну, ня важна, карочэ. Васільеўна і Васільеўна. Мала лі прычын называцца Васільеўнай. Можа, ана сама так захацела. Цілі хто-та падсказаў. Або какая ашыпка ў паспартнам стале случылася – апічатка там, нідасмотр… Карочэ, Ва-

сільеўне гдзе-та гадоў сорак. Плюс ішчо пяць спакойна можна накінуць. Васільеўна (так іё завут) – жэншчына міравая. Када я прышол у цэх пракцікантам, ана сразу жэ ўзяла міня паткрыло. Мяса ана ўсігда рубіць пад Міладзэ цілі этава, как іво. А! Абадзінскава! Ана іх абоіх фамільярна называе Валеркамі і гаварыт, што іх песьні не даюць душэ аканчацельна ачэрсьцвіцца. «Душа ў чалавеке как мясарубка ў кухне – очэнь нужны і дзілікатны прыбор» – часта паўтарае Васільеўна.

Наш калбасны цэх занімаецца ўсемі відамі абработкі мяса. Уся цэпочка праходзіт перад глазамі. Забой, сьвежаваніе, разьдзелка, сартоўка, абработка. Ой, усяво і ня ўпомніш. Сама чотка палучаецца разьдзелка, канешна, у Васільеўны. А забой ската так вапшчэ ў іё на ўра ідзе. Скажы «забой» і яна ўжэ тут как тут. На эта слова ў яе ўжэ рэфлекс как у сабачак Паўлава. І хоць у іё дома жыве малінькі валасаты кацёнак з гразнай жопай, к мясу ана атносіцца хладнакроўна. Ана не перажывае за сьвінак, каровак, курачэк і вутачэк. Для іё эта проста «кавалкі сочнай крававай плоці» (во как ана інагда загібае!) Бывае так разайдзёцца, што храшчы і сухажылія па ўсёму цэху лётаюць. Васільеўна – масьцер вышшай кацегоры. Калі б ана радзілася ў Срэднявякоўе, то ёй, я думаю, і людзей рубаць даверылі б. Аднака ана радзілася ў Іванаўскам раёне. Трудна сказаць што луччэ. Канешна, там размах быў пашырэ. І прафесія ў большэм пачоце. Але Васільеўна не такая. Ана нікада ніачом не жалее. Ана апціміст. Бо как эта так: убіваць жывотных і ні быць апцімістам?

Васільеўна – чалавек душэўны. Бывала, хачу я курачку ў расхот пусьціць. А ана: «Сірожык, ой, как ты іё ніправільна зжаў за крылья, ей жа больна». І паказвае, как дзіржаць курачку. Как лажыць на калоду, шоп ана нівідзіла тапара. Залаты чалавек да і толька!

У Васільеўны есьць два дзіця. І адзін муш – Алёшык. Но муш он так сібе – ліпёшка, а ні муш. Сапля размазаная. Вечна прыдзёт к ей на работу. І канючыт: мая лыбанька, маё солныска. А ана ні з той пароды. Ана дародная і цьвёрдацелая. Как гаварыца, кроў з малатком. Паэтаму іё аж калоціт ад такой любоўнай расхлябанасьці. Інагда мне кажэцца, што Васільеўна з радасьцю палажыла б таво Алёшыка на калоду. І цюкнула па шэйке. А вот нас з напарнікам –

Валоцькай – ана любіт. Любоўю маціранскай і бясплатнай. Гдзета ляжачку цілі грудзінку ў газетку завярне – дамой пакушаць. Гдзета кішочак у карманчык суне. Пупкоў для супа адложыць.

Васільеўна – раманцік. Прычом з бальшой дарогі. Летам мы ўсягда ходзім на шашлыкі і вотку. І хто, вы думаеце, глаўны павадыр? – ага, ага. Васільеўна. Мы там п'ём, паём частушкі. Васільеўна ўспамінае былое. На прыродзе ана нам пазваляе прыставаць к іё дочаньке Анжэлке. Анжэлка не очэнь красівая, но очэнь прастая. А вець еслі чэлавек прастой, то і людзі к німу цянуцца. Вот і мы абычна цянем Анжэлку ў кусты. А Васільеўна шчурыт левы глаз і весела гразіт пальцам. Ана харошая мама. Бо знае, што Анжэлку мы ў абіду нідадзім. Мы вець мужыкі, а не два пальца. Мы з Валоцькай ходзім па срэдам і суботам у качалку. Шобы стаць ішчо мужыкасьцее. Бо без сілы Анжэлку і ні зашчыціш, і ў кустах не парадуеш.

Я очэнь рат, што есьць радам такая Васільеўна. Вець мір так жэсток. Міня два раза білі ў падваротнях, забіралі дзеньгі. І кажны раз Васільеўна – тока ана – нахадзіла нужныя слава. Ана многа знае красівых слоў. Нідарам ана ўсягда гаварыт паздраўленья на юбілеях. Могуць паказацца падазрыцельнымі падобныя санціменты маладова пацана да саракапіцілетняй мацеры сімейства. А зра. Бо эта называецца – связь пакаленій. Платанічэская дружба. Апякунства над млатшым. Жысьць ана вець такая штука. Ні любіць ана ніякіх сьцірыаціпаў. Ні ў атнашэніях, ні ў рабоце. Жысьць любіць Васільеўну. А іначэ - нікак. Патаму і жыве Васільеўна как у Бога ў кармане. Ілі ішчо дзе-та – січас ужэ не прыпомню.

## Пішчотны ўзрост

Мне 18. Я підарас. Калі сьмяркаецца і горад пагружаіца ў разўрат, мне астаёцца адно. Адзець новае плацыца ды хуярыць на дзіскацеку. Іскаць друга па інціpэсу.

Задачка гэтая аслажняіца некатарымі абстаяцільствамі. Гарадзішка наш маленькі і да бязабразія пурытанскі. Так шо найці сабе друга тут очэнь ціжыло.

У адную з ачэрэдных начэй сабраўся я апяць. Памацаць почву, так сказаць. Прыхарашыўся. Папудрыў хобат, памыў хуёк і пачэсаў на вічырынку. На вічырынке-та гэтай я і падцэпіў гэтага шалуна Мішку, гэтага кракадзіла, які паламаў усю маю жысьць і наўсягда пранзіў маё сэрца. І ня тока сэрца.




Я быў настроены очэнь па-раманцічэскі. Ён, відна, тожэ. З нівідзімых дзінамікаў лілася пішчотная мілодзія. Цесна прыжаўшыся, мы танцэвалі інцімны таніц. Мішэль шарыўся ў маёй шырынке. А ў міня ў кацілке кіпелі шалёныя хвантазіі.

Я шаптаў яму ў валасатае вушка дзерскія слава. А ён (ах, праціўны маленькі сэрцаед!) засьценчыва калупаўся ў носе. Ён выглядзеў такім біззашчытным, і гэта распаліла міня ішчо большэ.

Пасьля наша парачка ўідзінілася за ўкромны столік. Пацжымаючы маі ладошкі, пракаэьнік томна аблізываў свае тонкія губы. Мармытаў таімнічы маціўчык. І бістыжа улыбаўся.

«Малыш, – наканец адазваўся Мішэль, – давай пакінем гэтае вушлае місьцечка і рванём да адной мамзелі на дачку».

«З табой, мой зайчык, хоць на край сьвету», – какетліва прамурлыкаў я. І, устаўшы з-за століка, лёгенька пнуў яго ляжкай ніжэй поясу.

Грацыёзнае «Піжо» з шашачкамі ўміг дамчала нас да казачнага дварца. Устроіўшыся на задніх сядушках мы ўслаждаліся пацэлуйчыкамі і нінавяшчывымі ласкамі. Нінасытны і ўпругі язычок друга жарка трэпыхаўся ў маей ратавой поласьці.

Хазяйкай гэтага райскага дому, ідзіальнага прыстанішча для дзьвух закаханых сірдзец, была Ліакадзія Пуф, старэюшчая палячка-лісбіянка. У гасцінай, куды яна нас правяла, знаходзілася маса ўсячэскіх інціірэсных мушчын. Некаторыя былі адзетыя ў шыкарныя фракі. Але асноўная маса – такія ж, як і мы. Варкуюшчыя галубкі-галубочкі з тонкімі манерамі і ўкусным запахам духоў.

«Мон шэр, – па-кашач'і абрацілася да міня хазяйка, – ізвольце паўрашчацца ў багеме нашава горада і адкушаць маіх хвірміных пончыкаў з клубнікай». Патрэпаўшы міня за шчочку і міла хіхікнуўшы, Ліакадзія нізаметна шчэзла.

Але я болей ня мог ждаць. Скарыстаўшыся адсутнасьцю хазяйкі, я пацянуў свайво пішчотнага любоўніка за сабой у адзну з бішчысленых камнатушак. Там я страсна асвабадзіўся ад сковываўшых маё цела і маю душу шмотак і ўвлёк Мішку ў пасьцелю... Боскія хвіліны пранесьліся акі вецір.

Калі я спускаўся ўніз, на лесьніцэ мне прэградзіў дарогу нейкі пухненькі спадар і прэдлажыў пагуляць з ім у жыстокія ігры. З кармана ў яво выглядывала плётка, а на шэе красаваўся ашэйнік. Я быстра адшыў няшчаснага красаўчыка і далучыўся да вышшага ёпчэства.

Потым мы ўсе сільна напіліся. І Мішка, п'яны, сядзеў на каленях у нейкага атўраціцельнава суб'екта з чорнымі вусікамі і пакатым ілбом. Я падашоў да Мішкі і, рэўнуючы, выліў яму на галаву французскі супчык з прафітролямі. Супчык быў давольна гарачым. Унязапна я поняў, што міня цынічна спользавалі і выкінулі з сэрца як старую паламаную ігрушку. Мне стала праціўна нахадзіцца ў гэтым абманчывам мірэ біспечнага карнавала, дзе пад маскамі хаваюцца чорствыя і абыякавыя ліца.

Я громка хлопнуў дзьвярыма і, швырнуўшы ў акошка нідапітую бутэлечку «Кабірнэ», пашоў проч.

Раніцай, аднака, праснуўшыся, я пачустваваў, што быў ніспраўядлівым з Мішкам. «Вець ён такі чусьцьвіцельны», – падумаў я. І

набраў ціліфон маей любві. Трупка атвеціла доўгім гутком, цірзаюшчым сэрца.

Чэраз некалькі дзён я ўбачыў Мішку, абнімаюшчымся са студзеньцікам, каторава я ведаў (ён увлікаіца будзізмам).

Чэраз чатыры месяца трэвога ўвашла ў мой дом. Стала абсыпацца мая шыкарная шэвілюра, а пісюнчык заметна пагрусьнеў.




Дохтур ня стаў увіліваць. На мой прамы вапрос даў гэткі ж убійсьцьвены атвет.

Мішэль аказаўся сьпіданосам. Біспардонна прэрваў маю цьвітушчую юнасьць. Сьмерць стаіць ля маей криваці і солнечны зайчык ад ейнай касы прыгае па маім ссохлым целе.

А мне ж хацелася напоўніць жысьць наслаждзеньнем. Піць віно блажэнства. А палучылася, што ўсё гэта – цю-цю... Наўсягда ышчэзла за паваротам біспашчаднай судзьбы.

## Грэчаская трагедзія

Грэцыя – родзіна дрэўніх підарасаў. У це ўрэмена ані былі ў пачоце. Галубымі былі і ўласьць прыдержашчыя. І творчаскія ідзініцы. І стражы закону. І простыя чалавекі – мужыкі і бабы.

У то ўрэмя людзі ўжэ ўмелі абжыгаць гаршкі. Іх гэтаму навучылі первабытныя племяна. А ішчо грэкі выпілівалі напільнікамі красівыя

голыя статуі. Там была відна ўсё – жопы, цыцкі, зморшчаныя пісюны. Бо дрэўнія не былі ліцамерамі і ўсё што імелі выстаўлялі напаказ. Жэншчыны-статуі ў іх ўсягда былі сплош бязрукія, бязногія і безгаловыя. Какавымі яны, канешна жэ, яўляюцца і ў жызьні.

Вапшчэ іхняя культура была очэнь высака і глубака. Гаўно ў іх цякло па трубапровадах. У палях рос вінаград, з каторава дзелалісь пладова-ягадныя напіткі. Самым папулярным быў «Русалачка». Грэкі верылі ва ўсякія такія чудзіса.

Любімым месцам оддыху дрэўніх грэкаў была цень смакоўніцы. Смакоўніца – эта такое дзерава. Пад ім грэкі смакавалі грэх мужаложаства. Прэдаваліся підафілічэскім іграм з мальчыкамі. Распівалі алкаголь. Распявалі песьні. Патаму смакоўніца і палучыла такое названьне.

Гарада ў грэкаў называліся полісы. Там жылі очэнь строгія граждане – прашчуры сіводняшніх міліцанераў (палісмэнаў). У полісах царыў парадак і законнасьць. Палісуны (така тада зваліся стражы парадку) хадзілі па вуліцах і сматрэлі, каб акружающчы грэх не правышаў паложанай нормы. Ані былі очынь добрымі і ўступчывымі. Ані заступаліся дажэ за бамжэй ціпа Дзіягена, які а) жыў у бочке з-пад агурцоў, б) быў ніісправімым ананістам і – sic! – в) к таму жэ філосафам. Формы ў палісуноў ніякай не была. Ані разгульвалі голымі.

У грэчаскай стране была очэнь многа празьнікаў. На Дзень Красаты ані ябаліся бальшымі групамі на стадзіонах. На Дзень Філосафа ўстрайвалі дзіспуты з паследуюшчымі пізьдзілкамі і кравапусканьнем. У ніх дажэ быў Дзень Энэргецıка. Энэргію ім бясплатна пастаўляў Прамітэй. Ён яё тырыў у багоў і дарыў людзям.

Багі ў іх былі... ну, ціпа нашава правіцільства. Глаўным срэдзі іх быў бацька Зеўс. Када-та даўно рашылі, што ён пабудзе глаўным чу-чуць. А патом ён заявіў, што ён патрэбен грэцкаму народу і застаўся наўсягда.

Усё грэкі былі інцілігентамі. Слабакамі, карочэ. Ваяваць ніхуя ня ўмелі. Умелі тока расказаць какую нібыліцу. Ілі сьціх пра вайну напісаць. Патаму і былі ўскорасьці ўнічтожаны. Валасатымі грубымі рымлянамі, каторыя ні то што мысьліць, а дажэ жопу выціраць ні навучыліся. Выжылі тока ідзініцы. Ані эмігрырывалі ў Амерыку і прыдумалі там новую цывілізацыі – індзейскую. Індзейцы тожэ верылі ў кучу багоў. Курылі трупкі, паядалі пэйотль. І тожэ былі слабакамі. І з-за этва іх тожэ зьнічтожылі.

Сіводня многія людзі не падазрэваюць, што многава набраліся ад дрэўніх грэкаў. Што ў кажнам унутры сідзіць грэчаскі вірус. Тоісьць у ніведамы час кажны маскаль, жыд, янкі, працуз, пшэк і фрыц будзе зарэзаны тупой і грознай ардой.

## Back in BSSR

Я хачу расказаць вам праўду. Горкую праўду з прыўкусам елкай дзіфіцытнай калбасы, палёнай воткі і імпартнай жывачкі «Дональд», якая пахла шампунем «Уцёнак».

Начала 90-х – пара ніразбярыхі і наіўных надзежд. Када ў ачэрэдзях дзелалі дзіцей і хадзілі ў сарцір па талонам. Када за банку тушонкі маглі прадаць астаўшуюся чэсьць Родзіны, папку з мамкай і собствіную нікаму нахуй ня нужную чэсьць.

Тада, у дні майво дзецтва, у ларках «Саюзпячаць» прадаваліся чорна-белыя фоткі любімых герояў. Па рублю за штуку. Там былі Бруслі, Швацнэгер, ніньзі ў чорных касьцюмах. А большыя плакаты так вапшчэ прадаваліся тока з-пад палы і за бальшыя дзеньгі. Тада я ўпярвыя пачуў слова «сэкс». І вымяняў дзедаву мядаль «За атвагу» на вырэзку Саманты Фокс з какова-та журналу. У Саманты Фокс былі, як уцьвярждаў прадавец, самыя красівыя цыцкі у міры.

Усем тада хацелася папасьць у вараўскую банду. Бо бандзіты запраўлялі ўсем горадам. У іх былі самыя чоткія цёлкі, дарагія тачкі. І вапшчэ ўсё была на мазі. Па вечарам ані ігралі на гітарах пра зону, а па начах ібалі школьніц у банях. А патом іх саміх зіібошвалі дзенібуць у цёмным вугле. І пра іх пісалі газеты, пізьдзелі па цілівізары.

Дзівіностыя таксама – урэмя раждзеньня папсы. Первая касета, какую я купіў, была «Дзюна». Там на карэшке красівым жэнскім почэркам была напісана «Страна Лімонія». А када папка з мамкай прывязлі з Паляндзіі запісываюшчы двухкасетнік, то я запісываў з радзіва групу «Кармэн» і «Ціхналогія». А мама купіла сібе на талчке касету Марыны Жураўлёвай. Патом ужэ на каждам рынке, у каждай дзюрцы павырасталі будкі з адным-ідзінствіным сьляпым акошкам. З каторава былі відны толькі вусы і сочныя губы касетнага дзялягі. Бум быў такі, што модную музыку адрывалі з рукамі. Мода ў це ўрэмена была сваіабраз-

най. На валасах пацаны насілі прычоску «плашчадка», а дзіўчонкі р'яна лакіраванлі сабе чолкі і насілі ласіны а-ля «авары-доч-мянта».

Народ тада как нікада нуждаўся ў чудзісах. І эці чудзіса былі яўлены. Толяй Кашпіроўскім, Алікам Чумаком і цёцяй Джунай. Іх валшэбныя глаза і рукі зацягівалі рубцы і душэўныя раны. Перад целікам ставілі банкі з вадой, прыкладывалі да экрана жываты, жопы і другія бальныя часткі цела. Гэта сьвятая троіца была спасіцільнай саломінкай для атчаяўшэгася люда.

Ішчо дзівіностыя – эпоха сірыалаў. І найпірвейшы з іх – «Рабыня Ізаўра». Азы-гумга-румгэ-румгазы-гумга!!! Станкі на заводах заціхалі, дажынкі прэрываліся. Астанаўліваўся абшчэсьцьвены транспарт. Змаўкалі школы, лабалаторыі і інсьціітуты. Народ упітваў і жыў страсьцямі чужой капіталісьцічэскай жызні. Как кончылася Ізаўра – пачалася Марыяна. Кончылася Марыяна – пачалася Марыя…

Це ўрэмена знамініты ішчо палавой распушчанасьцю. Каля гасьцініцы «Інтурыст» толпамі хадзілі размалёваныя начныя бабачкі. Да іх пад'яжжалі на новіцькіх «дзівятках» крутыя накачаныя пацаны. І мы тожэ хацелі так. Мы дружна запісваліся ў «качалкі» – залы для падняцьця жызьнена важных срэдаточый нашава арганізма.

Многа разнава тада была. Хто-та пашоў патом на нары. Адзін мой друх сьпіўся. Трэцява застралілі на разборках. Бальшынство ж паступова прэўрацілася ў абычны скучны электарат. Тада начыналася і харашо, і плоха. Харашо скончылася. Асталася плоха. Жысьць цічот дальшэ. І ніізвесна што нас ждзе ўперадзі.

## Маё дзецтва

У міня была очынь ціжолае дзества. Бо прайшло яно ў дзірэўні. На отшыбі ад цывілізацыі. Маім васпітаньем займаўся дзет з бабай. З аццом я ні апшчаўся. Мамка тожы пачыла ў Бозе.

Кароча, я быў пратстаўліны самому сабе. Шо хацеў, тое і дзелаў. Краў у сільчан овашчы і хрукты. Называў папа підарасам. За эта мужыкі міня мачылі. Бо ні прывыклі чуць праўду.

Скора я сабраў вакрух сібя найболей прагрысіўных аднаготкаў. І скаланціў з іх банду. Мы навадзілі страх на ўсю акругу. І мужыкі паастылі.

Самымі старшэйшымі былі я, Хвідоха Шмуль і Цімоха Піцык. Сільчані звалі нас скатамі і прарочылі цюрму.

Аднойчы яны ўстроілі на нас аблаву. Білі сільна. Мне адбілі почкі, пічонкі і шо-та ішчо. Цімоха і Фідоха чудам спасліся.

Мы парышылі мсьціць. Злоба затаілася ў нашых сарцах.

Дзействавалі мы пад пакровам ночы. Захадзілі ў хату і адчыквалі мужыкам некатарыя вішчычкі.

Атныні нас стараніліся. Адзінсьцьвінай, хто ў сіле к нам аднасіўся па-чылавечаску, была цёця Тоня, прадаўшчыца сельмага. Ні адзін калхозьнік ні асмельваўся абіжаць іё. Ана давала нам канхветныя падушачкі. А інагда і па шыкалаткі. Ці проста давала нам.

У майво дзеда была ружжо. І я любіў ім балывацца. Аднойчы, калі я быў п'яным, я па ашыпкі разрадзіў яво ў цёцю Тоню. Так мы асталіся біз аднаго саюзьніка.

Але ж ускорасьці прышла бяда. Какой-та ўблюдак прыдацільскі ўсадзіў вілы ў спіну Цімохі Піцыка. Ніізлічымайа рана прыкавала друга к пасцелі. Сіло лікавала. Ды тока нідоўга звучаў смех у горніцах. Яво змянілі пічальныя жалобныя звукі. Послі серыі жыстокіх пытак зладзей быў выданы. Ім аказаўся мой родны дзет. Я ні мінуты ні калібаўся. Убіўца быў прэдан мучыцільнай казні. Бапка пракліла міня навекі.

Учыцца мы ні вучыліся. Бо нашы вучыціля самі ніхуя ні зналі. Знанія мы чырпалі з дзедавай бібліцекі. Тачней, чырпал я. А ад міня прасвішчалася і ўся банда.

Ускоры мы нізверглі прытсідаціля і ўсіцэла ўзялі ўласьць у сіле ў свае нічыстыя рукі.

Людзі прыціхлі ў ажыданы хутшыва. І мы іхнія ажыданья апраўдалі. Прэждзі ўсіво вярнулі крыпасное права. Баршчына, аброк там... Ну і ўсё такое. Аб'явілі сібя памешчыкамі.

У маіх бліжайшых планах была атысканье саюзнікаў і вайна з акрэснымі сёламі.

Але ўскоры ўсю блаш з нас павыбівалі. З раёна прыехала мыліцыя. Акружыла нашы памешчыцкія харомы. Асада длілася тры месяцы. Калі скончыліся патроны, вада і яда, мы капітулірывалі.

Шмуль пакончыў з сабой. Астальныя рабята здаліся на міласць пабідзіціляў. А я збег за граніцу – за рэчку. І доўга скрываўся ў лясах.

Дзецтва закончылася. Наступілі суровыя будні ўзрасленья.

## Аўтабіаграфія Пісточыка і Смаркача

Мама – ліціратура.

Папа – ізык (радной ізык).

Бабушка – традзіцыя.

Дзедушка – хвалькклёр.

Цёця – музыка.

Дзядзя – жывапіс.

Наша любоў – Муза,

а любоўніца – Хандра.

Жаніліся на Жызьні,

і радзіліся дзеткі ў нас Вера, Надзежда, Любоў. Но ані памёрлі ад чумкі.

У 6 лет радзіцілі паслалі ў райскі садзік, бо ім самім этат плод быў запрэцен. Нам застаўлялі есьць малако з пенкай і баклажанную ікру, пахожую на панос. На прагулках кавыраліся сасновымі палачкамі ў пціч’ем гаўне.

Школа ў нас была для нідаразьвітых. Там нас очэнь чотка нідаразьвілі. Мы там пілілі лопзіам, зачышчалі кастылі, дзелалі із шышак ёжыкаў, рысавалі куўшыны і яблыкі. На выпускном мы навучыліся ібацца і піць алкаголь.

Патом – ва ўнівірсіцеце – нам далі пуцёўку ў мір. Мы навучыліся быць анархістамі і пахуістамі. Мы ўпярвые ўвідзелі блядзей і підарасаў. Блядзей мы ібалі, а підарасаў чмошылі. Зьдзесь мы пазналі ўкус канаплі і ніхуя-нядзеланьня.

Работа ў нас была разная, но адзінакава нінужная.

У настаяшчы мамент находзімся ў творчэскам поіске, п’ём кактэль «Будучыня здарыцца з намі», хаця і ня верым, што ана наогул здарыцца.

*P.S.* І нехуй к нам даёбывацца!!!

# Наталка Харытанюк

## РАЙНЭР. МАРЫЯ. РЫЛЬКЕ

### Зыход

(Гісторыя 1)

*Цёплую душу маю на мукі*
*Нехта выдасьць у чыесьці рукі –*
*Знаць душа ня будзе,*
*Што жыла.*
Р.М. Рыльке

Я хварэў. Доўга ўжо. Гадоў пятнаццаць. Усё ад нэрваў, казалі мне знаёмыя. Адныя прыносілі подушкі зь ядлоўцам, на якіх лепей спалася. Другія раілі зьехаць на адпачынак. Неадкладна ў Альпы. Ці хаця б у Карпаты. Нехта адразу настойваў на дактарах. Але я адкладваў. Трываў, колькі мог, бо каму ж ахвота мецца справу з дактарамі. Я абмотваў шыю шалікам, каб сябры ня бачылі прыпухлыя чырвоныя бурбалкі, расчасаныя да крыві. Хаваў пры сустрэчы парэпаныя, усе ў струпах рукі глыбока ў кішэні. Ды і выходзіў на людзі ўжо радзей. Адцягваў, трымаўся, пакуль не наступіла абвастрэньне. Зімою 1926 году мяне шпіталізавалі з дыягназам рака скуры. Шпіталізавалі і паклалі рыхтых у тое самае аддзяленьне, дзе ўжо некалькі месяцаў ляжаў мой стары добры дружа. Мой Рыльке.

Але чаму ты яму не дапамог? Чаму не спыніў, калі быў побач? – пытала мяне пасьля Марыя, абтрасаючы муку з фартуху.

Ён бы цябе паслухаў, ён цябе любіў, – як заўжды задуменна дадаваў Райнэр і раскочваўся, гледзячы на агонь у каміне.

Але чым я мог дапамагчы? І... пры чым тут я? Я хварэў. Чуеце? І мне было блага. Я так стаміўся, што сьвету белага бачыць не

хацеў. І думаць пра вас усіх не хацеў. І вырашаць, што будзе далей. І, і, і… І мне проста хацелася слухаць...

Божа, – казаў ён, – чуеш? Сэрца... Як дзіўна, як спакваля, як цярпліва яно стукае. А калі ўсе гэтыя ўдары скласьці ў адзін? Адзін магутны ўдар, які разарве мяне…

Сапраўды дзіўна, – думаў я. Але крывіўся: не хацелася, каб ён сябе шкадаваў. Гэтае «разарве знутры» сядзела ў Рыльке на языку і ён нібы смакаваў сваю сьмерць: свой рак. Ён баяўся і любіў тую пухліну, якая разрасталася знутры і выціналася, ірвалася навонкі.

Удар, які вырве мяне... у невымоўнае, – выпраўляўся ён і дадаваў: – Я знову, пасьля пустых дзесяці год, хачу пісаць. Разумееш, Божа?

Шпіталь, у якім мы ляжалі, быў высока ў гарах і мы часта сыходзілі туды, каб паразмаўляць. Мы размаўлялі, як гэта бывае толькі перад сьмерцю, пра самае-самае. І, ведаеш, мне ўпершыню было цікава: ён не прасіў і не хацеў, каб я даравау ці судзіў. Ён проста распавядаў мне пра сваю кнігу. Прыгожа-прыгожа распавядаў. Пра сваю апошнюю кнігу… Якую ён толькі пачынаў пісаць.

Як жа я мог умешвацца, Марыя? І нават калі Рыльке задумаў свой зыход, я маўчаў. Я чакаў, зазіраў яму ў вочы і бачыў там – глыбока-глыбока, на залатым дне – таямніцу. Я слухаў і маўчаў.

Хадзем, - казаў мне Рыльке празь сьценку, – я табе нешта распавяду, Божа.

І мы выходзілі. І я зноў слухаў яго гісторыі. І ён усё ўзгадваў, ўзгадваў нешта, каб пасьля, усё ўзгадаўшы, сесьці нарэшце за кнігу.

Ён распавядаў мне пра маленства. Пра замак ля мястэчка Мюнц, у якім ён нарадзіўся і вырас. Пра жужаліц і сьвежы вецер у гарах, куды ён зьбягаў, калі надакучвала забашляць капрызнага малодшага брата. Карузьліка Райнэра. Карузьліка, які заўжды быў побач. Самотны ад незразумелай злосьці, ён чапляўся за Рыльке і баяўся, што той вось-вось зьнікне.

«Рыльке, Рыльке, Рыльке, – румзаў карузьлік цяпер. – Тады і я не застануся болей у замку – пайду ў сьвет, ў бездарожжа...»

Казаў ён зь сьлязьмі ў вачах. У вачах яго былі сьлёзы, але Марыя штоpазу бязьлітасна перабівала яго сваім адвечным «дзе ж ты пойдзеш, небарача» і раздражнёна прасіла «сядзець у сваім замку».

Я і цяпер яшчэ думаю: чым так прывязаны быў Рыльке да гэтага карузьліка? Да карузьліка, маленькага і крыху зласьлівага Райнэра – што магло вабіць? Пэўна, віна. Віна, а зь ёю камень. Камень, які так цяжка зьняць з душы. Камень, які пазьней гучна абрынецца па самім карузьліку. А можа, нават і па мне...

...Спачатку я пачуў скрыгат. Нібыта нехта сіліўся ссунуць зь месца валун. Пасьля – некалькі моцных глухіх удараў і – ўсё… Й вось ён ужо ляціць – цяжкі, вялізны… Ён ляціць долу, туды, дзе вада, туды, дзе нікога ніколі не было. Куды не даходзяць. Ён яшчэ ляціць а ў шпіталі ўжо прачнуліся і паднялі пярэпалах: счэз Рыльке. Запалілі сьвяло, пабеглі па ўсіх калідорах і палатах... Нідзе яго не было.

А пасьля нехта паклікаў да абрыву. Там, над самаю прорваю, ляжаў рукапіс Рыльке. Вецер перагортваў старонкі з санэтамі Арфэю, але ты ўжо быў далёка. І толькі нешта зусім маленькае даляцела ў той момант да вады і ўсе пачулі ціхі ўсьплеск…

І яшчэ чутно было, як шапталіся людзі: «пан Рыльке выкінуўся», «мабыць, ня вытрымаў». «Мг» –ківалі яны – «ён ушчэнт адсамотніўся падканец»… І яшчэ нешта казалі яны. Яны доўга перашэптваліся, схіліўшыся над глыбокаю прорваю, але табе было ўсё роўна. Ты апрануў свой капялюш і адыходзіў. Ты ўжо зноў сьпяваў. Свой далёкі будучы верш. Пра няісны сьвет, пра залатую смугу, пра яе вочы. Нешта вельмі пяшчотнае сьпяваў ты.

Й вось ты пакінуў мне рукапіс і пайшоў, пайшоў... У іншы бок – туды, дзе ніхто і не шукаў цябе. Мне нават здалося, што ты разьвітаўся са мною – зьлёгку штурханоў у левае плячо. Па-сяброўску. Ледзь-ледзь.

Але гэта не магло быць канцом. Сьмерцю. Разьвітаньнем. Я ж у рэшце рэшт – пан Бог. Й я любіў цябе – таму вось яшчэ крыху.

Слухай цяпер ты.

# Вяртаньне

(Гісторыя 2)

*Трое сутак не пакінуць сьцежак,*
*Так штурхнуць бяз жалю ў немату,*
*Што за гэты жудасны прамежак*
*Да ўваскрэсеньня я дарасту.*
Барыс Пастэрнак

У гарах зьявіліся дразды, а вечары ад вясновага сонца сталі аметыставымі і цёплымі. Упершыню пасьля зацятай зімы Марыі захацелася навесьці парадак у доме. Пусьціць сьвятло і сьвежае паветра, падрыхтавацца да Сьвята. Яна пякла пірагі з макам, мыла вокны, вешала чыстыя фіранкі, а ўвечары, стомленая, Марыя выходзіла з дому, каб паклікаць Райнэра на вячэру. Яна выходзіла і каб пагрэцца на сонцы, але ёй усё яшчэ было халадно – калючы горны вецер прадзьмуваў наскрозь і ледзьве не зьбіваў з ног.

Марыя паднялася на ўзгорак, дзе сядзеў хлопчык і схілілася над ім.

Райнэр, Райнэр, – уздыхнула яна. Хлопчык не адказваў: ён самотна сядзеў на камені, ля брамы, і глядзеў на раку. Рака цякла, зьвівалася халоднай бронзавай зьмяёй на дне прорвы. – Годзе блукаць штодня ў гарах і шукаць яго. Хопіць чакаць – ён ня вернецца. Ты чуеш? Ён яшчэ ў шпіталі, – казала Марыя. Затым яна хутала хлопчыка ў сваю хустку і вяла дадому.

Так пачыналася вясна 1927 году ў гарах паблізу аўстрыйскага мястэчка Мюнц.

А пасьля, здаецца, гэта здарылася ў чацьвер перад Вялікднем, «Марыя, – закрычаў Райнэр радасна, – Марыя, паглядзі, хто да нас ідзе». Сонца сьляпіла, адбіваючыся ў вокнах золатам, яно сьляпіла залатою смугою, абрысы расплываліся, і Марыі цяжка было пазнаць таго, хто, падыходзячы да замку, нясьмела клікаў Райнэра.

Рай-нэр, – паўтарыў незнаёмы госьць асьцярожна, нібыта баючыся спалохаць. Нібыта і няпэўны, што гэта той самы Райнэр махаў яму з вакна. Хлопчык бег па лесьвіцы, па старой доўгай лесьвіцы іх старога замку: «Гэта пан Рыльке! – крычаў ён - праўда?»

Ён вярнуўся, – думала Марыя. Яна зьнерухомела і баялася выходзіць...– Вядома, гэта быў ён, бо хто яшчэ можа так ласкава клікаць. Я ведала, што ён прыйдзе, – думала яна. – Я ж усё бачыла: яшчэ даўным-даўно, у стагодзьдзі дванаццатым ці трынаццатым, калі сьцюжа і страх, і ты тады ня сеў са мною ў човен, а адштурхнуў ад сябе і я ўсё плыла, плыла сама… Напрасткі да сьвятла: узмах вясла, узмах крыла – і вось я зноў сустракала цябе. І ты казаў: гэта ўжо калісь было.

А пасьля мне штоp разу прыносілі гэты халодны рукапіс – а, значыць, цябе ўжо нібыта і не было... Але час мінаў і ўсё паўтаралася і паўтаралася. Таму я пэўна ведаю: я зараз адчыню дзьверы – а там ты, летні аметыставы вечар, жужаліцы і так добра-добра.

Гэта ўжо калісь было, – думала Марыя.

Але на ганку быў зусім ня ён. Ня Рыльке. На ганку быў я. Бог.

«Не, Райнэр, гэта ня пан Рыльке,» – спыніла Марыя карузьліка і ўжо строга-строга папрасіла: «Прынясі дровы і запалі ў каміне». Цяпер цяпло было ёй патрэбнае як ніколі: у доме стала халадно і пуста-пуста, бо я працягнуў ёй рукапіс. Моўчкі, як гэта я рабіў заўжды з рукапісамі. З рукапісамі Чатэртана, Антоныча, Купалы… Усіхусіх, якія сыходзілі, каб пасьля ты шукала іх вяртаньня.

Але чаму ты яго не спыніў? Чаму не дапамог, калі быў побач? – спытала мяне Марыя, абтрасаючы муку з фартуху.

Я пакрывіўся, нібы ад болю. Я маўчаў. Я гладзіў свае доўгія вусы і глядзеў на агонь у каміне. Бо я не любіў, калі мяне дакараюць.

Даруй, – выправілася Марыя, – тады распавядзі мне пра вашыя апошнія размовы. Ці ўзгадваў ён пра мяне? – пытала яна, ужо крыху весялей.

Не, – сказаў я, – пра цябе ён пісаў у санэтах, а распавядаў ён пра Райнэра.

Яна зьдзівілася.

Так, пра карузьліка. Пра зласьлівага маленькага карузьліка. Пра тое, як Рыльке было цяжка на душы пасьля іх апошняй сустрэчы з Райнэрам. Рыльке тады вяртаўся з Кіева і прыйшоў у Мюнц, каб пабачыць брата-карузьліка.

Рай-нэр, – асьцярожна паклікаў ён. Каб не спалохаць. Карузьлік не пачуў яго адразу, бо корпаўся ля брамы над дарогаю, што вяла

да замку: ён ладзіў сталоўку для драздоў. Ён любіў птушак, а асабліва драздоў – дый сам быў падобны да іх. «Райнэр такі маленькі, – думаў Рыльке, – мог бы ўхапіцца за пер’е і паляцець, паляцець разам з птушкамі... Але куды яму – карузьлік ёсьць каруьлік: усяго баіцца і чапляецца за зямное. Як гэта ўмеюць карузьлікі...» Размова з братам ня клеілася ад пачатку. Райнэр вельмі нязграбна павярнуўся і рассыпаў зерне. Ён мармытаў нешта злоснае, не прывітаўшы Рыльке, а пасьля, нібы выбачаючыся ўзгадаў: Бог задумаў птаства, відаць, каб пра неба душы нагадаць – і нясьмела так усьміхнуўся, але Рыльке раззлаваўся: яго моцна раздражняла, калі карузьлік сьпіхваў усё на Бога... Калі ён яшчэ больш мізарнеў.

І пазьней, калі яны падняліся ў замак, Рыльке не знайшоу там цябе, свайго Агеньчыка, Бадулінкі, Эўрыдыкі, як ён пасьля цябе называў. А зьбегла ты, вядома, з-за карузьліка – так ён думаў – бо ты не магла быць там, дзе мізэрнасьць. І ён зусім злосна пачаў глядзець на карузьліка, ён узьненавідзеў свайго брата. А гэта – цяжкі грэх. Такі камень, які цісьне на некаторых усё жыцьцё. Які цісьнуў на Рыльке яшчэ доўга. Доўга, пакуль ён не пачаў пісаць. І яшчэ нешта здарылася між імі – я ня памятаю дакладна, але нешта сур’ёзнае, бо пачаў ён пісаць няхутка. Толькі ў шпіталі, толькі калі згубіў і карузьліка, і цябе, – казаў я Марыі.

І мы змоўклі надоўга.

Я думаў: чаму карузьлік – гэта такі цяжар? Марыя, мабыць, думала тое самае, бо нарэшце сумна спытала:

## Чаму *камень* такі цяжкі?

### (Гісторыя 3)

*Сізіфа трэба ўяўляць шчасьлівым...*
А. Камю

Гэты камень вісіць і на мне, Божа, – сумна сказала Марыя і, памаўчаўшы, пачала сваю гісторыю:

Памятаеш, як мы сустрэліся? Мы плылі разам у чоўне. Доўга-доўга плылі: тры дні і тры ночы. А я – уяўляеш – зусім забыла, адкуль і як гэта сталася… А пасьля, ля берага, ты, як заўжды, стаў птушкаю – белым-белым лебедзем, і падплыў да яго. І пан Рыльке гладзіў цябе, гладзіў і сьмяяўся, а пасьля заўважыў заблытаны ў тваім пер’і мой залаты-залаты волас і сьмяяўся яшчэ больш, ад шчасьця, глядзеў праз мой волас на сьвятло і нешта бачыў у гэтай залатой смузе. Ён закахаўся ў мяне ўжо тады – так казаў мне ты. А пасьля… Сам ведаеш, як усё было – ён жа табе пакінуў нашую гісторыю ў санэтах. Амаль усю гісторыю, толькі выкрэсьліў зь яе карузьліка. Пра яго Рыльке не напісаў сапраўды ні слова. А тое, што ён распавядаў табе ў шпіталі – няпраўда: бо гэта я пасварыла пана Рыльке з Райнэрам… Я памятаю, я дакладна памятаю, як усё было. Слухай.

Усё пачалося за дзесяць гадоў да яго хваробы – Рыльке перастаў пісаць. Ён кінуў пісаць раптоўна і нечакана, якраз тады, калі прывез мяне з сабою ў замак, у Мюнц. Там тады жыў ужо толькі Райнэр. І калі Рыльке прачытаў яму свой верш пра Тыцыяна, пра мастака, які – канешне-канешне – маляваў мае валасы, а пасьля абвясьціў, што на гэтым – канец, што ён болей ня будзе пісаць, Райнэр мяне ўзьненавідзеў. Бо ён раўнаваў Рыльке да мяне, а можа, раўнаваў і яго вершы, але ўлады ўжо над Рыльке ня меў.

І Райнэр цьвёрда вырашыў тады вярнуць сабе свайго брата. І ён стараўся з усяе моцы, ён увесь час замінаў нам, ён… ён .. ён патрабаваў ад Рыльке – вершаў… У імя бацькоў, – казаў ён, – вярніся – ты ж майстар!!! Пішы, пішы, пішы… І нарэшце ён прыдумаў, чым вярнуць Рыльке: ён прачытаў яму яго самы лепшы верш: пра лебедзя. Памятаеш: калі пачаў увасабляцца бог – у лебедзя, – зачараваны птахам, – яго красу прымаючы са страхам, – ён адступіцца ад свайго ня змог… І Рыльке здаўся – і ён ня мог адступіцца ад вершаў. Але адступіўся ад мяне – ён думаў, гэта яму дапаможа. Я бачыла яго меней і меней. Ён цяпер ужо злаваўся не на карузьліка, а на мяне, калі нешта не атрымлівалася. Нібыта я забірала ў яго натхненьне, нібыта я прынесла з сабою спустошанасьць… Не, ён гэтага не казаў – але я адчувала. Гэта было жахліва – ніхто раней сабе такога не дазваляў: ні Купала, ні Чатэртан, ні нават Трыстан.

А яшчэ і гэты карузьлік – ён так пераможна глядзеў на мяне…

І таму я вырашыла сысьці. Пакрыўджаная, я басанож ішла з замку, праз браму і зарасьлі ядлоўцу, у прорву, на дно… На залатое дно ішла я адна… Але там сустрэла цябе. Мой белы лебедзь – ты плаваў там, адзін у цемры – і зусім не зьбіраўся ў вырай… Ты пытаў мяне, дзе мой Арфэй, занепакоена пытаў, бо бачыў, як падалі сьлёзы з-пад маіх паніцых вей…

А пасьля, раззлаваны, ты сам прывёў яго да мяне – туды, на глыбіню, у цемру… І Рыльке, вядома, каяўся… Ты, зрэшты, сам ведаеш – памятаеш, як гэта ў яго вершах: цэлы сьвет быў у абліччы мілай – раптам выліўся й разьліўся ён: не сабраць яго, не ахапіць, – што ж ня піў яго я з поўнай чашы?.. – узгадвала Марыя.

Але я ведаў, што Рыльке піў гэты блізкі, гэты духмяны, гэты салодкі сьвет – піў, пакуль не перапоўніўся і не разьліў яго ў вершах… Забыўшы пра цябе, Марыя.

І ты вярнулася пасьля гэтага да яго? – спытаў я Марыю.

Так – усьміхнулася яна, – і тысячу разоў вярталася б зноў.

Яна так шчасьліва усьміхнулася, што я ня стаў пытацца пра лёс карузьліка. Я проста адкрыў рукапіс Рыльке і пачаў чытаць санэты Марыі.

Мы разам чыталі яго вершы. Доўга-доўга чыталі, пакуль не прайшлі тры дні і тры ночы, пакуль не надышоў Вялікдзень. І толькі ранкам у нядзелю я адчуў, як вершы гэтыя зьнялі нейкі камень з душы. Мабыць, Марыя адчула тое ж. Бо яна сказала – лёгка і сьветла – цяпер можна зноў вяртацца. Як гэта заўсёды было, Марыя ўжо чула, як пан Паэт нашэптваў першыя словы свайго будучага верша. І цяпер яна паўтарала за ім: «не, гэта ня сьмерць… гэты няісны сьвет… у залатой смузе… я ў ім тану, тану…»

Мы выйшлі з замку перад усходам сонца і пайшлі долу, да рэчкі, каб там сесьці ў човен і паплысьці. І раптам за сьпінаю мы пачулі пагрозьлівы скрыгат – нехта зьверху зьбіраўся ссунуць камень. Я падняў вочы і пабачыў карузьліка – бездапаможны, ён хацеў спыніць нас хаця б так.

Мы спускаліся далей, а на нас з-за брамы яшчэ доўга глядзелі вялізныя сумныя вочы Райнэра. Шэрыя, як камяні ў Альпах. І дакорлівыя-дакорлівыя.

# Юлія Шадзько

## НІЗКА ВЕРШАЎ НА 6 ПАЧУЦЬЦЯЎ

### Пачуцьцё першае: слых

Слухаю ў цішы душу:
Хутчэй запаволіць рухі.
Мы перайшлі ўжо мяжу,
Адно засталося пастукаць.
Адчыняцца важкія дзьверы
Грукатам стомленых сэрц,
Адно засталося паверыць,
Адно засталося ўзьляцець.
Слухай: гамоніць вецер,
Слухай, марудзячы ўздых.
Чуеш у ягоным шэпце
Згадкі... чыіх таямніц?
Думкі у рытме сэрца,
Сталым рытме Сусьвету.
Слухай музыку ветру,
Слухай музыку ветру.

### Пачуцьцё другое: смак

Пульсы прытуленых веек,
Калі прыпыняюцца гукі.
Так павялося спрадвек:
Горыч – наступства ўзруху.
Голад на сконе зімы,
Усьцяж панаваньне нязгоды.

Годнасьць унікае турмы,
Прагне напіцца свабодай.
Натоўп – самавіты жабрак,
Хоча пазбыцца прымусу
І, праглынуўшы камяк,
Зьведаць на смак спакусы.
Зьведаць на смак пакуты
Горлам, апечаным стогнам:
Так мятлік, белы і смутны,
Б’ецца у шыбіны вокнаў.

## Пачуцьцё трэцяе: дотык

Я адчуваю цябе,
Бы нізкаю рваных думак.
Нязломная ў барацьбе
І гнуткая пад паглумам.
Узьняўшы высока твар,
Шацунак з нудой прымаю.
Усьмешка – праз боль у вачах,
Як нават па шкле ступаю.
І гладкую стужку мар
Пальцы плятуць няспынна
З шурпатага палатна,
Якое мне лёс пакінуў.
Пяшчота ўмее цьвярдзець.
Магу быць дакорам і дарам.
І, меўшы патрэбу ў табе,
Я ўсё ж над табой валадару.

## Пачуцьцё чацьвертае: зрок

Подыхам, повевам, сном
Зашытую сінім сумам,
Укрытую белым радном
Той Нехта мяне прыдумаў.
Чытай у сьлічных вачах,
Вучыся глядзець і бачыць
Бурштынавы сонца бляск
І мора, якое плача:
Бо дарма шчырых размоў
Чакаць ад нямых і блазнаў,
Бо дарма пра колер вятроў
Пытацца ў сьляпых адказу.
Перапыняе злом
Блуканьне па стромкай сіні,
Аж крылы ўспомняць ізноў
Адвечны пазоў вышыняў.

## Пачуцьцё пятае: нюх

Цень пад каменнай сьцяной
За ўладнай мяжою тлуму.
Духмяны ліпны настой
На лёгкім кіпені думак.
Забыцца б на гвалт ды крык,
Аж дыхаць ня можна вольна,
Калі замінае ўздых
Адсутнасьць паветра ў палоне.
У палоне ўпадку і страху,
Дзе галас мацуе мяжу,
Памяць аб волі раптам
Абудзіць водар дажджу.

Бо краты ня могуць сьцерці
Аблокаў нястомны рух,
А пах цынамона й кавы,
Гарбаты рамонкавай дух.

## Пачуцьцё шостае абагульняючае: Пачуцьцё Сябе

Хутчэй запаволіць рухі.
Пульсы прытуленых веек.
Калі прыпыняюцца гукі,
Я адчуваю цябе.
Бы нізкаю рваных думак,
Подыхам, повевам, сном,
Зашытую сінім сумам,
Цень пад каменнай сьцяной –
За ўладнай мяжою тлуму
Слухаю
ў цішы
душу.

# Віктар Ываноў

* * *

Запрасі мяне на кубак кавы
Да сябе. Або на прамэнад.
Запрасі мяне. З табой цікава
Будзе разам есьці шакаляд.
Па мабіле розныя суфлёры
Прамаўляюць: «Ісьціна ў віне!»
Голас глыткі цьвёрды і бадзёры,
Толькі ты не пакідай мяне.

Мне прыемна размаўляць з табою.
Вушкі Волі – гэта белы мак,
Ён мае знаёмыя да болю
Думкі акунае ў новы смак.
Вечар цёплы, і вільготны горад
Ў бруднай захлынаецца вясьне.
Мора дзевак, бы хвастатых зорак...
Сонейка, не пакідай мяне!

Будзь маёю музай! У адліжным
Сэрцы – гулка, пульс як аўтамат.
Я, даруй, *хачу* цябе, калі ўжо
Скінуць паэтычны маскарад.
Электрычны пыл, сухі, як порах,
У маім пакоі; у акне –
Чорная халодная прастора.
Волюшка, не пакідай мяне!

Я цябе кахаю, Воля. Воля,
Ты ж ня скажаш, не, ня скажаш «не»?
Я пішу табе салодкай сольлю,
Я прашу, не пакідай мяне...

* * *

Раньняя вясна – я праветрыў вочы.
Сонейка прыйшло, як глыток паветра,
Чацьвяргі і пятніцы напаіла
    Пахам чарэшні...

Сонейка былое – па-за шчылінай
Паміж аканіцаў маіх павекаў.
Ведаеш, глядзець на сваю былую
    Музу балюча.

Нехта загарае на гэтым сонцы,
Дыхае паветрам і сьпіць спакойна,
Можа напівацца калі заўгодна
    Смакам чарэшні.

Журавель ішоў да мяне ў абдымкі –
Вымавіў «ПРЕВЕД», паляцеў на поўнач,
І рукамі трэба шукаць пустымі
    Новую музу.

# НАСТАЛЬГІЧНЫ АЎТАМАБІЛЬНЫ

Ты ў горадзе маленькі і нямаркі,
Адно мяшкі цягацьмеш на гарбе –
О ЗАЗ! Адкінь свой сорам: на табе
Мы абганялі нават іншамаркі!

У вёсцы вечар. Ты спыніў свой бег.
Я памятаю тут усё: і парк, і
Бабуліну гарбату без заваркі,
І прэзыдэнта ў дзедавым ілбе.

Адпачывае Запарожац верны.
Глядзі: заднематорны і дзьвюхдзьверны,
Чырвоны і нізенькі – як спорткар!

О так, ён сёньня выціскаў сто дваццаць.
Ня верыш? Зазірні між фар, у твар, –
І нават рухавік ня трэба мацаць.

## АЛЬБА ВЭГЕТАРЫЯНСКАЯ

Гадзіньнік хутка стукне, і – гудбай.
Аб адзінаццатай гасьцям дахаты.
Паўскокваць і пагнаць у родны край,
Ляцець па калідоры інтэрнату,
Пакінуць недапітую гарбату –
Зьбягаць, зьбягаць, зьбягаць! Дапабакуль!
Хутчэй на вахту! Дваццаць тры нуль-нуль!

Тут камэндант такі, што ў рот ня суй,
Парадкі нібы ў шостай тут палаце –
Але ж, каханая, яшчэ крыху й
Я пасялюся ў вашым інтэрнаце!
Тут і гарбату піць, тут і сьпяваць, і...
Ну а пакуль – дабранач і пакуль.
Бягом на вахту, дваццаць тры нуль-нуль!

Хоць не хацеў – пакінуў я пакой.
Я свой, але ж я госьць, і мне – у хату.
Я зьдзейсьніў Мару – я наведаў Нату.
Ўсе пальцы мяккай лапушкі сваёй
Мне дорыць каралева інтэрнату.
«То пойду да сябе». – «Давай. Пакуль».
На вахце роўна дваццаць тры нуль-нуль.

## НА АДКРЫЦЬЦЁ ГІПЭРМАРКЕТУ

Беспрацоўны паэт зь Серабранкі
Тут набыў два расійскія танкі,
А з Чыжоўкі пілёт
Прыкупіў самалёт,
Каб пакінуць зямлю Серабранкі.

# ВЫКЛАДЧЫК ФІЛЯЗОФІІ

Рамуальд Вальдэмаравіч быў у садзе. Сад рос на самым беразе, высокім і гліністым, і да вады спускалася пакручастая сьцяжынка. Людзей нікога не было.

Федзя вылез, выцерся бабуліным рушніком, апрануў шорты, крыху запэцкаўшы іх у пясок, і пайшоў у гару. Рамуальд Вальдэмаравіч даеў яблык і назіраў за Федзем.

Яблыкі ў тым годзе былі добрыя. Антонаўкі кісьленныя-кісьленныя, што няма як есьці; а вось астраханка, белы наліў – на здароўічка. Яны і віселі тут невысока, і ляжалі табе цэлыя, і Федзя працягнуў руку.

– Што такое яблык?

– Ну... кгэта – вос, – адказаў Федзя.

Федзя быў нярускі і размаўляў з акцэнтам.

– Гэта, – паправіў Рамуальд Вальдэмаравіч, – вось, – ён падняў старую галюку са ссохлымі зелянцамі, – атрымліваецца таксама яблык?

Федзя замер, лупаючы вачыма, пазіраючы то на Рамуальда Вальдэмаравіча, то на ягоны «яблык».

– Паводле тваіго ж вызначэньня, – патлумачыў Рамуальд Вальдэмаравіч для Федзі, – выходзіць, што яблык – гэта вось. І я задаю цалкам лягічнае пытаньне: гэта вось – яблык? Ці ўсё ж не?

Ён страсянуў галюку, яна абсыпалася.

– А, – дагнаў Федзя, – нэ, нэ. Яблык гэта...

– Дык як вызначаецца яблык? – пацікавіўся Рамуальд Вальдэмаравіч.

Федзя разглядаў свой яблык. Гэта была астраханка, гібрыдная астраханка, зялёная з чырвоным бокам.

– Ён...

– Ну?

– Ён, ён сымачны, – прагаварыў Федзя.

– Дапусьцім, я прымаю тваё вызначэньне – будзем лічыць, што я не заўважыў яго спрэчнасьці і ўнутранай супярэчнасьці. Дапусьцім. А што тады такое «смачны»? – аблізнуўся Рамуальд Вальдэмаравіч. – Як гучыць вызначэньне катэгорыі смачнасьці ў розных традыцыях?

Федзя маўчаў.

– Зразумей, што пакуль ты не ўсьвядоміш, што смак раскладаецца ў чатыры пазыцыі (гэта: пазыцыя кіслага, горкага, салёнага і пазыцыя салодкага), пакуль ты не навучысься параўноўваць вагавы каэфіцыент кожнага смаку, датуль у цябе не сфармуецца правільны дарослы густ, які дазваляе адрозьніваць добрыя яблыкі ад дрэнных і атрымліваць ад гэтага задавальненьне.

– Я тлумачу вельмі цікавыя рэчы. Трэба ўмець супастаўляць колькасьць калёрыяў, тлушчаў і бялкоў у кожным канкрэтным яблыку, так і ў цэлым, абагулена, і бачыць карэляцыю з выніковым выхадам смаку. Калі ты гэтага ня бачыш, ты захвараеш на дызэнтэрыю. Які ў цябе стул?

– Я задаў канкрэтна акрэсьленае пытаньне: які ў цябе стул? Адказвай і не адымай часу. А ты, як апошні калгасьнік, апэлюеш да дзіцячай бінарнай апазыцыі «смачна – нясмачна». Я таксама магу сказаць, што мне смачна альбо нясмачна. Я гэтага не раблю. Зразумей, усё нашмат складаней, фракцыяў ня дзьве, а чатыры. Дык я не пачуў адказу: які ў цябе стул?

І ты мне не адказаў і на тыя два пытаньні. Што такое паняцьце яблыку? Як вызначаецца катэгорыя смачнасьці?

– Ві... ві хуйня! Цьху цібе на хуй! – крыкнуў раптам Федзя.

Рамуальд Вальдэмаравіч глядзеў усьлед. У Федзі ўпала сандаля і ехала за ім.

Філёзаф паціснуў плячыма, павярнуўся і пайшоў у глыб саду.

# ФОРМУЛА

## I

Заняпад сучаснае формулы 1 бярэ свой пачатак у сярэдзіне 90-х гадоў, калі нездаровае імкненьне да бясьпекі спаборніцтваў прывяло да рэзкага паніжэньня хуткасьцяў. Пасьля сыходу высокапрафэсійных пілётаў, такіх як Хіл, Хакінен, Алезі, Бэргер, у пэлетоне засталіся маладыя і даволі пасрэдныя гоншчыкі. Апошні прадстаўнік пакаленьня чэмпіёнаў, немец Міхаэль Шумахер, дзякуючы адмысловаму баліду і працы другога пілёта ўзяў пяць тытулаў запар.

Сёньняшняя формула 1 заканчвае свой жыцьцёвы цыкль. Камандаў-удзельнікаў удвая менш, чым было яшчэ дзесяць год таму. Нават у канструкцыі балідаў можна заўважыць паралелі з эпохаю 50-х.

– А далей?

– Далей будзе пра гэтыя паралелі, – адказваў Гопліцын, – будзе пра паралелі, потым яшчэ пра што-небудзь, а ў наступным разьдзеле я пачну ўжо там пра розныя цікавыя мадэлі... або пра правілы.

– Ну, добра, – сказаў я. – Пішы.

– Я напішу кнігу пра крызыс формулы 1. Чым яна была, куды яна коціцца. Цяперашнія фанаты нічога ж гэтага ня ведаюць, акрамя часопісаў сваіх, – прамаўляў ён, – глянцавых. Слухай, а нічога піва?

– А то, – адказваў я. – Адзіны, лічы, наш гатунак, які яшчэ можна піць. Ну, можа, «Аліварыя» неблагая.

Выпілі.

– Такім чынам, – разважаў Гопліцын, – мая кніга ня мае аналягаў на сёньняшні дзень. Яно, па-першае, вельмі цікава выкладзена (стыль у мяне жывы, пагадзіся). Ну і па-другое, фактычны матэрыял. Тую ж Монцу ўзяць, якая цяпер і якая сорак год таму.

– Ведаеш, шт**о** я табе параю, – перапыніў я. – Напішы дысэртацыю пра формулу 1. Дысэртацыю для сябе. Распішы ўсё-ўсё, падрабязна, без наваротаў, без... ты даслухай: а потым – потым, – карыстаючы дысэртацыю як аснову, паспрабуй самае цікавае зьве-

сці ў адно. Няхай гэта будзе артыкул, ня кніга, – не ганіся за аб'ёмам. Твая задача, каб чытач не заснуў.

… – Чаму формулу 1 не вывучаюць ва ўнівэры?

Мы добра пасядзелі, і Гопліцын вымаўляў «ньўыўчаьсь».

– Ну, усяго табе, я паскакаў, – адказаў я. – Спаць кладзіся.

# II

– Білет №43. Эпоха Проста і Сенны – агульная характарыстыка.

Кастыленка паялозіў у крэсьле, прысядаючыся да яго.

– І чым такім знакамітая эпоха Проста і Сенны? – спытаў ён у студэнта.

– Ну... Яна... яны абодва... яны былі чэмпіёны.

– *Волга впадает в Каспийское море*, – падумаў Кастыленка, а сам сказаў: – Далей.

Студэнт працягваў:

– Яны... у росквіт гэтай эпохі яны былі абодва... выступалі за адну каманду.

– (*Лошади кушают овес и сено.*) За якую ж каманду яны выступалі?

– Спачатку Сенна быццам бы выступаў... не, зусім спачатку ён выступаў у... здаецца, «Лотусе» – або ва «Ўільямсе»?

Памаўчалі.

Кастыленка пацягнуўся, храбуснуў пальцамі. У прынцыпе, ён здагадваўся, колькі балаў атрымае студэнт, але сам адказ ператвараўся ў нудную, для абодвух пакутлівую працэдуру.

Ён паглядзеў на гадзіньнік.

– Ну, вырашай ужо хутчэй, дзе ён выступаў.

– У... «Уільямсе».

– Добра, няхай будзе «Ўільямс».

– Не, я памыліўся, у «Лотусе». Я дакладна памятаю, «Лотус» яшчэ быў нейкага колеру... зрэшты, рэч ня ў гэтым. Але потым, калі яны перайшлі ў «Мак-»... у каманду, дзе Яны... за якую яны абодва выступалі...

– Стойце, стойце. Хто перайшлі?

– Прост... і Сенна.

Кастыленка адкінуўся ў крэсьле і палічыў да дваццаці пяці. Працёр акуляры і сказаў:

– Добра. Давайце спачатку вызначым пэрыяд.

– Які?

– Ваш пэрыяд, які ў вас у білеце, – і пачуўшы нейкае цьмянае мармытаньне: – Карацей. Прост і Сенна – гэта калі?

– Прост?

– Не, стоп, – сказаў Кастыленка. – Лепей пачнем ад канца. Пасьля якой падзеі скончылася гэтая эпоха? Добра, падкажу вам яшчэ. Калі загінуў Сенна?

– А, так! Я прыгадаў, прыгадаў: Сенна ж загінуў.

Студэнт раптам заўважыў, якія ў дацэнта цяжкія акуляры, якія ўжо сівыя валасы...

«Батан стары, а туды ж, – падумаў ён. – Ты калі за руль сядаў, пацук габінэтны?»

– Айртан Сенна да Сілва, – пачаў Кастыленка сіплаватым тэнарам, – загінуў у Імале першага траўня, на праваслаўны Вялікдзень. Загінуў чыста выпадкова: асколак падвескі трапіў проста ў твар, сам какпіт быў амаль што цэлы. Сенна страціў чатыры літры крыві, частку мозгавага рэчыва і памёр увечары таго ж дня. Дык калі гэта адбылося?

«Будзь што будзе,» – вырашыў студэнт і прамовіў:

– Гэта было ўвесну.

Экзэкуцыя блізілася да завяршэньня.

– Я не разумею, як так можна: ісьці на іспыт па гісторыі аўтаспорту і ня ведаць, колькі было Хілаў. Патлумачце мне, як яно ў вас атрымоўваецца.

Кастыленка трымаў асадку над залікоўкай. «Быццам бормашына», – падумаў бедны студэнт.

– Індыкар у вас быў? Значыць, будзе на другім курсе. Як вы думаеце здаваць Індыкар? А Наскар пойдзе, а эўрапейскія кузаўныя сэрыі, а на трэцім курсе ралі? Формулу 1, аснову... ай. На.

– К-колькі? – ня вытрымаў Гопліцын.

– Два балы, – сказаў выкладчык. – Адзін за першае пытаньне, другі за другое. Табе – во так хопіць.

## III

Сонца яшчэ не ўзышло.

Пранесься тралейбус.

«Гоншчык», – усьміхнуўся Гопліцын і павярнуўся на другі бок.

# Юлія Яфімовіч

## ГРАВІЙКА

Дзе палі паараныя стагналі, дзе разросься рэдкі лес, ішла звычайная дарога-гравійка, рудая і пыльная. Дзьве невялікія вёсачкі зьвязвала ды гублялася па палях і лясах. Любіла яна цёплы летні дожджык, яшчэ – сонейка, што так мякка сушыла пасьля дажджу. Не любіла – коней – тыя балюча білі капытамі. А больш за ўсё на сьвеце ненавідзела яна машыны. І гэта было ўзаемным. Хоць машыны былі тут ня часта, адчувала яна ад іх небясьпеку. А яшчэ яна зьвязвала лёсы людзей. Вяла іх па жыцьці...

На неба панапапаўзалі фіялетавыя хмары. Дзяўчынка ў шэрай куртачцы, зь белымі валасамі глядзела то на неба, то ў далечынь, куды зьмяілася гравійка. І хацелася ёй моцна-моцна пайсьці туды, дзе неба зьядналася з маладой зелянінай палёў. Каб дахі гэтых хат і крывулі старых электрычных слупоў растварыліся ў чырвані пылу, каб далёка ззаду застаўся чарнаваты хвойнік, што так блізка пасадзілі ля вёскі. Бо дзесьці на дарозе абавязкова будзе ён: падарожнікам будзе крочыць па гравійцы і шлях спытае. А можа ў невядомай вёсцы сустрэнуцца яны, ці ля рэчкі ён будзе лавіць рыбу. З вачамі любімага героя і чымсьці падобны на суседа Віцю. Сьмелы – усіх ваўкоў паразганяе. І добры. Пойдуць яны разам шукаць шчасьлівую будучыню. Па дарозе будуць Рваць касачы і есьці чарніцы. Дарогу перабег вялікі кудлаты сьнежна-белы сабака і зьнік у лесе. Можа, яго?! Дык можа ўжо зараз і пайсьці!.. Але цёмныя плямы пачалі зьяўляцца на дарозе – дождж. З-за плота жанчына пачала клікаць дачку дадому. Тая ўздыхнула і пайшла ў хату. А буйны і часты дождж размываў на гравійцы яе сьляды.

Брудны дзядоўнік, невыразныя хмызы лазы па-над дарогай. Па дарозе сунуўся чалавек. Незадаволены і нешчасьлівы. Ён ня ведаў, у чым сэнс яго жыцьця і таму не хацеў жыць. Выбіваў нагамі каменьчыкі. Аб тым, куды ідзе, ён ведаў толькі адно: наперад. Калі жыцьцё – проста марнаваньне часу, ці ня ўсё адно, як яго

марнаваць. Не крануў душу яго анэмонаў лёгкі сьнег на лясных палянках; дразды так мэлядычна сьпявалі, здаецца, толькі для яго, але ён пакінуў лес, не пачуўшы іх сьпеваў. Бачыў толькі каменьчыкі пад нагамі. Ды ўсё ж заўважыў невялікі кар'ер недалёка ад дарогі. Рашыў адпачыць ля вады. Падыйшоў – і жахнуўся: у невялікай і неглыбокай гэтай азярынцы – добра можна было разгледзець жоўтае дно – плавалі вялізныя рыбіны, плавалі ляніва, нічога не шукаючы, ды разяўлялі шырокія пашчы. І чаму іх ніхто не вылавіў? Ен наблізіуся да самай вады і пачуў нечы лямант: «Не чапайце іх! Ну толькі не чапайце!» Да яго падбегла худая жанчына і адразу ж пачала ўсхвалявана крычаць: «Вы не чапайце маіх харошых! Я іх маленькімі знайшла. Мне іх вельмі шкада стала, бо галадалі яны моцна: ні мухі ніякай тут ім, ні камара. Нават травінкі пасмактаць і то няма. Я іх кармлю. Бачце, якія ўжо вырасьлі? Баюся цяпер моцна, каб які чужы ды не палавіў іх. Прыйду – а іх няма! Што я буду рабіць?! Я ж толькі раз на дзень магу прыходзіць сюды: да вёскі два кілямэтры». Ён глядзеў на яе і вочы яго сталі вялікімі. «Вы толькі не падумайце, што я вар'ятка, – пачала апраўдвацца яна. – Проста жыву адна, а так важна хоць камусьці быць патрэбнай». «Па-вашаму, у гэтым сэнс жыцьця?» – крыху падумаўшы, спытаў ён. «Можа, і ў гэтым», – адказала яна. «Я пайду, – уздынуў ён. – Карміце сваіх рыб. І глянуўшы апошні раз на гэтых пачвар, што плёскаліся ў сваёй неглыбокай сажалцы, ён пакрочыў далей. «Я толькі вас папрашу, – крыкнула яна яму наўздагон. – Калі ўбачыце каго на дарозе, растлумачце яму...» І стаяла на беразе, падобная на траву асакі. А ён ішоў. Думаў пра яе і шкада яе было яму, і хацелася паказаць ёй, што жыцьцё можа быць лепшым, ды сам у гэта ня верыў. Неба так часта мяняла сваё воблачнае ўбраньне. Залацістай мядзянкай вілася гравійка – нізкае сонца залаціла ўсё і ўсіх. Па гравійцы гэтай ішоў чалавек, быў ён у глыбокім роздуме і нават не глядзеў, куды дарога вядзе яго. Глыбока ў душы ён ужо ведаў, хоць баяўся сам сабе прызнацца: гэтая ж дарога павядзе яго заўтра назад, да малой жоўтай лужыны.

А была ж вясна! Адцьвіла ўжо розная там дробзь – вясьнянка, пастушыная сумка ды селязёначнік. Прайшоў той час, калі радасьць перапаўняла ад кожнай белай драбнюткай квяцінкі. Цяпер – кра-

савік. І ў лесе на ўсю моц зацьвілі сапраўдныя кветкі. Кожная лагчынка шчодра зазьзяла золатам лотаці. Берагі лясных азярынак убраліся бэзам фіялак. Па гаёчках страшна было хадзіць! І не хацелася затаптаць ніводнай чубатчынай галоўкі, ніводнай галінкі медуніцы, ды паўсюдна вытыркаліся яны. Абысьці ж анэмоны, якія вецер церабіў доўгімі сваімі пальцамі, было зусім немагчыма. Таму яна ішла па дарозе. Усяго шэсьць кілямэтраў. Ад вёскі да вёскі. Як ніхто, мусіць, любіла яна гэту дарогу. Палюбіла, як пазнаёмілася ў суседняй вёсцы з чалавекам. Чалавек той цяпер для яе – самы дарагі на сьвеце. І таму, што ён ёсьць, такая незвычайная цяпер вясна. Такая незвычайная яна. Усьміхаецца кветкам, вітае ледзь яшчэ зялёныя бярозкі. Птушкам падпявае. Ды заўважае ўсё-ўсё: і маленькага петрыка на камлі старога дрэва, і матыля, што толькі нарадзіўся і распраўляе мокрыя крылцы, і на аксамітнай падушачцы ізумруднага моху – даўганогага павучка ды тры расінкі. Не ідзе, а быццам танчыць. Усе знаёмыя, што сустракаюцца на шляху, нібыта дакараюць яе, а самі патаемна любуюцца; незнаёмыя ж доўга пазіраюць ёй наўздагон: менавіта такой у іх дзіцячых кніжках малявалі вясну.

Дарога вяла іх двох. Большага і меньшага. Вяла да шырокага мэліяратыўнага каналу. Яны абодвух былі з вудамі і гаварылі толькі пра рыбу. Так страшна ісьці па дарозе, калі над галавой вісяць зоры. Так страшна! Нават калі яны ўжо растаюць, і неба ня чорнае, а нібы разьведзеная акварэльная фарба. Але лес, нарэшце, застаўся ззаду, і сэрца ўжо б’ецца цішэй. Сябар старэйшы – не такі ён і сьмелы – расказваў тое, у што сам ужо ня верыў. І пасьміхаўся. А малы і зараз бачыць у тумане постаці крыважэрных істот, таму часта пазірае на неба ды слухае пра шчупака, што даўжэйшы за два мэтры. Не, усё-ткі мэтраў пяць-шэсьць. Шчупак ляжыць на дне канала і ўвесь аброс водарасьцямі. Нікуды ён ужо ня плавае, толькі разяўляе шырачэзную пашчу і рыбы самі ў рот яму заплываюць. «Думаюць, што надзейная будзе схованка ад шчупакоў», – сьмяецца старэйшы і дадае: Калі-небудзь шчупак свае бокі адляжыць ды захоча паплаваць. Вось тады яго можна будзе злавіць».

Як цяжка ўвесь час глядзець на паплывок, калі такое вакол хараство! Птушак чутно ня так ужо і многа – птушкі зараз сьпяваюць

у лесе, але сонца вострыя праменьчыкі ніжуць апошні туман, і над малочна-сінім далёкім лесам разаслана яркая-яркая, аж у чырвань, посьцілка. На ёй – адна толькі доўгая хмара. І яна плыве, павольна, быццам той самы шчупак. А, можа, і ён ужо зараз усплыве... Схопіць яго прынаду. Трэба толькі чакаць. Вудзільна туга напнецца, і яны будуць змагацца. Рыба і чалавек. Калі ён выцягне гэту пачвару на бераг, нават птушачкі пазмаўкаюць і пааткрываюць раты. Потым зьбягуцца ўсе людзі. Яны будуць пытаць у яго, што зробіць ён з гэтай рыбай.

А ён пакажа яе той лупатай дзяўчынцы, што вечна зь яго сьмяецца. Няхай ведае, з кім мае справу! Тады яна яму ўсьміхнецца. Сваімі тонкімі вуснамі... «Ну ты і разява! Рыбы даўно ўжо ўсё зьелі!» – крыкнуў над вухам сябар.

Так хацелася ценю, як апоўдні вярталіся дадому. Хутчэй бы ўжо той лес. На небе – ні аблачынкі. У вядзерцы старэйшага боўталіся дробныя сіняўкі ды адна ладная плотка. Малы бразгаў пустым вядром. Але шчупак зловіцца, сёньня ці заўтра. Ён быў упэўнены ў гэтым. А хоць і не. Вось вырасьце вялікім і знойдзе, чым зьдзівіць тую, лупатую. Можа, яна нават скажа: «А давай сябраваць». І тады ўжо ён будзе весьці яе па гэтай дарозе і расказваць розныя страхі. Але ёй ня прыдзецца баяцца. Бо дарога – зусім недалёкая, а ён – такі моцны.

Дарога – гэта рака. Прытокі гравійкі пранізалі ўвесь лес. Шырокая была ў яе пойма: безьліч лясных грунтовых дарог, якія блішчэлі лужынамі ў зарослых ваўчкамі трактарных каляінах. А ад іх струменіліся сьцежкі і сьцежачкі, ахопліваючы бары, гаі ды алешнікі. Цяжка заблукаць у такім лесе, але калі ісьці ўвесь час на поўдзень, то можна натрапіць на востраў бездарожжа. Людзі, якія жылі на ім, ненавідзелі дарогі і не вытоптвалі сьцежак. Яны ўсе жылі ў адным доме – невялікай хацінцы, бо было іх толькі трое. Ён, яна і іхні сын. Вялікі ўжо хлопчык. Шчасьлівы – бацькі любілі яго, адно аднаго і свой лясны хутар. Гісторыя іх звычайная: пазнаёміліся многа гадоў таму і пакахалі адно аднаго. Проста яны самі аказаліся незвычайнымі: разумелі прыроду, а не людзей. І, калі сталі ўдвух, стварылі свой сьвет, невялічкі космас, што злучаўся з космасам абсалютным. Адмысловы дамок, уцеплены сівым мохам,

не ўваходзіў у гэты космас – у яго ўваходзілі хваіны, з учарнелымі ад старасьці камлямі. Хваіны расьлі на пяшчаным узгорку, які награваўся за дзень так, што хрыбусьцеў пад нагамі шызы лішайнік. Тады можна было вечарам легчы проста пад адкрытым небам, каб паназіраць за вечным карагодам зорак. Яе валасы пахлі нагрэтым пяском, чаборам і расталай смалой. У вачах іх сьвяціліся зорныя блікі, душа рабілася неаддзельнай ад душы ўсяго існага. Высокіх траў, далёкіх зор... Раніцай балотца пад узгоркам будзіла іх крэктам жаб. І яны з усьмешкай віталі такую вялікую дзённую зорку. Зімой зьбіралі сьпелыя каліны. Вясной ажыўлялі жытнія зярняты. Ці трэба быў ім яшчэ хтосьці? Але ў іх нарадзіўся сын. Яны палюбілі сваё дзіця так, што падаравалі яму ўсё, што ў іх было, напоўнілі кожную хвіліну яго дзяцінства радасьцю і ніколі ня бачылі ў ім проста свайго будучага памагатага: «У ім – часьцінка Яго». «У ім – часьцінка Яе». Але ці ж будзе ў тым іх віна, што адно аднаго яны любілі больш.

Калі на небе зьяўляюцца белыя гурбы аблокаў – значыць прыйшла вясна. Раставаў сьнег, зелянелі дрэвы – так было многа разоў і гэта заставалася нязьменным. Толькі крыху падрасталі дрэвы і зьмяняліся бацькі. Але самае галоўнае – хлопчык адчуваў, што сам рабіўся іншым. Гэта і хвалявала і непакоіла яго. Надзіва рана ў гэтым годзе зьявіўся сон. На сасновым узгорачку ён рос адвечна, але цьвіў намнога пазьней. Можа, таму ў душы хлопчыка нарадзілася трывога. Ды, хутчэй за ўсё, трывожна было, бо даведаўся: зоркі, што так хутка поўзаюць па небасхіле, не такія, і створаны людзьмі. Якія яны – іншыя людзі – думаў ён цяпер вельмі часта. Калі шукаў маршчыністыя змарчкі, калі назіраў, як тоўсты чмель спрабуе сесьці на ружовы ліхтарык чарнічніку, калі ішоу па празрыстым бярэзьніку на разробленае бацькамі поле. Ён пытаў у бацькоў, але яны не любілі пра гэта расказваць. І таму задуменны блукаў па лесе. Сон ўжо адцьвіў, адцьвітала лотаць. Ён зьбіраў апошнія кручочкі арляку, каб насушыць на зіму, але ўвесь час чагосьці не хапала ў душы. Так цяжка было гаварыць бацькам, але маўчаць ужо было немгчыма. Быў ўпэўнены, што яны не зразумеюць. Але яны сказалі толькі, што дзень трэба ісьці ў бок поўначы. Тады зьявіцца стужка-дарога і па ёй ужо куды заўгодна можна трапіць.

Наступнай раніцай зьбіраўся. Не верылася, што можна ня бачыць больш гэтай хаткі, хвой высокіх. І востры сум мяшаўся з саладкаватым прадчуваньнем невядомага. Бацькі стаялі і глядзелі. Глядзелі, як дзеці, з якойсьці цікаўнасьцю. Бяз болю ў вачах. Цяпер ён заўважыў, наколькі тыя ўжо проста адна істота. А потым ён пакідаў ззаду любімыя мясьціны. Адну, другую... Няпраўда, што ўвесь лес вельмі падобны. Калі ён ішоў па незнаёмым лесе, сэрца млела ад захапленьня. Усё настолькі не такое! Нават хвоі больш залацістыя і пад нагамі зьявіліся незнаёмыя расьліны. Нарэшце ён выйшаў на дарогу. Глыбокія каляіны яе ўжо зарасьлі ажыньнікам, таму не было ніякага сэнсу ісьці па ёй, але ён увесь час яе трымаўся. Потым лес пасьвятлеў і раптам скончыўся. Дарога, чыстая і неглыбокая, ішла па-над каналам па полі і ня так далёка зьлівалася з гравійкай, якая, нібы цар-вуж, разьляглася на высокім насыпе. Калі ногі яго ступілі на гравійку, дзесьці там, у лесе, стаялі і глядзелі ў бок поўначы яго бацькі. Ён зьвярнуўся да яе: «Думаеш, ён вернецца?» Яна маўчала. У вершалінах дрэў кружылі птушыныя песьні. Такія узьнёслыя. Лілося навокал бясконцае жыцьцё. Канечне ж, ён вернецца, магчыма і не адзін. Увесь маленкі гэты космас навек пасяліўся ў душы яго і нічым адтуль яго ня выціснуць. О, як моцна яму будзе не хапаць там гэтага кавалачку прыроды. Ён стаяў на дарозе і думаў, у які бок пайсьці. Як моцна зьмяняецца жыцьцё! Ці ня ўсё адно – у які. І пайшоў. Маленькая лясная птушачка, што так даўно патаемна любіла яго і ляцела за ім усю дарогу, самотна сядзела на галінцы лазьняку ды паглядала, як на доўгім трохкутніку дарогі памяншаецца яго постаць.

А летам гравійку заасфальтавалі... Звычайная справа. Як і усе дарогі. Вельмі зручына для машын. Ніякага пылу. Спытайце ў хмызоў, што стаяць цяпер чыстыя і хіляць галіны, прапітаныя сьвінцовымі солямі. Новая дарога нагадвае камяні, якія няздольны адчуць гэты сьвет, пакрытыя тоўстым слоем фарбы. Ляжаць яны ля шашы, з намаляванымі на баках рысямі і зубрамі ды ўспамінаюць, пэўна, былыя свае відушчыя дні: халодныя асеньнія дажджынкі, казытлівыя промні нябесных целаў.

# Зьмест

Літаратурна-мастацкае выданьне

# In Вільня veritas

Творы фіналістаў конкурсу маладых літаратараў, прысьвечанага стагодзьдзю газэты «Наша ніва»

Укладальнік і рэдактар *Андрэй Хадановіч*
Вокладка *Арцём Лявы*
Вярстальнік *Сяргей Кандраценка*

Падпісана да друку 25.03.2007 г.
Формат 84х100 1/32. Папера афсэтная.
Друк афсэтны. Гарнітура Pragmatica.
Ум. друк. арк. 9,4. Ул.-выд. арк. 9,45.
Наклад 500 асобн. Замова .

Выдавец І. П. Логвінаў.
ЛИ 02330/013307 ад 30.04.2004 г.
220050, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 19–5.
logvinovpress@mail.ru

Друк **ТДА «НоваПрынт».**
ЛП 02330/0056647 ад 27.03.2004 г.
220047, г. Мінск, вул. Купрэвіча, 2.